ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 51 (2512)
ПЯТНІЦА
18
верасня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Фотаэцюд Г. БЯЛІЦКАГА.

Пажаўцелі сцяблінкі
Травы-муравы,
Адцвілі верасы на узлессі.
Журавы, журавы,
Ці сумуеце вы,
Пакідаючы наша Палессе?

Што шукаеце вы —
Цеплыні? Сінявы? —
У прастуджанай волкай шыры?
Журавы, журавы,
Што панеслі ад нас
Вы з сабою на крылах у вырай?

Ну, а нам — зімаваць,
Сумаваць да цяпла,
Слухаць сцюжы завейныя скокі
І чакаць, покуль зноў
Паплыве з-пад крыла
Ваша песня у небе высокім.

М. ПРАКАПОВІЧ.

*У МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ БССР*

# РАБОТНІКІ КУЛЬТУРЫ— З'ЕЗДУ ПАРТЫІ

**Калегія Міністэрства культуры БССР абмеркавала і адобрыла сацыялістычныя абавязацельствы работнікаў культуры Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці і калектыву Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы ў гонар маючага адбыцца XXIV з'езда КПСС.**

**Падрыхтоўка і правядзенне 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, гаворыцца ў абавязацельствах культасветработнікаў Нясвіжскага раёна, азнаменаваліся новымі дасягненнямі ў культурным жыцці раёна. За кошт сродкаў калгасаў і саўгасаў у раёне пабудавана 10 клубаў і бібліятэк. У новых добраўпарадкаваных дамах культуры адзначылі ленінскі юбілей працаўнікі калгасаў імя Калініна, «Новае жыццё», «Ленінскі шлях», рабочыя саўгаса «Гарадзейскі» і іншыя. У 60 з 64 будынкаў культасветустаноў праведзен капітальны рамонт. Калгасы і саўгасы раёна выдаткавалі больш як 200 тысяч рублёў на набыццё культінвентару, абсталявання, музычных інструментаў, тэхнічных сродкаў прапаганды, тэатральнага рэквізіту. Павысіўся ідэйны змест і мастацкі ўзровень праводзімых мерапрыемстваў, узбагаціўся рэпертуар калектываў мастацкай самадзейнасці.**

**Разглядаючы падрыхтоўку да маючага адбыцца XXIV з'езда КПСС як працяг ленінскай працоўнай вахты, работнікі культуры раёна прынялі на сябе новыя сацыялістычныя абавязацельствы. Яны абавязаліся да дня адкрыцця з'езда партыі здаць у эксплуатацыю памяшканне Хвоеўскага сельскага клуба, пачаць узвядзенне тыпавых будынкаў палацаў культуры ў калгасах «1 Мая», «Зара». Калгасы і саўгасы ажыццёвяць вялікі аб'ём работ па капітальнаму рамонту культасветустаноў. Да 10 кастрычніка ўсе ачагі культуры будуць падрыхтаваны да работы ў зімовых умовах. Пры 16 установах намечана азеляніць тэрыторыі ў калгасах «Радзіма», імя Дзяржынскага, «Ленінскі шлях», закласці мемарыяльныя паркі, а пры радзе клубаў і дамоў культуры пасадзіць алеі, добраўпарадкаваць месцы масавага адпачынку працоўных.**

**Будзе прадоўжана работа па стварэнню новых самадзейных калектываў, у радзе месц адкрыюцца музычныя лекторыі, а ў народным універсітэце пры раённым Доме культуры — факультэт музычных ведаў.**

**Бібліятэкі правядуць эстафету пад дэвізам «XXIV з'езду КПСС — натхнёную працу». Дадаткова да 39 наяўных перасовачных бібліятэк намечана стварыць 11 галіновых перасовак, палепшыць прапаганду літаратуры. Бібліятэчныя работнікі будуць змагацца за тое, каб прыцягнуць да чытання бібліятэчных кніг усё насельніцтва, палепшыць абслугоўванне дзяцей. Кніжны фонд кожнай сельскай бібліятэкі папоўніцца не менш як 500 экземплярамі новых кніг.**

**Абавязацельствамі прадугледжваецца палепшыць работу па падбору і вучобе кадраў культасветработнікаў. Пры Нясвіжскай і Гарадзейскай дзіцячых музычных школах будзе арганізавана курсавая падрыхтоўка баяністаў. Палепшана будзе метадычная дапамога культасветустановам.**

**Калектыў акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, які адзначае ў гэтым годзе сваё 50-годдзе, у сацыялістычных абавязацельствах ставіць галоўнай задачай далейшае павышэнне ідэйна-мастацкай якасці рэпертуару, стварэнне новых значных спектакляў, якія праўдзіва адлюстроўвалі б барацьбу партыі і народа за перамогу камунізма. Да дня адкрыцця з'езда тэатр паставіць тры новыя спектаклі па п'есах беларускіх драматургаў. Напярэдадні і ў дні работы з'езда будзе арганізаван паказ лепшых спектакляў тэатра.**

**Калектыў расшырыць паказ сваіх спектакляў сельскаму гледачу. Будзе аказана дапамога калектывам мастацкай самадзейнасці. Тэатр створыць у сельскай мясцовасці свой «спадарожнік».**

**Намечаны меры па падбору, вучобе і выхаванню кадраў.**

**Калегія Міністэрства культуры БССР рэкамендавала ўсім работнікам культуры і творчым калектывам рэспублікі падтрымаць ініцыятыву культасветработнікаў Нясвіжскага раёна і калектыву тэатра імя Я. Купалы і ўключыцца па іх прыкладу ў спаборніцтва за дастойную сустрэчу XXIV з'езда КПСС.**

**БЕЛТА.**

# У ГЭТЫЯ ДНІ...

**...ЗАКОНЧЫЎСЯ**

*ў Доме культуры Мінскага ордэна Леніна трактарнага завода конкурс эстрадных аркестраў III Усебеларускага фестывалю моладзі, прысвечаны 50-годдзю Ленінскага камсамола Беларусі. У конкурсе ўдзельнічалі эстрадныя калектывы Мінска, Гомеля, Брэста, Віцебска, Магілёва, Кобрына, Барысава, Навабеліцы, Рэчыцы і іншых гарадоў рэспублікі.*

*Лаўрэатам фестывалю стаў эстрадны аркестр Дома культуры салігорскіх гарнякоў.*

**...АДКРЫЛАСЯ**

*ў Мінску ў памяшканні Саюза мастакоў выстаўка твораў беларускай графікі з фондаў саюза. На выстаўцы — каля 100 работ беларускіх мастакоў. Сярод аўтараў — М. Гуціеў, Л. Асецкі, М. Бельскі, А. Волкаў, М. Макарэнка, М. Чэпік і іншыя.*

**...ЗАКАНЧВАЕЦЦА**

*распрацоўка конкурснага праекта сталіцы ўкраінскіх гарнякоў Данецка ў інстытуце «Белдзяржпраект». Беларускія архітэктары выязджалі ў Данецк і азнаёміліся з тэрыторыяй забудовы.*

*Беларускі варыянт Данецка распрацоўвае аўтарскі калектыў архітэктараў у складзе Ю. Глінкі, Я. Лінevіча, М. Гардзіенкі, Г. Пальчэўскай, інжынераў А. Носава-Белякова, Э. Арцёмчыка, Л. Каўчынскага.*

**...АДБЫЎСЯ**

*ў Беларускім дзяржаўным тэатры імя Я. Купалы пяцісоты спектакль па п'есе Андрэя Макаёнка «Лявоніха на арбіце». Ролю Лявоніхі ўсе пяцьсот разоў выконвала народная артыстка БССР Галіна Макарава.*

**...ДЭМАНСТРАЦЫЯЙ**

*новага дакументальнага савецка-польскага фільма «Вачыма сябра» ўчора ў Мінску ў кінатэатры «Партызан» адкрыліся Дні польскага кіно.*

*На адкрыццё дзён у Мінск прыехала польская дэлегацыя ў складзе рэжысёра фільма «Вачыма сябра» Людвіка Перскага, кінаартыстаў Алісіі Вісьнеўскай і Рышарда Філіпскага.*

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За паспяховую работу ў Саюзе мастакоў Беларускай ССР, актыўны ўдзел у ваенна-патрыятычным выхаванні працоўных і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў Героя Савецкага Саюза Зялёнкіна Міхаіла Міхайлавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## ЗАРУБЕЖНЫМ ЧЫТАЧАМ

**Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку прыняў рашэнне аб стварэнні ў кніжным выдавецтве «Беларусь» сектара па выпуску літаратуры на замежных мовах (англійскай, нямецкай, французскай). Будуць выпускацца брашуры, альбомы, буклеты, праспекты і іншая літаратура.**

**Упраўленне кніжнага гандлю рэспублікі пачало збор заказаў ад міністэрстваў і ведамстваў, у тым ліку міністэрства замежных спраў, Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Упраўлення па турызме пры Савеце Міністраў БССР, Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой, Камітэта маладзёжных арганізацый.**

# НАПЯРЭДАДНІ АДКРЫЦЦЯ ЗАСЛОНЫ

*ПАЧЫНАЕ ЧАРГОВЫ СЕЗОН ТЭАТР ЮНАГА ГЛЕДАЧА*

Паслязаўтра тэатр юнага гледача ўзнімае заслону — будуць паказаны першыя спектаклі сезона: «Цудоўная дудка» В. Вольскага і «Юнацтва рыцара» В. Зуба. Галоўны рэжысёр тэатра Барыс Ганага расказаў нашаму карэспандэнту:

— Цяпер у нас вельмі напружаны час — і раніцай, і вечарам ідуць рэпетыцыі. Да 50-годдзя камсамола Беларусі рыхтуем новы спектакль па гераічнай драме Аркадзя Маўзона, прысвечанай барацьбе камсамольцаў-падпольшчыкаў Беларусі з фашысцкімі акупантамі.

Якім атрымаецца спектакль — сваё слова скажа глядач, наша прэса. Адно зазначу: працуе калектыў з захапленнем. У працэсе рэпетыцый рэдагуецца п'еса, ствараюцца новыя сцэны. Так заўсёды бывае ў тэатры...

Афармляе спектакль мастак Юрый Тур, музыка Яўгена Глебава, танцы ставіць галоўны балетмайстар Беларускага тэатра оперы і балета Атар Дадзішкіліяні, рэжысура — мая.

Для самых маленькіх гледачоў рыхтуем спектакль «Пэпі Доўгая Панчоха» ў пастаноўцы Людмілы Тарасавай і афармленні Вячаслава Тарасава.

Героямі нашай сцэны павінны быць і персанажы фальклору і сусветнай літаратуры—Дон Кіхот, Тартарэн з Тараскона, Том Сойер, Несцерка і г. д. Мяркуем сёлета паказаць славутага «Несцерку» В. Вольскага. Ставіць спектакль запрасілі рэжысёра Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы Валерыя Раеўскага.

Нас радуе тое, што беларускія пісьменнікі падтрымліваюць з тэатрам сталыя творчыя сувязі. У час летніх гастроляў адбылася прэм'ера сучаснай лірычнай камедыі «Мядовы месяц» К. Губарэвіча. Ставіла гэты спектакль малады рэжысёр тэатра Галіна Кандрашова. Відаць, у кастрычніку пакажам камедыю і мінскаму гледачу.

Калі нагадаць наш мінулы сезон, то не ўсё ў ім, вядома, радавала. Нямала было і засмучэнняў. На гэта многа прычын. Галоўнае — не вырашана ў нас праблема кадраў. Тэатру юнага гледача вельмі патрэбна таленавітая творчая моладзь. Сёлета сезон «адкрые», відаць, некалькі новых акцёрскіх імёнаў...

Паслязаўтра, як кажуць, усё і пачнецца на вачах гледача — пошукі, здабыткі, пралікі, пакуты і творчая радасць...

КАЛІ мы рыхтавалі да друку ў першым томе Беларускай Савецкай Энцыклапедыі артыкул «Акупацыйны рэжым», узнікла думка зрабіць карту, каб паказаць на ёй тыя святыя для нашага народа мясціны, дзе вечным сном спяць два мільёны трыста тысяч нашых родных і блізкіх. Думка спадабалася ўсім, а здзейсніць яе было не так проста. Калі картограф нанёс на карту Беларусі пунсоны, што адзначалі месцы канцлагераў, турмаў, спаленых разам з насельніцтвам вёсак, месцы масавых расстрэлаў мірных жыхароў, то чорныя кропкі так густа пакрылі нашу зямлю, што не было дзе напісаць назвы тых вёсак і сёл, што назаўсёды зніклі з твару зямлі разам з насельніцтвам і засталіся толькі пякучым болем у сэрцы народа. Тады сталі рабіць карту з падзелам тэрыторыі Беларусі на раёны, каб хоць такім чынам падаць «абагуленыя» звесткі ў маштабах раёнаў пра ахвяры нямецка-фашысцкай акупацыі. Але і гэта зрабіць не ўдалося. Пяці і шасцізначныя лічбы так густа пакрылі карту, што не толькі не «чыталіся» граніцы раёнаў, але і губляліся руслы рэк. Пры абмеркаванні рабочага варыянта карты нехта сказаў: «Руслы рэк патанулі ў лічбах ахвяр».

Каб неяк выйсці з цяжкага становішча, вырашылі зняць з карты граніцы раёнаў, руслы многіх рэк і пакінуць толькі назвы гарадоў, раёнаў, лагераў смерці і пры іх лічбы ахвяр.

На карце засталіся толькі рэкі-патрыярхі: Нёман, Дняпро, Заходняя Дзвіна і Прыпяць, каб ведалі людзі ва ўсім свеце, што ў час нямецка-фашысцкай навалы шырокія і глыбокія воды гэтых рэк не раз былі чырвоныя ад людской крыві. Каб знялі шапкі турысты ў самым пачатку свайго падарожжа па Дняпры, бо на Дубровеншчыне пахавана 14 110 нашых землякоў, на Аршаншчыне — 37 400, на Шклоўшчыне — 7 504, у Магілёве — 71 773, каля Лупалова — 40 000, у Рэчыцы — 3 801.

Грэх будзе не зняць шапку з галавы, плывучы

# СПРАВАЗДАЧУ

З ПАСЯДЖЭННЯ ПРЭЗІДЫУМА ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

У МІНУЛУЮ пятніцу, 11 верасня, адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. На парадку дня пасяджэння былі творчыя справаздачы маладых пісьменнікаў. Аб тым, што зроблена імі за апошні час, аб сваіх клопатах і турботах гаварылі празаікі Валянцін Мыслівец і Уладзімір Машкоў, паэты Уладзімір Карызна і Міхась Рудкоўскі.

— Апошнім часам я аддаваў перавагу такому баявому і аператыўнаму жанру, як нарыс,—гаварыў В. Мыслівец.—Я з цікавасцю пабываў у Наваполацку, на Лаўсанбудзе, на будаўніцтве Лукомльскай ДРЭС, з вялікім душэўным хваляваннем знаёміўся з людзьмі, з іх клопатамі і радасцямі, вывучаў праблемы і задачы, якія ставіць перад імі жыццё, наш час. Хацелася не проста расказаць пра людзей—нашых сучаснікаў. Хацелася вызначыць у іх жыцці галоўнае, тое, што характэрна для нашага ладу, памагчы гэтым людзям, у меру сваіх сіл і здольнасцей, лепш зразумець сябе, сваё месца ў жыцці. Як гэта мне ўдалося, хай мяркуе чытач. У выніку паездак у Наваполацк, Магілёў і Лукомль нарадзіліся тры нарысы. Яны склалі маю новую кнігу, якую я нядаўна здаў у выдавецтва.

Далей малады пісьменнік падзяліўся сваімі творчымі планамі і задумамі. У бліжэйшы час ён таксама думае працаваць у дакументальным жанры, мяркуе пабываць у рабочых гомельскага завода «Цэнтраліт» і ў салігорскіх шахцёраў, напісаць пра якіх—яго даўняя мара і пісьменніцкая задача.

Гаворачы аб тым, што спрыяе і перашкаджае яго творчай рабоце, празаік зазначае, што нарысу яшчэ не аддаецца належнай увагі. Здараецца, гаварыў В. Мыслівец, што нарыс—твор, напісаны на канкрэтным жыццёвым матэрыяле, па гарачых слядах падзей—ледзь не гадамі чакае сваёй чаргі, каб пабачыць свет, дайсці да чытача. У выніку ён траціць часам адну са сваіх самых прывабных якасцей—надзённасць, аператыўнасць.

У заключэнне прамоўца гаварыў аб тым, што, на жаль, часу для творчай работы ў яго застаецца вельмі мала, што шмат сіл і энергіі адбірае журналісцкая праца на радыё. У сувязі з гэтым В. Мыслівец зрабіў папрок у адрас Саюза пісьменнікаў, які, на яго думку, яшчэ мала клапоціцца аб творчым росце маладых літаратараў, не вельмі часта цікавіцца, у якіх умовах даводзіцца ім працаваць.

Уладзімір Карызна расказаў прысутным аб сваёй мінулагодняй паездцы ў Польскую Народную Рэспубліку, аб наведанні там ленінскіх мясцін, адкуль прывёз нізку вершаў.

— Напісаў таксама новую паэму, — гаварыў ён.—У ёй — успамін аб маці, роздум аб жыцці, аб часе, аб лёсе сваіх аднагодкаў. У мінулым годзе ў выдавецтве «Беларусь» выйшла мая другая кніжка вершаў—«Жураўлінны досвітак». Сёлета здаў у выдавецтва трэцюю кнігу. У блі-

А. ПЕТРАШКЕВІЧ,

адказны сакратар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, кандыдат гістарычных навук

# НЕЗАБЫЎНАЕ

і па Нёмане 4 892 закатаваныя пахаваны каля Стаўбцоў, 9 405—у Мастах і наваколлі, 51 438—у Гродна. А калі хто будзе плысці па Прыпяці, хай пакланіцца Азарычам: тут загінула больш 16 тысяч жанчын, дзяцей, старых; у Пінску — 108 000, каля Пінска—59 000, у Петрыкаве — 2 572, у Мазыры—5 884. Берагі Заходняй Дзвіны варта ўсыпаць кветкамі — 109 920 чалавек пахавана ў Віцебску, 19 000—каля Віцебска, 10 276—у раёне Бешанковіч, 30 000—у Полацку і 15 000— каля Полацка, 4 584 — у Дзісне, 6 584—у Верхнядзвінску.

Шасцізначныя і пяцізначныя лічбы стаяць на карце каля Трасцянца, Мінска, Баранавіч, Гомеля і многіх іншых гарадоў, вёсак і пасёлкаў Беларусі. Да гэтых страшных лічбаў нельга прывыкаць! Іх нельга забываць!

Каб больш шырока і падрабязна паказаць злачынствы нямецка-фашысцкіх захопнікаў на беларускай зямлі, Галоўная рэдакцыя БелСЭ прыняла рашэнне даць у энцыклапедыі падрабязнае апісанне карных экспедыцый гітлераўцаў, якія праводзіліся з мэтай грабяжу і забойства людзей і насілі кодавыя назвы «Котбус», «Балотная ліхаманка», «Герман», «Гамбург», «Фрыц», «Зімовая казка», «Трохвугольнік», «Веснавое свята», «Лясная зіма», «Горнунг», «Альтона», «Майскі жук», «Грыф», «Пантэра», «Мікіта», «Стракаты дзяцел» і іншыя. Усяго ж карных экспедыцый было больш за 60.

У артыкулах будуць дадзены звесткі пра забойцаў, пра іх ахвяры, адзначаны маршруты руху карнікаў, названы спаленыя вёскі, падлічаны забітыя і вывезеныя на катаргу людзі, нарабаванае дабро.

Многія звесткі пра грабяжы і разбой акупантаў на нашай зямлі будуць падавацца ў артыкулах пра вёскі, якія з'яўляюцца цэнтрамі калгасаў, саўгасаў, сельскіх Саветаў, чыгуначнымі станцыямі і прыстанямі. Звычайна мы ўказваем звесткі пра брацкія могілкі і помнікі ахвярам фашызму, даём лічбу людзей, закатаваных акупантамі, пішам, калі і пры якіх абставінах была спалена вёска і загінулі людзі, хто камандаваў карнай экспедыцыяй.

Пры напісанні артыкулаў пра вёскі карыстаемся матэрыяламі партыйных і дзяржаўных архіваў, звяртаемся за дапамогай да партыйных арганізацый, музеяў, школ. Зараз больш за 200 мясцовых гісторыкаў і краязнаўцаў з'яўляюцца аўтарамі энцыклапедычных артыкулаў пра вёскі. Іх артыкулы і анкеты, якія мы спецыяльна распрацавалі, каб палегчыць работу аўтарам, з'яўляюцца бясцэнным фондам у стварэнні летапісу гераічнай барацьбы нашага народа супраць карычневай фашысцкай чумы.

Горш бывае, калі мы не можам даць тых звестак, якія павінны быць у артыкуле. Не можам таму, што многія вёскі былі знішчаны разам з людзьмі, і няма каму расказаць пра тыя трагедыі, што адбыліся ў 1941—1944 гадах. А таксама і з той прычыны, што сціраюцца ў людской памяці даты, факты, абставіны.

А гады ідуць. І трэба спяшацца зафіксаваць у аналах гісторыі кожны подзвіг патрыётаў Савецкай Айчыны, трэба з вуснаў жывых сведак запісаць пра подзвігі і трагедыі нашых гарадоў і вёсак, вывучыць матэрыялы архіваў, правесці навуковыя даследаванні.

Не будзем ужо гаварыць пра тое, што многія звесткі маглі б трапіць яшчэ ў першае выданне БелСЭ, а адтуль у свой час на пастаменты помнікаў, абеліскаў, у тэксты мемарыяльных дошак, у экспазіцыі музеяў. Была б створана глыбокая крыніца жывога матэрыялу пра дух народа, яго свабодалюбства, нескаронасць. І доўга б карысталіся той крыніцай мастакі і пісьменнікі, кампазітары і кінематаграфісты, гісторыкі і публіцысты. Бо крыніца тая была б вечна жывой, як сам подзвіг народа ў барацьбе з фашызмам.

У мяне вельмі простая і рэальная прапанова. Нашы беларускія пісьменнікі, а іх каля 300, нашы журналісты, а іх каля 1 400, адгортваюць 215-ю старонку першага тома Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, каб выбраць адну з 628 вёсак, у якой фашысцкія захопнікі загубілі не менш 50 жыхароў, і едуць у яе або на тое месца, дзе яна была да вайны, шукаюць сведак, вывучаюць архіўныя матэрыялы і пішуць хвалюючыя нарысы, апавяданні, а можа і аповесці пра тое, што было і як было ў ліхалецце вайны.

Уношу сваю прапанову не без хвалявання, бо тэма гэта блізкая майму сэрцу, блізкая сэрцу маіх калег, што працуюць над стварэннем Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

# ТРЫМАЮЦЬ МАЛАДЫЯ

жэйшых планах — напісаць лірычную аповесць з жыцця сучаснай вёскі.

Асобна спыніўся Ул. Карызна на сваёй працы ў жанры песні.

— Працую ў гэтым кірунку, — гаварыў малады паэт, — нямала. На мае тэксты кампазітары рэспублікі напісалі не адзін дзесятак песень. Прыемна, што песня, створаная мной у садружнасці з кампазітарам Мікалаем Коньшыным, атрымала першую прэмію на рэспубліканскім конкурсе на лепшую песню, прысвечаную Уладзіміру Ільічу Леніну, — гэта песня «Ой ты, Волга». Аднак кажу пра ўсё гэта не для таго, каб пахваліцца, а для таго, каб сказаць, што стварэнне новых песень у нас—справа занядбаная.

Ул. Карызна гаварыў пра тое, што Саюзу пісьменнікаў трэба ўмацоўваць творчыя сувязі паэтаў з кампазітарамі, выказаў думку, што, магчыма, наспела неабходнасць стварыць у Саюзе пісьменнікаў спецыяльную секцыю паэтаў-песеннікаў.

Наступным трымаў творчую справаздачу празаік Уладзімір Машкоў.

— Я шмат працую ў кіно, у прыватнасці, у дакументальным, — гаварыў ён. — Вясной будучага года гледачы змогуць убачыць фільм «Хлопчык і чапля» па маім сцэнарыі. Гэта фільм аб любві да прыроды, аб тых добрых пачуццях, якія яна абуджае ў сэрцах людзей. Нядаўна здаў на студыю сцэнарый фільма пра настаўніцу адной з мінскіх школ Я. Перавозную—чалавека надзвычай багатай душы, чалавека, які цалкам аддадзены любімай рабоце, справе выхавання падрастаючага пакалення. Напісаў сцэнарый і мастацкага фільма — пра дзяцей пераломнага ўзросту, калі яны развітваюцца з дзяцінствам і ўступаюць у жыццё. У фільме спрабую адказаць на пытанне, чаму раптам увогуле зусім неблагі хлапчук становіцца на шлях злачынства, хто ў гэтым вінаваты. У выдавецтва «Беларусь» здаў новую аповесць, адрасаваную малодшым школьнікам. Што яшчэ? Мае першыя кніжкі — «Паміж «А» і «Б» і «Вясёлы тузін»—былі, як мне здаецца, вясёлымі кніжкамі. Цяпер працую над дзвюма аповесцямі, якія будуць адрасаваны дзецям старэйшага ўзросту. Адна з іх — пра маё пакаленне, пра тых, хто сваімі вачыма бачыў вайну.

Творчая справаздача Міхася Рудкоўскага мела іншы характар — ён выступіў з чытаннем сваіх новых вершаў, якія былі цёпла прыняты прысутнымі. М. Рудкоўскі расказаў таксама аб літаратурным жыцці Брэста і вобласці.

Пасля пачалася гаворка аб творчасці маладых, у якой прынялі ўдзел Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Карпаў, Максім Лужанін, Пімен Панчанка, Максім Танк, Іван Шамякін, Леанід Прокша, Станіслаў Шушкевіч. Яны выказалі шэраг заўваг аб рабоце творчай моладзі, падзяліліся думкамі аб тых праблемах, якія закранаалі ў сваіх справаздачах маладыя, адзначылі, што падобныя творчыя справаздачы безумоўна карысныя, што іх трэба наладжваць часцей, і не толькі справаздачы маладых, але і сталых літаратараў рэспублікі.

Уладзімір Карпаў, напрыклад, гаварыў:

— Я з увагай слухаў нашых маладзейшых таварышаў. Хораша, цікава яны гаварылі. Аднак хочацца зрабіць адну заўвагу. Творчая камандзіроўка — гэта, канечне, важна. Але пісьменнік не павінен абмяжоўвацца толькі творчымі камандзіроўкамі. Ён павінен актыўна ўмешвацца ў жыццё. Вось тут Мыслівец гаварыў аб тым, што карысней для пісьменніка — ездзіць у творчыя камандзіроўкі брыгадамі альбо індывідуальна. Давайце ўспомнім вопыт 20—30-х гадоў. Тады такія брыгадныя паездкі практыкаваліся шырока. І яны прыносілі добры плён. Важна тое, каб такая брыгада не проста пагасцявала ў калгаснікаў ці рабочых, а больш цікавілася жыццём калгаса ці будоўлі. Кажу гэта таму, што ў нас шмат здольнай моладзі, але адчуваецца, што многія з іх маюць вельмі небагаты жыццёвы вопыт.

— Праблема часу, аб якой тут гаварылі,—зазначыў І. Шамякін, — сапраўды існуе. Большасць нашых маладых таварышаў дзе-небудзь працуюць. Яны, звычайна, заняты на працы з дзевяці раніцы да шасці вечара. Для творчай работы застаюцца ў іх толькі вечары ды выхадныя дні. Таму, таварышы, трэба сапраўды падумаць, што можна зрабіць, каб у іх былі больш спрыяльныя ўмовы для творчасці.

М. Танк спыніўся на стане нашай песеннай творчасці, пра што гаварыў у сваёй справаздачы Ул. Карызна.

— Думаецца, — гаварыў першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, — што спецыяльная секцыя паэтаў-песеннікаў нам усё ж непатрэбна. Трэба проста абуджаць у паэтаў цікавасць да песні, мацаваць іх творчыя сувязі з кампазітарамі. Бяда наша ў тым, што кампазітары не цікавяцца нашай паэзіяй, не ведаюць яе. Яны пішуць музыку часта на выпадковыя тэксты. Сур'ёзны паэт сваіх вершаў кампазітарам не нясе, спадзеючыся, што яны і так яго заўважаць. А рамеснік—нясе. Глядзіш — не першы, дык другі ці трэці кампазітар і напіша на той тэкст музыку.

М. Танк асабліва падкрэсліў, што творчыя справаздачы літаратараў трэба практыкаваць часцей, што яны даюць магчымасць мець выразнае ўяўленне аб тым, чым жыве, над чым працуе пісьменніцкая арганізацыя.

Л. Прокша прапанаваў, каб поруч з творчымі справаздачамі пісьменнікаў рабіліся і кароткія агляды іх творчасці.

М. Лужанін падтрымаў думку аб тым, што нарысу як аператыўнаму жанру трэба даваць у перыядычным друку і выдавецтве шырокую дарогу.

Другім пунктам парадку дня пасяджэння прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў было абмеркаванне праекта тэматычнага плана выдавецтва «Беларусь» на 1972 год. З інфармацыяй па гэтым пытанні выступіў намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва Уладзімір Шахавец. У абмеркаванні праекта плана прынялі ўдзел Я. Брыль, М. Хведаровіч, І. Чыгрынаў, І. Шамякін, У. Карпаў, В. Вітка, І. Мележ, С. Грахоўскі, В. Адамчык, Я. Крупенька, Э. Агняцвет, У. Нядзведскі, Я. Семяжон, якія выказалі па праекту плана шэраг заўваг і пажаданняў. Дырэктар выдавецтва «Беларусь» З. Матузаў запэўніў пісьменнікаў, што іх заўвагі і прапановы па-магчымасці будуць улічаны пры далейшай рабоце над планам выпуска мастацкай літаратуры ў 1972 годзе.

## МАГІЛЁЎ. ЛАЎСАНБУД. 1970.



Прадзільшчыца.



Будаўніца.

Я хадзіў па цэхах Магілёўскага камбіната штучнага валакна і міжволі прыгадваў...

...Халодны зімовы вечар; прыціснуўшыся спіной да цёплай печы, сядзіць мая мама, яшчэ маладая, і прадзе кудзелю. Потым у хаце з'яўляюцца кросны, і ад цямна да цямна ляскае ляда — мама тчэ палатно. Памятаю, выходзіла ў яе губіцы з тры палатна і з дзве — шарачку. Потым, вясной, яна шыла мне кашулю і калі надзявала, абавязкова хрысціла і прыгаворвала, каб рос здароў, знасіў, вялікі рос і хадзіў у «крамных» кашулях.

Ці так даўно гэта было?..

Колькі, цікава, кашуль можна пашыць з тканіны, што робяць на Магілёўскім лаўсанавым камбінаце за адзін толькі месяц?..

Я глядзеў на рабочых камбіната як на чараўнікоў, якім падуладны таямніцы Яе Вялікасці Хіміі, і ў той жа час бачыў, што яны звычайныя, простыя хлопцы і дзяўчаты.

Вось гэта — незвычайнасць працэсу, якім кіруюць простыя людзі, сціпласць гэтых людзей, іх прыгажосць, упэўненасць у сабе, веліч іх працы — я хацеў перадаць у серыі графічных лістоў, прысвечанай Магілёўскаму камбінату штучнага валакна.

С. ГЕРУС.

Міхась МАШАРА

# СТАРОНКІ ЛЕТАПІСУ

**Зараз я працую над кнігай успамінаў, якую ўмоўна назваў «Старонкамі летапісу». Прапаную ўвазе чытачоў штотыднёвіка некаторыя з гэтых старонак — пра падзеі і сустрэчы, якія адбываліся вясною і летам 1940 года, неўзабаве пасля ўз'яднання былой Заходняй Беларусі з Беларуссю Савецкай. У той час я працаваў загадчыкам раённага аддзела народнай асветы на Шаркоўшчыне.**

**АЎТАР.**

пазнаёміліся ў гэтым скверы. Пачалася агульная гутарка.

Генрых Дэмбінскі быў вельмі папулярны чалавек на віленскім грунце яшчэ са студэнцкіх гадоў. Быў час у Віленскім універсітэце Стэфана Баторыя, калі сярод студэнтаў узняўся і шырока пашырыўся прагрэсіўна-рэвалюцыйны рух. Вялікі ўдзел прымаў у ім Генрых Дэмбінскі. Ворагі руху сам гэты рух называлі «дэмбіншчынай».

Дэмбінскі бліскуча закончыў універсітэт, пачаў пісаць выдатныя палітычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы рэвалюцыйнага напрамку. Гэта занепакоіла шаноўных гаспадароў горада. Яны не ведалі, што рабіць з маладым бунтаром, які не хоча ісці сцежкамі бацькоў і псуе справу старога ўкладу. Пусціць справу Дэмбінскага на самацёк нельга, бо гэты выдатны публіцыст і таленавіты літаратар апыніцца ў радах падпольшчыкаў-камуністаў. Прыкладаў хоць адбаўляй, калі лепшыя іх гадунцы пасля некаторага блукання пераходзілі свядома і пераконана ў камуністычнае падполле. Ніякія захады, рэспрэсіі і пакаранні не вярталі іх адтуль.

Думалі, думалі пачэсныя гаспадары горада і надумалі: паслаць Дэмбінскага ў двухгадовую замежную камандзіроўку. Паслаць у Італію — вывучаць фашызм. Гаспадары мелі надзею, што там, на радзіме фашызму, Дэмбінскі вылечыцца ад сваёй левай хваробы і вернецца чалавекам што трэба.

Аднак гэта дапамагло, што мерцвяку кадзіла. Дэмбінскі камандзіроўку прыняў, у Італію выехаў і пачаў вывучаць фашызм. Праз два гады ён вярнуўся, аднак не апраўдаў ускладзеных на яго надзей. Вярнуўся не фашыстам, а з яшчэ больш левымі поглядамі, чым да камандзіроўкі ў Італію.

У хуткім часе ў Вільні пачаў выходзіць часопіс на польскай мове пад назвай «Папросту». Гэты тыднёвік па сваім палітычным і грамадскім напрамку быў адным з самых левых, што выходзілі тады ў Польшчы. Адным з творцаў часопіса быў Генрых Дэмбінскі.

Гаспадары і ўладары горада спрабавалі канфіскаваць тыднёвік — не памагло. Закрылі яго — хутка выйшаў новы, такі самы па фармату, афармленні і напрамку, толькі назву насіў крыху іншую — «Проста з мосту». Закрылі і гэты. Судзілі ўсю рэдкалегію, да якой належаў і Дэмбінскі. Больш актыўных пакаралі двума гадамі астрогу. Праўда, пакаранне «завесілі», і вісець яно мелася да тае пары, пакуль пакараны зноў не трапляў пад суд за новую віну. Тады «завешанае» пакаранне выконвалася аўтаматычна. Усё ж польскія судовыя ўлады да «сваіх» рэвалюцыянераў адносіліся больш паблажліва — давалі ім магчымасць адумацца, пакаяцца. Аднак адуманасці і папраўы нешта не было чуваць.

Раптам выбухнула вайна. Гітлер напаў на Польшчу і ледзь не ў два тыдні разграміў яе. Увесь панскі ўрад, магнаты і паны, захапіўшы сваё і дзяржаўнае золата, уцяклі за мяжу. А такія людзі, як Ванда Васілеўская, Дэмбінскі, Путрамент, Петрусевіч і цэлая кагорта маладых і прагрэсіўных людзей пайшлі на Усход — у Савецкі Саюз.

Максім Танк і Казік Петрусевіч, абодва маладыя, жыццярадасныя, вырваліся наперад. Мы з Дэмбінскім крыху адсталі ад іх. Я сказаў Дэмбінскаму:

— Не спадзяваўся, Генрых, сустрэцца з табой тут.

— Ты, пэўна, думаў, што я пабег наўцёкі разам з Масціцкім і Рыдз-Сміглым, дапамагаючы ім дзяржаўнае золата перапраўляць за мяжу? Там хапала паноў большага палёту за мяне.

— Не, так дрэнна аб табе я не думаў. Думаў, што ты падаўся ў Львоў разам з Вандай Васілеўскай. Чуў, што і Путрамент там.

— І не адзін толькі Путрамент. Там нашых літаратараў цэлы табар. З Вільні мне лягчэй было трапіць сюды.

— А дзе жывеш? Як з працай уладкаваўся?

— Тымчасова працую школьным інспектарам у раёне непадалёку ад Вілейкі. Там і жыву.

— Чаму ўзяўся за педагогіку? Журналістыка больш не задавальняе цябе?

— Не так добра валодаю рускай і беларускай мовамі, каб займацца журналістыкай. Спрабаваў у Мінску, але ў перакладзе не пазнаю самога сябе.

— Слухай, навошта табе перакладчык? У Мінску ж выходзіць «Штандар вольносці».

— Быў я там, ды, відаць, не прыйшоўся да густу. Вось і вырашыў шукаць сабе работы ў іншым месцы.

Мы перайшлі на агульныя ўспаміны аб знаёмых, гаварылі аб жыццёвых дробязях. Дэмбінскі пытаў, як у мяне справа з вершамі, дзе я працую.

Больш мне не давялося сустрэцца з Генрыхам Дэмбінскім, выдатным і таленавітым чалавекам. Ужо падчас Вялікай Айчыннай вайны, працуючы ў Штабе партызанскага руху на Калінінскім фронце, я даведаўся, што ён трапіў у рукі гітлераўцаў і быў расстраляны.

Ад рук нямецкіх акупантаў загінуў і вялікі гаротнік, беларускі патрыёт Мікола Шыла.

## ЗНОЎ ДОМА

У ШАРКОЎШЧЫНЕ і раёне ішло ўсё нібы нармальна ў гэты яшчэ не зусім нармальны час — было лета 1940 года. Сяляне, асабліва бедната і беззямельныя, радаваліся. Адным дадалі зямлі, колькі трэба да нормы, а беззямельныя першы раз у жыцці атрымалі поўныя надзелы, дапамаглі ім стаць на ногі як гаспадарам, па магчымасці надзялілі інвентаром, цяглом і насеннем. Для іх зараз не было большай радасці, як у вольны час аглядаць свае рунеючыя загоны і любавацца, як цягнецца ўвысь збажына, засеяная ўласнай рукой на сваёй, толькі што атрыманай зямлі.

Пачатковыя школы былі ўжо распушчаны. Навучальны год закончаны, і не так ужо дрэнна, беручы пад увагу асаблівасці, што былі пераадолены ў пераводзе школ на новую мову навучання. Перашкод і цяжкасцей было больш, чым трэба, і ўсё ж агульная паспяховасць у нашым раёне перавышала 85% — адна з лепшых па вобласці.

Зараз перад работнікамі школы стаяла вялікая справа. Трэба было прымацца за бягучы і капітальны рамонт, за будаўніцтва некалькіх новых школ. А калі ўзяць пад увагу, што палова школ размяшчалася ў нанятых хатах, справа гэта яшчэ больш ускладнялася. На ўсё гэта планы і бюджэтныя каштарысы я прывёз з сабой з аблана. Рамонтнікаў і будаўнікоў у раёне было мала, ды і тыя былі заняты. Кожнаму загадчыку школы трэба было самому клапаціцца, дзе знайсці сталяроў і печнікоў.

Да мяне ў Шаркоўшчыну прыехаў Максім Танк. Я быў вельмі рады дарагому госцю. Не ведаў, як яго лепш прыняць. Вырашыў паказаць яму лепшыя, найбольш прыгожыя і цікавыя мясціны наваколля. Мы селі на веласіпеды і рушылі ў вандроўку.

Максім вельмі быў здзіўлены, калі я паказаў яму ў вёсцы Беляі, як сяляне будавалі хаты, абыходзячы панскі закон аб планіраванні. Мы разглядалі новую хату, пабудаваную літаральна ў старой. Новы зруб з усёй патрэбнай сталяркай рабілі недзе на водшыбе. Потым здымалі са старой хаты страху і столь. Гаспадар падбіраў адпаведны дзень, склікаў талаку і за адзін дзень новую хату ўстаўляў у старую, як у футарал. Безумоўна, новая хата была адпаведна меншай за старую. Рабілася гэта таму, што пры панах было вельмі цяжка дастаць у гміне план на пабудову новай хаты.

Беларускія вёскі ў выніку малазямелля будаваліся вельмі цесна, хаты стаялі ледзь не ўпрытык. На пабудову новай хаты гмінная адміністрацыя давала дазвол, калі адлегласць будынка ад будынка была бяспечная ў супрацьпажарных адносінах. Аднак, калі б захаваць гэту належную супрацьпажарную адлегласць, дык трэба было б вынесці з вёскі дзве трэці сялянскіх сялібаў з усімі будынкамі. А каму з сялян хапіла б сілы і сродкаў перацягнуць усе гаспадарчыя будынкі на новае месца? Вось і пускаліся сяляне на гэткія хітрыкі і стаўлялі паліцыю і гміннае начальства перад здзейсненым фактам.

За дзень зрабілі вялікае кола па ваколіцы, дзе я жыў. Пабывалі ў маёй роднай вёсцы Таболы. Максім убачыў маю хату і гаспадарчыя будынкі, якія пабудаваў я пры дапамозе аднавяскоўцаў, агледзеў сад каля хаты, які насадзіў мне сваімі шчэпамі Іван Паўлавіч Сікора. Пасядзелі мы з Максімам на высокім абрыве на беразе ракі Дзісенкі, з якога адкрываецца цудоўны краявід, пабывалі ў мястэчку Германавічы, дзе я працаваў справаводам у васемнаццатым годзе ў валасным рэўкоме. Паказаў я Максіму і дарогу, на якой служыў пры панах апошнія два гады дарожным вартаўніком, і домік у вёсцы Дзікова, дзе я кватараваў у Апалінарыя Васілеўскага. Домік стаяў апошнім у канцы вёскі каля лесу, за якім пачыналася славутая «Аколіца Сініх Балот», не раз апяяная мною ў вершах. Наведалі, вяртаючыся дамоў, некалькі вялікіх панскіх маёнткаў — як Падоршчына, Юзэфова, Чырвоны Двор, дзе панавалі некалі Шыраны, Штэраны і Багуцкія, а зараз гаспадарылі былыя батракі і беззямельныя. І толькі вечарам, стомленыя, але з добрым настроем, мы вярнуліся ў Шаркоўшчыну.

З'яўленне Максіма Танка ў літаратуры Заходняй Беларусі было заўважана адразу. Яго творы ў хуткім часе зрабілі пералом у тагачасным нашым літаратурным руху. Пачалі слабець і заціхаць нашаніўскія перапевы, дыхнулі свежыя матывы з дзёрзкім і бадзёрым зместам, насычаныя арыгінальнай метафарыкай і вобразнасцю.

Памятаю беларускі літаратурны вечар (першы і апошні, у якім я прымаў удзел у Вільні). Вечар наладзілі беларускія студэнты ў зале Снядэцкіх ва універсітэце Стэфана Баторыя. Зала была перапоўнена. Прысутнічалі беларускія і польскія студэнты прагрэсіўнага напрамку і віленская інтэлігенцыя.

Мне давялося выступаць першым. Публіка прымала мяне даволі цёпла. Аднак калі Максім Танк прачытаў сваім гучным і ўсхваляваным голасам:

Досыць!
Не штука іграць на кларнеце,
Медныя жменяй сыпаць акорды,
З смехам шалёным блудзіць
па прытонах,
Цешыць тлустыя морды,—

у зале ўзнялося нешта небывалае. Паветра рвалі гучныя апладысменты, гучалі лозунгі, а група студэнтаў — беларусаў і палякаў — ускочыла на сцэну, падхапіла Танка на рукі і пад авацыі публікі панесла ў залу. Шматлікія шпікі і пераапранутыя паліцэйскія пабаяліся нават пікнуць.

Заўсёды, калі мне даводзілася бываць у Вільні, мы сустракаліся з Максімам, і сустрэчы гэтыя былі сяброўскімі. Праўда, адзін раз Максім Танк адсцёбаў мяне ў сваім артыкуле «Хаты за гасцінцам», аднак я не пакрыўдзіўся. Многія ягоныя папрокі я лічыў правільнымі і прыняў да ведама ў сваёй практычнай дзейнасці. Пачынаць мне свой шлях у літаратуры было цяжка. Асветы я меў усяго шэсць класаў. Нават беларускай гімназіі не бачыў, жыў і пісаў у глухой вёсцы, варыўся ў сваім уласным соку, зарабляў на хлеб цяжкой батрацкай працай паддзёншчыка. Рабіў усё, што трапляла пад руку: быў лесарубам, плыціў на руме плыты і ганяў іх па рэках, трапаў лён і капаў канавы, касіў панскі луг і араў панскае поле. Вершамі займаўся толькі ў рэдкі вольны час ды ідучы на працу і з працы.

(Заканчэнне на 6—7 стар.)

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

## СЛОВА ЎДЗЯЧНАСЦІ

ГЭТА было трынаццаць гадоў назад. У Мінску, у памяшканні тэатра юнага гледача, гастраліраваў Магілёўскі абласны драматычны тэатр. Мне і майму сааўтару М. Алтухову, з якім мы напісалі п'есу «Выбух», пашанцавала тут сустрэцца з рэжысёрам Андрэем Пятровічам Раеўскім. Нам спадабалася тая ўвага, з якой паставіўся да нас Андрэй Пятровіч, яго інтэлігентнасць і мяккасць. Ён выказаў свае прынцыповыя заўвагі па п'есе, але вынес яе на чытку перад калектывам. Памятаю, колькі было хвалявання! А Андрэй Пятровіч стаяў збоку, слухаў, склаўшы на грудзях рукі, раз-пораз паглядваў на нас і ўсміхаўся, жадаючы, відаць, падбадзёрыць.

А ўвосень, пасля адпачынку, калі пачалася работа над спектаклем, Андрэй Пятровіч узяўся за нас не на жарты...

Успамінаючы зараз гэтую першую сустрэчу з заслужаным артыстам Беларускай ССР А. Раеўскім, я адчуваю, як і трынаццаць гадоў назад, глыбокую павагу, удзячнасць Андрэю Пятровічу за шчырую дапамогу, за чуласць і такт.

Доўгія гады пасля гэтай першай сустрэчы працягвалася наша творчая дружба. Было прыемна быць сведкам таго, як Раеўскі імкнуўся дапамагчы кожнаму маладому аўтару, які прыносіць у тэатр сваю першую п'есу. Памятаю расказ Янкі Тарасава пра тое, як працавалі яны з Андрэем Пятровічам над спектаклем «Гэта было ў Магілёве». Праца, настойлівая і карпатлівая, дала свой плён. Спектакль карыстаўся поспехам.

За плячыма Андрэя Пятровіча вялікі вопыт акцёра і рэжысёра. Тэатральнаму мастацтву ён служыў і ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Ён паставіў нямала п'ес рускай і замежнай класікі. Як мастак і чалавек, ён карыстаецца павагай і любоўю ў калектыве.

Андрэю Пятровічу Раеўскаму — 60 гадоў. Ён жыве новымі творчымі планамі і новымі задумамі. У дні юбілею ад імя ўдзячных аўтараў і гледачоў хочацца пажадаць яму здароўя, доўгіх гадоў жыцця і здзяйснення творчых планаў.

Мікалай ГАРУЛЁЎ.



ДЗЯРЖАЎНЫЯ ПРЭМІІ БССР

АБМЯРКОЎВАЕМ ВЫЛУЧАНЫЯ ТВОРЫ

# ЗЯМНЫЯ РАДАСЦІ І ТУРБОТЫ

ПРЫ ТЫМ хранічным дэфіцыту на мастацкую публіцыстыку, які адчуваюць наш друк, радыё, тэлебачанне, кожнае выступленне пісьменніка ў публіцыстычным жанры становіцца святам. Асабліва, калі гэтае выступленне адметнае самабытнасцю ўспрымання, высокай грамадзянскасцю, індывідуальнасцю почырку, як нарысы Янкі Сіпакова.

З той пары, калі Я. Сіпакоў заявіў на старонках «Полымя» (а неўзабаве і «Дружбы народов») пра сябе як пра публіцыста, мінула якіх восем ці дзесяць гадоў. Напісаная тады разам з Анатолем Клышкам «Паэма дарог» была плёнам творчай дружбы двух маладых аўтараў, нядаўніх студэнтаў. Гэты плён быў зайздросна багаты і абяцаў даць новы засеў на ніве публіцыстычнай творчасці.

Абяцанні спраўдзіліся, хоць з аўтарамі мы сустракаліся пасля ўжо з кожным паасобку. Я. Сіпакоў за гэты час не аднойчы прыносіў нам сапраўдную радасць сваімі вершамі. І не толькі... На старонках таго ж «Полымя» мы чыталі яго ўсхваляваны, жывы, трохі шчымліва-тужлівы нарыс «Ціхая Акіянія» — вынік працяглай творчай паездкі на Далёкі Усход.

І вось новае знаёмства. У чэрвеньскай кніжцы «Полымя» за 1969 год Янка Сіпакоў запрасіў нас у краіну свайго маленства, у тую звычайную на Аршаншчыне вёску Зубрэвічы, дзе засталося яго карэнне.

«Акно, расчыненае ў зіму» — так назваў аўтар свой новы нарыс. Чаму ў зіму? Мабыць, таму што з зімой у Я. Сіпакова, рана асірацелага (бацьку і маці забілі гітлераўцы), звязаны самыя горкія і самыя радасныя ўспаміны. Зіма як сімвал сірочага маленства, калі шмат холаду і голаду. І калі тым большай бывае радасць, а найперш—радасць працы, самастойнай працы.

У Я. Сіпакова такой радасцю была тая снежная зіма, калі ён падмеўся паехаць з суседам, дзядзькам Нікіпарам, у лес, пасобіць яму напілаваць дроў. «І мне, маломў, было цяжка не толькі цягаць дровы, але і хадзіць самому: як праваліцся ў снег, дык з галавою, — прыгадвае аўтар. — І Нікіпар цярпліва выцягваў са снегу і мяне, і ссечаную алешыну, якую я цягнуў да саней. Менавіта ў той дзень, здаецца, я, хлапчанё, адчуў нейкую сталую мужчынскую асалоду ад працы і яе непасрэдную сувязь з усім, калі потым, скінуўшы на двары дровы, з настылаю сякераю ў руках, з марозу зайшоў у хату, якая пахла варанаю капустаю. **І ў халоднай хаце** стала тады мне горача...» Гэта падкрэсленая мной фраза гучыць як вырашальны акорд зімовай балады пра тое, як прыйшла да чалавека першая сталасць. Яна гучыць вырашальным акордам менавіта таму, што пабудавана на кантрасце пачуццяў: холадна ў хаце, а чалавеку, які вярнуўся ад працы — горача. Вось такое ўдумлівае абыходжанне Я. Сіпакова са словам — вынік яго высокай патрабавальнасці да свайго, даўно ўжо прызнанага грамадскасцю, таленту.

Для мастака мала накідаць толькі нейкі абразок жыцця. Галоўнае — напоўніць яго аж да краёў думкамі і эмоцыямі, якія павінны клікаць чытача на роздум, выклікаць у яго адпаведны настрой, узрушваць яго не на адну толькі хвіліну чытання, а на больш працяглы тэрмін, каб прачытанае помнілася, абуджала да дзеяння.

Нарыс «Акно, расчыненае ў зіму»—пра бязрадаснае маленства тых, каго вайна застала ў самую пару, калі трэба было прымервацца да парогу сталасці, каб пераступіць яго. Аўтар не скардзіцца на свой лёс, і тым больш не злуецца з повадў загубленага вайной дзяцінства. Ён стрымана, сурова рэалістычна ўзнаўляе перад чытачом усю складанасць жыцця прошлага, цяперашняга і як бы прымерваецца да будучыні, не рамантычна прыаздобленай, а канкрэтна зямной, бо вырастае яна з сённяшніх радасцяў, трывог, турбот.

Чым менш чалавек мае радасцяў, тым ён больш прагны да іх і з тым большай аддачай кідаецца ў бой за іх. Я. Сіпакоў умее назіраць жыццё—назіраць, думаючы, і думаць, назіраючы. Гэта адзнака пісьменніцкай сталасці, калі зрок, слых, душа ні на хвіліну не маюць спачыну. Аўтар не абмінае тых спрэчак, што час ад часу ўзнікаюць. І вакол таго, што «старыя не разумеюць маладых», і вакол таго, «якая вёска патрэбна сённяшняй вёсцы». Заўважце зноў, як працуе ў Я. Сіпакова слова «вёска». Гэта не проста незаўважаная таўталогія, а стылістычны прыём, каб адцяніць іранічнае стаўленне аўтара да прадмету спрэчкі, калі «пачынаюць здзеквацца з таго святога, што спрадвеку цярпліва служыла селяніну, карміла яго і адзявала».

Аўтар з публіцыстычным запалам адстойвае свае перакананні ў тым, што і сёння мы павінны пакланяцца «і закінутай некуды на гарышча старэнькай сяўні», і «забытаму, пачарнеламу, з'едзенаму шашалем цэпу», і «патрэсканым ступе і жорнам», і дзяжы, і печы, і калаўротам, і кроснам... Не пасылаць ім праклёны, а пакланяцца! Бо гэта — першаснова сялянскага ўкладу, сімвал яго гаспадарлівасці, працавітасці, неўтаймаванай энергіі. Менавіта на гэтых падвалінах і вырасла сённяшняя ява вёскі — калектыўнасць працы, грамадскі характар ўзаемаадносін між людзьмі.

Я ўжо чую дакоры некаторых занадта ўвішных «перабудоўшчыкаў» вёскі ў адрас аўтара нарыса і яго крытыка — вось зноў заклікаюць да дзяжы, гальванізуюць беззваротную мінуўшчыну. Не трэба так «у лоб» чытаць думкі, вынашаныя, выпакутаваныя, абгрунтаваныя. Дамо слова Я. Сіпакову: «Так, сапраўды, камвольныя камбінаты і хлебакамбінаты, сучасныя млыны і камбайны, сеялкі і веялкі—усё гэта вялікая заваёва нашага жыцця, якая стала ўжо даўно звыклаю. Але, мусіць, нам сорамна забывацца, хто дапамог нам дайсці да гэтай радасці. Калі мы не можам знайсці патрэбнага цёплага слова пра наш пачатак, то хоць прамоўчым, калі захочацца здзеквацца з гэтых вялікіх працаўнікоў, даўніх, як, здаецца, і сама зямля... Прыйдзе час, і нашы нашчадкі, я думаю, зусім не ўбачаць у рабоце ні сярпа, ні молата. І толькі наш савецкі герб не будзе саромецца гэтых сціплых прылад працы рабочага і селяніна. І наўрад ці прыйдзе каму ў галаву смяяцца з гэтага...»

Гэтае разважанне Я. Сіпакова гучыць жывым дакорам для тых, хто іншы раз узнімае руку на сапраўднае хараство мінуўшчыны. А хараство гэтае — у працы. Ёй, працы, б'е чалом аўтар нарыса, прыгадваючы людзей сваіх родных Зубрэвічаў, тых, хто вывеў яго ў вялікі свет самастойнасці і працавітасці.

Адсюль, ад гэтай замілаванасці людзьмі працы, ідуць у Я. Сіпакова тыя шчырыя песні-гімны талацэ, касьбе, цётцы Каці, якая «аддавала зямлі сябе ўсю», накідвалася на любую работу. Маналог-малітва цёткі Каці, звернуты да поля, змяшчае ў сабе вялікай сілы публіцыстычны зарад, гатовы выбухнуць і абрынуцца на кожнага, хто аддаляецца ад зямлі, а шчырую беззапаветную працу замяняе чыста спажывецкай цікавасцю да яе.

Аўтар нарыса «Акно, расчыненае ў зіму» ўмее самыя драматычныя канфлікты асвятляць той радаснай перспектывай, якая ўмацоўвае ў чалавеку давер да сваіх працавітых рук, да свайго спрытнага розуму, што, скрыжаваўшыся, прыносяць матэрыяльны плён і духоўную асалоду. У гэты плён, у гэтую асалоду верыш, бо яны—вынік сутыкненняў самых падчас палярных поглядаў, самых непаўторных характараў.

Дзядзька Хрол — «высокі, плячысты». Ён—цудоўны пячнік, але «ў яго сапраўды было ўсё», як у гаспадарлівага чалавека, адзінага на ўсю акругу майстра. Аўтар прадстаўляе нам дзядзьку Хрола не толькі каб замілавацца яго ўвішнымі ўмелымі рукамі, яго практычным інтарэсам, але і знайсці повад для роздуму аб вельмі важнай прабламе — аднаўленні парушаных часам кантактаў чалавека з прыродай, бо яна «не можа быць ворагам», не можа быць бязлітаснай «тым больш цяпер, калі з'явіўся новы від кентаўра — Чалавек-машына, які ўсё больш і больш засяляе зямлю і амаль кіруе чалавекам». Так ад раскрыцця характару канкрэтнага чалавека аўтар ідзе да абагульнення, публіцыстычна завостранага і эмацыянальна падмацаванага тым лірычным узрушэннем, да якога не можа быць абыякавым самы абыякавы чытач.

«Старыя не разумеюць маладых»— абагульняе аўтар. Але перад тым ён вельмі дасціпна падрыхтоўвае гэты вывад і ў якасці антытэзы, што і маладыя не разумеюць старых, карыстаецца іроніяй, улоўленай з вуснаў дзяўчыны: «Такі фільм, такі фільм, так шкада было герояў, так шкада, што, каб не была нафарбаваная, мусіць бы расплакалася...»

Гэта запомніцца, запомніцца надоўга, бо яно—вынік скрыжоўвання лірычнага і публіцыстычнага, вынік памнажэння думкі на пачуцці, ці, інакш кажучы, вынік апладнення пачуцця думкай. Праўда, не заўсёды аўтар ідзе гэтым, творчым шляхам. Бывае, што празмеру захопіцца забаўляльным элементам і тады ўспомнены анекдот ці якое кур'ёзнае здарэнне пачне пракідацца ў агульнай тканіне як недарэчы падабраная па колеры нітка.

У свеце не бывае двух падобных адзін на аднаго людзей, нават калі яны блізняты. Улавіць адметнае ў характары чалавека, каб псіхалагічна абгрунтаваць яго паводзіны, дзеянні, думкі — найпершая ўмова творчасці. Я. Сіпакоў умее прадставіць чалавека вельмі выразным штрыхом. Як графік-віртуоз, не адрываючы рукі ад паперы, ухоплівае адразу цэлы вобраз, так і Я. Сіпакоў немнагаслоўны ў характарыстыцы герояў свайго нарыса: «А вунь па вуліцы павольна пасунулася вялізная, як воз, ношка з сенам. За ёю не відно ні галавы, ні рук, ні спіны—толькі адны ногі». Так выпукла, фізічна адчувальна паўстае перад намі дзядзька Сашта, які любіць заўсёды нешта расказваць, любіць і слухаць, але «любіць нешта смешнае, незвычайнае». І вось, каб дагадзіць гэтай прыхамаці дзядзькі Сашты, аўтар нарыса часам залішне перабірае меру, нагрувашчваючы кур'ёз на кур'ёз. Тут ён як бы ўступае ў супярэчлівасць з самім сабой, здраджвае лаканізму пісьма. І ён гэта адчувае, кожны раз як бы спахопліваючыся, што разгаварыўся.

Лёгкая, ледзь улоўная іронія прысутнічае амаль заўсёды, калі аўтар хоча здабыць з факта глыбінны сэнс, асабліва калі гэты факт негатыўнага плана. Гэта і ёсць той выяўленчы сродак, якім характарызуецца адметнасць стылю Я. Сіпакова. Але адметнасць гэтая не чыста фармальнага парадку, яна ў самім змесце, у глыбо-

# СТАРОНКІ ЛЕТАПІСУ

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.)

Аднойчы, у другой палове трыццатых гадоў, мы сустрэліся з Танкам у Стася Станкевіча. Ён, пакінуўшы «Калоссе», арганізаваў новы літаратурны часопіс «Маладая Беларусь». Па гэтай прычыне ён выклікаў нас, каб нібы абмеркаваць часопіс, а, галоўнае, папрасіць у нас вершаў. Казаў, што часопіс будзе вельмі левага напрамку, нешта накшталт польскага часопіса «Папросту», які быў закрыты польскімі ўладамі, што ні слова дрэннага там не будзе друкавацца супраць Савецкага Саюза, што нават будзе змяшчацца шмат твораў з літаратуры Савецкай Беларусі. Мы паддаліся на правакацыю гэтага прайдзісвета і далі яму па вершу. У хуткім часе, перад выхадам у свет гэтага часопіса, Максім Танк, жывучы ў Вільні, даведаўся, што грошы на выданне Станкевіч атрымлівае непасрэдна ад пана Янкоўскага, які кіраваў у ваяводстве тайнай палітычнай паліцыяй. Максім папярэдзіў аб гэтым мяне. Мы адразу адмовіліся ад супрацоўніцтва. Другі нумар часопіса не выйшаў, а Станкевіч падаўся ў педагогі—пачаў выкладаць у польскай гімназіі польскую мову ў пагранічным гарадку Дзісна. Тут за зіму працы здолеў улезці ў камсамольскую арганізацыю гімназіі і вясной прадаць яе дэфензіве. У выніку — адзінаццаць гімназістаў трапілі ў астрог, двое юнакоў спрабавалі ўцячы ў Савецкі Саюз і кінуліся ў Дзвіну, у самае вясновае разводдзе, і ўтапіліся ў ёй. Станкевіч жа атрымаў двухгадовую навуковую камандзіроўку ў Югаславію.

Нешта гады за два да вызвалення выйшаў з астрогу Сяргей Хмара. Ён пачаў вельмі востра і актыўна выступаць у літаратуры. Надумаў арганізаваць у Заходняй Беларусі Саюз пісьменнікаў. Павысылаў усім актыўнейшым літаратарам паштовыя карткі з прапановай прыбыць да яго ў Вільню для арганізацыі гэтага саюза. Я не ведаў, што рабіць. Такая арганізацыя была патрэбна. Хмару ж я ведаў некалі як камсамольца.

Тут таксама выручыў мяне Максім Танк. Яму стала вядома, што саюз гэты ні што іншае, як чыстая правакацыя польскіх паноў, што Сяргей Хмара стаў у астрозе правакатарам...

Кароткі побыт Максіма пад маёй страхой вельмі ўзбадзёрыў мяне. Нашы размовы пра родную літаратуру абудзілі жаданне больш актыўна прыняцца за вершы.

### ПАЕЗДКА Ў БЕЛАСТОК

МАКСІМ ТАНК гаварыў мне, як быў у Шаркоўшчыне, што нас, заходнікаў, хутка будуць прымаць у Саюз савецкіх пісьменнікаў. Мне не верылася, што стану раптам савецкім пісьменнікам. Можа калі-небудзь пазней і буду ім, аднак зараз стаць членам Саюза пісьменнікаў СССР — гэта было проста неверагодна, хоць маё пісьменніцкае дзесяцігоддзе адзначалася ў дваццаць восьмым годзе і на маім даробку лічылася больш дзесяці кніжак. Між іх былі розныя па аб'ёме і жанры: зборнікі вершаў, асобна выдадзеныя паэмы, п'есы і нават напісаная, аднак загінуўшая ў час вайны ў віленскім выдавецтве, аповесць. Аднак я ніколі не лічыў сябе пісьменнікам-прафесіяналам, бо асноўнай маёй працай было нешта іншае, што зусім не вязалася з працай пісьменніка. Пісьменніцкая праца была маім «хобі», як зараз кажуць. У Заходняй Беларусі ніхто з паэтаў і пісьменнікаў ніякага ганарару не атрымліваў. У найлепшым выпадку сябры і прыхільнікі-чытачы маглі сабраць крыху грошай на выданне зборніка. А яшчэ — кожны з нас, чыя кніжка выходзіла ў свет такім спосабам, дрыжэў да самага яе з'яўлення. Над галавой вісела панская цэнзура і канфіскацыя кніжкі. Тады замест ганарару аўтар чакаў, калі паклічуць на суд і пасадзяць за краты.

Мінуў нейкі час пасля ад'езду Максіма Танка з Шаркоўшчыны, і вось аднаго дня мне пазванілі з Вілейкі, каб я забраў з сабой свае кніжкі і тэрмінова прыбыў у вобласць. Мяне якраз на гэты час не было дома. Ішоў пільны рамонт школаў і я гойсаў па раёне. Таму своечасова прыбыць у Вілейку не змог.

Прыбыўшы туды, я ўжо не застаў Максіма — ён выехаў у Баранавічы. На шчасце, у рэдакцыі абласной газеты мяне сустрэў Міхась Клімковіч.

— Хто позна ходзіць, сам сабе шкодзіць, — сказаў Клімковіч, прывітаўшыся са мной. — Такая падзея, як прыём у члены Саюза савецкіх пісьменніка, бывае толькі раз у жыцці

кай павазе аўтара да чалавека і яго занятку, ва ўменні апаэтызаваць спрадвечную любоў вяскоўца да зямлі, да працы, скіраванай на ўдасканаленне сваіх адносін з наваколлем. А таксама любоў да роднага кутка, з якой пачынаецца і галоўнае — любоў да Радзімы.

Трывогі і радасці Я. Сіпакова не замыкаюцца роднай вёскай і яе ваколіцамі. Гэта, прынамсі, пацвярджаецца ў раздзеле пра сустрэчу з былым прыслужнікам акупантаў. Хоць аўтар і прызнаецца, што «вайна больш за ўсё ўспамінаецца сваім вонкавым выглядам», ды толькі ў гэтай вонкавасці тоіцца шмат глыбокага зместу. Дазволю тут прывесці толькі адзін сказ: «...нашы мілыя беларускія дзеці (бачыш ,нават дзеці!) пакідалі свае дзіцячыя гульні і ішлі замятаць яловымі лапкамі сляды партызан, каб фашысты не маглі ведаць, у які бок тыя пайшлі». Дэталь і разам з тым ёмістае абагульненне. Гэта і ёсць публіцыстыка.

Напамінкі пра ваеннае ліхалецце (варожая каска, у якой вывеліся піскляты, капцілка і конаўка з гільзы, выкапаныя снарадамі і бомбамі калодзежы) прыводзяць да высновы, што гучыць магутнай перасцярогай усім, хто жыве ў гэтым неспакойным свеце: «...чалавек пачынае разумець, што і сёння вельмі многа бяроз усё яшчэ ідзе ў свеце на прыклáды». Сіла такіх абагульненняў усё ж у іх прывязанасці да таго грунту, на якім аўтар вырас і ўзгадаваўся без маленства.

Я. Сіпакоў заключае нарыс шчырым прызнаннем: «Я люблю нашу сучасную вёску, але няхай даруюць мне чытачы, калі тут адчуюць нейкі сум па ранейшых маіх Зубрэвічах. Гэта, мне здаецца, натуральна». Але ж натуральнасць, лагічная паслядоўнасць паказу жыцця і ёсць той энергічны імпульс мастакоўскага пазнання, без якога немагчыма сапраўдная творчасць. Гэта разумее аўтар, калі піша: «Развітаўшыся з маёю вёскаю, я ведаю, што абавязкова вярнуся ў новыя Зубрэвічы, каб напісаць пра іх, бо я люблю іх...»

Вось за гэтую любоў да роднага кутка, да людзей, што сваёй самаадданай працай ствараюць новую славу плоднай беларускай зямлі, за публіцыстычна завостранае ўспрыманне рэчаіснасці і належыць ушанаваць нарыс Янкі Сіпакова «Акно, расчыненае ў зіму» Дзяржаўнай прэміяй БССР у галіне журналістыкі.

Пісьменнік-журналіст Я. Сіпакоў умее расчыняць вокны насустрач жыццю, расчыняць іх насцеж, каб відаць было добра і далёка. У гэтым лёгка пераканацца, чытаючы яго новыя нарысы «Там, дзе Сібір» і «Па зялёную маланку», што з'явіліся зусім нядаўна на старонках часопіса «Полымя». У іх усё тая ж яскравасць і выразнасць ідэйна-пазнаваўчых і ідэйна-выхаваўчых задач, якімі характарызуецца савецкі нарыс нашых дзён.

Ул. ЮРЭВІЧ.



ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА ГАЗЕТУ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»
ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА ГАЗЕТУ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»
ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА ГАЗЕТУ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

# НАПЯРЭДАДНІ СВЯТКАВАННЯ

*ЮБІЛЕЙНЫЯ УРАЧЫСТАСЦІ У ТЭАТРЫ імя ЯНКІ КУПАЛЫ АДБУДУЦЦА Ў ЛІСТАПАДЗЕ*

**14 верасня, праз пяцьдзесят гадоў пасля таго, як адбыўся першы спектакль беларускай прафесіянальнай трупы драматычнага тэатра, адбыўся чарговы спектакль — «Адкуль грэх!» А. Петрашкевіча. Чаму не адбыліся святочныя паказы спектакляў і іншыя мерапрыемствы, якія звычайна бываюць у такія дні? Дырэктар Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, заслужаны дзеяч культуры БССР Іван Міхалюта адказаў нашаму супрацоўніку:**

**— Камісія па святкаванні 50-годдзя тэатра палічыла мэтазгодным перанесці ўрачыстасці на сярэдзіну лістапада. Па-першае, трупа толькі пачала сезон. Рыхтуем новыя спектаклі, пра якія ў нумары за 4 верасня гаварыў чытачам «Літаратуры і мастацтва» галоўны рэжысёр тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР Ціхан Кандрашоў. Без новых пастановак, відаць, і сапраўды наша творчая справаздача перад грамадскасцю была б няпоўнай.**

**Па-другое, такой падзеі павінны папярэднічаць мерапрыемствы, якія больш шырока пазнаёмяць гледачоў з дзейнасцю тэатра ўчора і сёння. У дзень выхаду гэтага нумара газеты група артыстаў-купалаўцаў выступае перад жыхарамі Нясвіжскага раёна. Збіраемся мы пабываць на радзіме народнага песняра Беларусі Янкі Купалы, чыё імя носіць тэатр, — у Вязынцы, наведаць Гомельшчыну, сустрэцца з беларускімі аўтабудаўнікамі ў Жодзіне... Адным словам, маршруты сустрэч вялікія і разнастайныя. Тэатр хоча яшчэ раз наблізіцца да тых, каму адрасуецца яго мастацтва, шчыра пагутарыць з гледачамі, абмяняцца думкамі пра сталыя кантакты з калгаснікамі і рабочымі, чые вобразы потым ажываюць у святле рампы.**

**Выдаецца альбом, прысвечаны творчаму шляху тэатра і яго выдатных майстроў. Гэта будзе і самы дакладны даведнік, дзе чытач знойдзе пералік спектакляў у храналагічным парадку за ўсе 50 гадоў. Будуць названы прозвішчы пастаноўшчыкаў, мастакоў і кампазітараў. Багаты альбом і на дакументальныя фотаздымкі.**

**Музей тэатра робіць новую экспазіцыю. А Беларускае тэатральнае аб'яднанне наладжвае перасоўную выстаўку пра Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы.**

**Адбудуцца вечары тэатра ў Маскве і Ленінградзе.**

**На ўрачыстасці мы запросім драматургаў, аўтараў тых п'ес, якія іграліся і іграюцца на нашай сцэне, рэжысёраў, нашых сяброў і паплечнікаў—артыстаў Беларускага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.**

**Праграма вялікая. І тэатр цяпер жыве клопатам пра яе выкананне.**

## ГРОДЗЕНСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ — СТО СОРАК ГАДОЎ

Грамадскасць Гродна адзначыла 140-годдзе гродзенскай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага.

Амаль паўтара стагоддзя служыць гэты старэйшы ў Прынямонні ачаг культуры людзям.

У гады Вялікай Айчыннай вайны гітлераўцы разграмілі і спалілі амаль усе фонды бібліятэкі. Удалося выратаваць толькі частку кніг. Іх узяў да сябе на кватэру бібліятэкар Н. А. Чарвякоўскі. Рызыкуючы жыццём, ён працягваў тайна выдаваць кнігі знаёмым чытачам. Падпольна бібліятэка абслугоўвала народных мсціўцаў.

Пасля вызвалення Гродна ад нямецкіх акупантаў бібліятэка перажыла сваё новае нараджэнне.

---

чалавека. Выпадак гэты вельмі важны для пісьменніка. Адносіцца да яго трэба з належнай павагай, — пясочыў ён мяне. — Танк учора адправіўся ў Баранавічы. Туды збяруцца ўсе ўступаючыя ў саюз пісьменнікі. Сёння яны выступяць па радыё — запрацавала пашкоджаная вайной Баранавіцкая радыёстанцыя. Зараз пазваню ў Баранавічы Міхасю Ціханавічу, параюся, што трэба рабіць з табой. Трэба табе заязджаць у Баранавічы ці проста ехаць у Беласток.

Праз гадзіны дзве мы зноў сустрэліся ў рэдакцыі.

— Гаварыў я з Лыньковым, — адразу пачаў Міхась Мікалаевіч, — яны сёння выступяць па радыё, а пад вечар адправяцца ў Беласток і будуць там чакаць цябе. Табе ж такі загад: заўтра выступіць аднаму па радыё ў Баранавічах, а вечарам выехаць ў Беласток. Ты падрыхтаваўся да радыёвыступлення?

— Адкуль жа? Перадалі па тэлефоне захапіць з сабой свае творы, вось кніжкі я і забраў з сабой.

— І гэта не бяда. Па радыё трэба выступіць. У Баранавічах будзе ўсё падрыхтавана да твайго выступлення. Толькі там чакаюць цябе з гатовай перадачай. Дык сядай і накідай кароткі ўступ і падрыхтуй вершы для чытання. Колькі табе будзе дадзена на гэта часу, даведаешся там на месцы. Вершаў трэба падрыхтаваць больш, каб было з чаго выбраць, калі некаторыя выпадуць пры адборы ў студыі.

Я сеў за стол у рэдакцыйным пакоі і пачаў думаць. У галаве было пуста, як у бочцы ад селядцоў, калі з яе прададуць апошні селядзец. Аднак і тут прыйшоў мне на дапамогу Міхась Мікалаевіч.

— Ты калі-небудзь выступаў па радыё? — запытаў мяне з хітраватай усмешкай Клімковіч.

— Запрашаў некалькі разоў ваявода Бацянскі, ды я адмовіўся, — у тон яго пытанню адказаў я.

— Бач ты, які ганарысты! Добра! Давай перадачу разам зробім!

Праз гадзіны дзве ў нас было ўсё гатова. Вечарам на спадарожнай машыне я выехаў у Баранавічы. Машыну адшукаў таксама Міхась Мікалаевіч.

У дзесяць гадзін раніцы я быў ужо на баранавіцкай радыёстудыі, дзе ўсё было падрыхтавана для майго выступлення. Апынуўшыся разам з дыктарам перад мікрафонам, я быў вельмі ўзбуджаны. Дыктар размаўляў са мной, як з глуханямым, на мігі. Гэта яшчэ больш хвалявала мяне. Я баяўся, каб не награшыць чым-небудзь перад гэтай маўклівай бліскучай цацкай, што выкідае мой голас, мае думкі на хвалі эфіру.

Я не ведаю, як атрымалася маё выступленне. Але калі яно закончылася, я адчуў вялікую палёгку. Потым у жыцці мне даводзілася многа раз выступаць перад мікрафонам, але і сёння памятаю страшны мікрафон у Баранавічах.

У Беласток прыбыў раніцай. Паспеў нават адпачыць некалькі гадзін у гасцініцы, у якой дбайныя сябры заказалі мне пакойчык.

У дзесяць гадзін мы ўсе ўжо былі ў памяшканні нашага філіялу Саюза пісьменнікаў заходніх абласцей Беларусі. На пасяджэнне сабралася не вельмі многа пісьменнікаў. З мінскіх таварышаў памятаю Міхася Лынькова і Цімоха Крысько (Васіля Вітку), хоць былі і яшчэ таварышы. З заходнікаў — Максіма Танка, Піліпа Пестрака, Ніну Тарас.

Міхась Лынькоў, па абавязку старшыні саюза, адкрыў пасяджэнне і з уласцівым яму гумарам закаціў нам павучальную прамову аб тым, якім павінен быць савецкі пісьменнік, пра абавязкі пісьменніка ў грамадстве. Потым прыступілі да прыёму.

Нас прымалі ў Саюз пісьменнікаў без пісьмовых рэкамендацый двух або трох членаў Саюза пісьменнікаў, як гэта практыкуецца зараз. Я расказаў больш-менш падрабязна аўтабіяграфію. Пасля Максім Танк, маючы перад сабой мае зборнікі, даў мне характарыстыку, абрысоўваючы мой жыццёвы і пісьменніцкі шлях. Выказаліся іншыя. Прагаласавалі. І вось я стаў членам Саюза савецкіх пісьменнікаў. Нават пасля прыёму мне цяжка верылася ў гэта.

Пасля выбралі кіраўнікоў пісьменніцкага філіялу ў Беластоку. Старшынёй быў абраны, калі не здраджвае памяць, Піліп Пестрак.

Кіраўнікі горада наладзілі ў той дзень вялікі літаратурны вечар, які адбываўся ў гарадскім тэатры — у тым самым тэатры, дзе праходзіў Народны Сход Заходняй Беларусі.

На вечары я ўпершыню ўбачыў і пазнаёміўся з Піменам Панчанкам. Ён у той час адбываў вайсковую службу ў Беластоку і, як пачынаючы, аднак шмат абяцаючы паэт (так гаварылі нам мінскія таварышы), быў запрошаны прыняць удзел у літаратурным вечары. На мяне ён зрабіў прыемнае ўражанне вельмі маладога і вельмі сціплага салдаціка. Вершы яго былі таксама сціплыя, але, разам з тым, і вельмі свежыя, з уласцівай толькі ім арыгінальнай бадзёрасцю.

Вось і ўсё, што засталося ў памяці ад маіх першых крокаў, якімі пачынаўся мой шлях савецкага пісьменніка.






Р. МІХАЙЛАВА

# «ЛІЧУ, ШТО ЛЁС МОЙ ШЧАСЛІВЫ...»

ВЯДОМЫ музыказнаўца катэгарычна сказаў:

— Калі б яна цалкам прысвяціла сябе сольным выступленням, яна стала б адной з самых вядомых артыстак у краіне. Разумееце? Такога маштабу талент. Але выступае яна рэдка, мала. Чыя віна?.. Ну, я не ведаю, чыя тут віна і ці віна гэта. Але вы так і напішыце: недаравальна мала!

— Што ў ёй галоўнае? — задумалася яго маладая калега. — Здаецца, тое, што яна сапраўдны мастак, які ў любых умовах будзе працаваць з поўнай аддачай і натхняць усіх, хто працуе побач. На самай маленькай пляцоўцы, у далёкім ад сталіцы вясковым клубе яна выступае, нібы на сцэне філармоніі, усім дорыць такі ўзнёслы настрой. І тады, калі саліруе, і калі бывае канцэртмайстрам.

Спявак выказаўся коратка:

— Ева Якаўлеўна? Ды яна ж са скрыні можа выціснуць музыку! З ёй працаваць — і на канцэрце, і на рэпетыцыі — свята...

А раней за ўсіх, шмат гадоў назад, сказала сваё слова публіка. Іменна яна нейкім «шостым пачуццём» вызначае талент артыста яшчэ тады, калі ён не мае ні званняў, ні ўзнагарод, ні пахвальных рэцэнзій у газетах...

Імя Евы Эфрон з'явілася на мінскіх афішах неўзабаве пасля вайны, і неяк адразу, з першых жа канцэртаў, пра яе загаварылі аматары класічнай музыкі.

Мне давялося быць на адным з гэтых першых канцэртаў. Выконвалася «Апасіяната». Памятаю, як выйшла на сцэну дзяўчына ў белай сукенцы і як недзе ў глыбіні душы варухнуўся недавер: яна здалася занадта маладой, занадта капрызна-прыгожай і вытанчанай для мужнай і суровай музыкі Бетховена, ад выканаўцаў якой чакаеш перш за ўсё духоўнай сталасці... Але вось прагучала першая частка санаты — прыгажуня грала па-мужчынску: цвёрда, стала і маштабна! Так, гэта быў сапраўдны Бетховен, мужны і моцны, палымяны і парывісты. І разам з тым нідзе не было эмацыянальнага перабольшвання, залішняй раскаванасці, агаленасці душы. Паток палымяных пачуццяў быў нібы скаваны воляй, густам, майстэрствам піяністкі, і нават самыя шалёныя фортэ гучалі высакародна.

З канцэрта ішлі ўсхваляваныя. Мы разумелі, што чулі выдатнага выканаўцу, а да таго ж, нам здавалася, у самым выйгрышным для яго рэпертуары. Бо ў той вечар усе былі перакананы, што іменна Бетховен найбольш блізкі творчаму духу піяністкі...

А праз некаторы час мы пачулі «сапраўднага» Шапэна — паэтычнага і мужнага, арыстакратычнага без манернасці, мяккага і летуценнага без сентыментальнасці. І тыя, хто слухалі Еву Эфрон упершыню, выйшлі ўпэўненыя, што менавіта Шапэн — «яе» кампазітар.

Бадай, гэта самая прывабная рыса піяністкі — уменне пранікнуць у сутнасць твора, раскрыць непаўторнасць кожнага кампазітара. Калі слухаеш яе, не ўзнікае пытання, традыцыйна ці арыгінальна яна трактуе твор, бо здаецца, гэта адзіна правільнае прачытанне. Салістка адчувае сябе добра ў любым рэпертуары. Бо на такой, вышэйшай ступені майстэрства прыгажосць гуку і віртуозныя магчымасці выканаўцы становяцца ўжо толькі сродкам.

У Евы Эфрон вельмі шырокі рэпертуар. У розныя гады выступала яна з творамі Чайкоўскага і Шумана, Ліста і Рахманінава, Пракоф'ева і Шастаковіча. Яна грае ўсяго Шапэна. Выдатна выконвае Моцарта і Баха. А побач — сучасны віртуозны канцэрт Галыніна, вядомая рапсодыя Гершвіна і зусім новыя творы беларускіх кампазітараў.

Піяністка першая выканала абодва фартэпіянныя канцэрты і Фантазію Камінскага, санату-сімфонію Цікоцкага, «Фантастычныя танцы» Глебава, прэлюдыі Падкавырава. Трывала ўвайшлі ў яе рэпертуар творы Алоўнікава і Тырманд, Аладава і Багатырова. Я кажу зараз толькі пра сольны рэпертуар. А колькі разоў мы слухалі піяністку як акампаніятара, колькі разоў яна грала ў ансамблях!.. Творчасць заслужанай артысткі БССР Евы Эфрон даўно стала неад'емнай часткай музычнага жыцця рэспублікі.

З часу яе першых канцэртаў прайшло больш дваццаці гадоў. Але, напэўна, у многіх застаўся ў памяці той рамантычны вобраз: натхнёны малады твар і палымяная «Апасіяната». Зусім нядаўна, калі я пазваніла Еве Якаўлеўне, каб дамовіцца аб сустрэчы, і пачула ад яе «лепш заўтра, бо сёння я занята з унукам», чамусці надта здзівіла само слова «ўнук»... У сваім захапленні артыстам мы часам забываем, што ён жывы чалавек. Між тым падзеі жыцця непазбежна адбіваюцца на яго творчасці.

...У 1943 годзе непадалёк ад Алма-Аты санітары знялі з поезда тыфозную маладую жанчыну — эвакуіраваную ў Сібір студэнтку Маскоўскай кансерваторыі. Цяжкім вакольным шляхам дабіралася яна ў свой родны Баку. Але не даехала. Доўга хварэла ў алмаацінскім шпіталі, потым, ледзь стаўшы на ногі, пачала працаваць у мясцовай філармоніі, сустрэлася там з беларускімі музыкантамі, і яны запрасілі, угаварылі яе ехаць у Мінск. Так у 1944 годзе ў Беларускім оперным тэатры з'явіўся новы канцэртмайстар...

— Дзіўна, — кажа Ева Якаўлеўна, — я лічу зараз Беларусь сваёй радзімай, а тады зусім нічога пра яе не ведала, амаль не ўяўляла сабе, куды ж гэта я еду...

— Якія ж былі вашы першыя ўражанні, чым запомніўся вам пасляваенны Мінск?

— Работай, — смяецца яна. — Я была галоўным канцэртмайстрам опернага тэатра, адначасова рыхтавала сольныя праграмы і заканчвала апошні курс кансерваторыі. Можаце ўявіць...

У гэтай жанчыны рэдкі дар — аб усім гаварыць на дзіва проста. Прыроджаная гэта рыса характару — прыкмета арганічнай унутранай незалежнасці, — ці ідзе яна ад ігумнаўскай школы?.. Бо многа ж пісалі аб яго незвычайнай шчырасці і прастаце, а для Евы Якаўлеўны яе настаўнік назаўсёды застаўся ідэалам музыканта.

— Канстанцін Мікалаевіч быў не проста цудоўны піяніст. Гэта быў чалавек крыштальнай чысціні, багатага і ўзнёслага духоўнага свету. Мы, вучні, маліліся на яго. Нават зараз, праз трыццаць гадоў, я неяк сувымяраю ўсё, што раблю, з тым, як ён нас вучыў...

На хвіліну яна задумваецца і моўчкі глядзіць у акно. За акном ззяе восеньскае сонца, моцны вецер калыша вяршыні дрэў. Поўдзень. Хутка пачнецца рэпетыцыя...

— Ева Якаўлеўна, традыцыйнае пытанне — над чым працавалі вы апошнім часам?

— Многа работы было ў лекцыйным бюро. Да Ленінскага юбілею мы рыхтавалі спецыяльныя цыклы, асобныя лекцыі-канцэрты. Наша брыгада многа ездзіла — выступалі мы на фабрыках, у школах, у сельскіх клубах... А яшчэ я ўвесь час рэпецірую са спевакамі як канцэртмайстар. З Дзмітрыем Казанцавым падрыхтавалі нядаўна камерную праграму, уключылі ў яе многа твораў лірычнага складу — гэта для спевака нейкая новая грань, бо яму заўсёды былі больш блізкія драматычныя оперныя арыі. З Уладзімірам Вепрыкам зараз працуем. Са Святланай Данілюк у пачатку лета зрабілі вялікую праграму выступленняў у Балгарыі...

— А што новага з'явілася ў вашым сольным рэпертуары?

— Ну вось самае апошняе — амаль закончыла праграму з твораў Рахманінава і Скрабіна. Здаецца, пачаў у мяне, нарэшце, выходзіць Рахманінаў, бо доўга ж я не мела задавальнення...

— Прабачце, але ж вы даўно выконваеце Рахманінава, і з вялікім поспехам.

— Ах, гэта зусім адно, як цябе ўспрымаюць, і другое, як адчувае сябе сама выканаўца. Вось кажуць: змест, вобраз... А ў Рахманінава неяк яшчэ па-над вобразам адчуванне такой шырыні, такой бязмежнай прасторы... Гэта вельмі цяжка перадаць словамі, але зусім неабходна, каб выканаўца адчуў, усвядоміў, як кажуць, знайшоў...

— Калі вы выступіце з новай праграмай?

— Не ведаю — гэта ж нідзе не запланавана. Частку твораў, магчыма, сыграю ў Рызе ці на Украіне — кажуць, што там намячаюцца мае канцэрты. Але гэта пакуль што размовы.

— Ева Якаўлеўна, а чаму не ў Мінску? І наогул — чаму так рэдка бываюць вашы выступленні?

— У Мінску, здаецца, планаваўся канцэрт з іншых твораў. А наконт таго, што рэдка... Каб пастаянна і часта канцэртаваць — разумею, вядома, каб быць сапраўдным салістам, на вышэйшым узроўні — трэба ад усяго адмовіцца, усё падпарадкаваць мэце... Не, не, менавіта так, бо музыка — жорсткая багіня... А я звычайны чалавек, да таго ж жанчына, маці, сваімі рукамі выгадавала дваіх дзяцей... Быў, вядома, яшчэ адзін шлях: сыграць адзін — адказны канцэрт — лепш, другі, неадказны, горш і спадзявацца, што ў цэлым яно неяк ураўнаважыцца. Але гэта было б страшней за ўсё. Бо музыкант толькі датуль застаецца музыкантам, пакуль для яго галоўнае — музыка. І мне надта хацелася захаваць у сабе гэту здольнасць.

Здаецца, яна хоча сказаць нешта яшчэ, але ўжо прыйшлі спевакі — пачынаецца рэпетыцыя...

Напэўна, пра кожнага вопытнага канцэртмайстра можна загадзя сказаць, што працуе ён строга, уважліва і карпатліва. Ніколі не памылішся, бо з дзяцінства мы чулі аб штодзённай цяжкай працы музыканта. Але Ева Якаўлеўна да ўсяго працуе яшчэ і артыстычна, і няма ў яе на рэпетыцыі адчування настрою гэтай славутай «цяжкай працы». Можа, тут адыгрывае ролю і тое, што ёй не даводзіцца «тлумачыць азы», — спевакі даражаць рэпетыцыйным часам прыходзяць падрыхтаванымі, як і канцэртмайстар. Свабодна і ўпэўнена, нібы на канцэрце, льецца голас, і толькі зрэдку перапыняюць яго кароткія заўвагі:

— ...Вось тут хацелася б, каб гук быў звонкі, але зусім ціхі...

— ...Не спрабуй, ты ўсё роўна не паспееш тут узяць дыханне на ўвесь перыяд. Бо перыяд вялікі, а паўза надта малая. Значыць, поўнае дыханне трэба браць загадзя — вось тут...

І зноў гучыць дуэт голасу і фартэпіяна, і паступова я пачынаю разумець, што словы «з ёю на рэпетыцыі свята» зусім не былі нейкім вобразным перабольшваннем. І піяністка, і спявак «выкладваюцца» цалкам, але ім лёгка і весела, бо сапраўды ж гэта вельмі здорава — вось проста так, не для поспеху і не на публіку, ствараць сапраўдную музыку і радавацца ёй.

Я кажу аб гэтым Еве Якаўлеўне, калі ўсе разыходзяцца і яна зноў падыходзіць да акна. Па-ранейшаму бушуе пад ветрам лісце, толькі ад дрэў пацягнуліся па зямлі доўгія цені. Нехта ў доме насупраць злавіў у люстэрка прамень — сонечны зайчык дрыжыць на валасах Евы Якаўлеўны. Валасы моцна пабялелі, але ў спалучэнні з яе тварам сівізна гэта здаецца нейкай артыстычна прадуманай дэталлю.

— Так, я лічу, што лёс мой шчаслівы, — адказвае яна. — Бо я па-сапраўднаму люблю сваю звычайную штодзённую работу. А яшчэ — я мала выступала, але калі ўжо выходзіла на сцэну, аддавала ўсё, што ёсць за душой.

Напэўна, гэта заўсёды адчувала і публіка. Яна ж адчувае ўсё, нездарма так разборліва дорыць свае пачуцці: аднаму — раптоўнае захапленне, калі артыст метэорам праносіцца па сцэнах, каб згаснуць праз два-тры сезоны, другому — незалежную ад моды і рэкламы трывалую і сталую любоў.

Зусім нядаўна ў невялікім зборным канцэрце пасля выступлення Евы Эфрон паднялася на сцэну маладая дзяўчына і працягнула ёй ружы:

— Гэта вам, ад вашых незнаёмых сяброў.

— А ёсць такія? — засмяялася піяністка.

Пытанне было зададзена жартам, але дзяўчына адказала сур'ёзна і ўрачыста:

— Вядома, ёсць. І заўсёды будуць!..




## «ВЫХОЎВАЦЬ ГЛЕДАЧА ТРЭБА»

Так называўся артыкул Р. Казловай, апублікаваны на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» ў 41 нумары гэтага года.

Як паведаміў рэдакцыі начальнік Гомельскага абласнога ўпраўлення культуры Э. Гладковіч, артыкул гэты быў абмеркаваны ва Упраўленні культуры разам з дырэктарам і галоўным рэжысёрам тэатра.

Заўвагі ў адрас Гомельскага абласнога драматычнага тэатра прызнаны правільнымі. У новым тэатральным сезоне будуць прыняты меры, каб палепшыць рэкламную справу, прапаганду новых работ тэатра па тэлебачанні і ў абласной газеце, а таксама арганізацыю мэтавых спектакляў.

Мяркуецца выпускаць на прэм'еры спецыяльныя афішы, якія раскрывалі б змест спектакля, павялічыць радыус размяшчэння тэатральных шчытоў і рэкламных афіш у горадзе, прыцягваць да кантролю за парадкам у зале на мэтавых спектаклях камсамольскі актыў навучальных устаноў і педагогаў агульнаадукацыйных школ.

## Паэтычная паверка

### Ул. НЯДЗВЕДСКІ



### ВУЗЛЫ

У жыццёвай складанай гонцы
Я часта раблюся наіўным:
Прывязваю промні сонца
Да знявечанай бурай галіны.
Мураўіную звязваю сцежку
З дарогай, што даль рассякае,
Хоць гэта адны усмешкі
У сяброў маіх выклікае.
Рукамі, што хлеб здабылі мне
І водзяць па хвалях човен,
Я звязваю позірк арліны
З паглядам вачэй крумкачовых.
Рукамі, што затрымцелі,
Адчуўшы далонь чужую,
Кожны нерв свайго цела
З нервам тваім вяжу я.
Дажджкоў красавіцкіх пасмы
Вяжу я з электрадротам,
Хоць ведаю: іх развязваць
Не давядзецца потым,
І нават канцы вяровак,
Што ў дол апускаюць труны,
Вяжу з тваім днём суровым,
Нібы абарваныя струны.
Нямала звязаў вузлоў я,
І моцных, і для прыліку...
Жыццё! Навучы мяне ў слове
Вузлоў навязаць вялікіх,
Такіх, як матросы ў моры
Вязалі пад рокат хваляў,
Такіх, каб ніякія штормы
Іх ніколі не развязалі...

### ОДА МІКРАРАЁНУ

О, мікрараён!
На зямлі беларускай
Ты расці і пад сонейкам грэйся.
Разумеем: патрэбна разгрузка
Гарадам-караблям, што падоўгу
у рэйсах!
О, мікрараён!
Слаўлю кожны твой сектар,
Як славіў нядаўна сялянскія
хаты;
Як слаўлю цябе першы твой
архітэктар,
Калі скручваў бяросты
расчэрчаны ватман!
О, мікрараён!
Слаўлю кожны твой домік,
Што здаецца пасыпаны пудрай.
Слаўлю кожны твой гмах, што
нібы аднатомнік,
Што нібы стэлажы ў прафесараў
мудрых!
О, мікрараён!
Гаспадынь юных ножкі
Тут на ганках мільгаюць і справа,
і злева.
О, мікрараён!
Слава шахматным дошкам,
Дзе адразу па гэтульki ёсць
каралеваў!
О, мікрараён!
Слаўлю я цябе, «мікра» —
Так, як славяць заўсёды
найноўшую моду!
Ты паэтаў няўрымслівых з горада
выкраў,
Каб складалі табе свае звонкія
оды!

### НЕМАТА

Для раскрытай душы немата —
Гэта горш, чым вачэй цемната.
Немата, калі сэрца
Імкнецца крычаць,
А розум яго
Прымушае маўчаць.
Немата — гэта пошук
Патрэбнага слова,
Немата — то расстанне
З матулінай мовай.
Немата — калі ў ліры
Іврвецца струна,
Калі думак тваіх
Замірае рака.
То хвіліна, калі,
Як удар перуна,
Напісаны верш
Забівае рука.

*ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА*

# ЛОЦМАНЫ ПАВЕТРАНАГА АКІЯНА

● ЛАКАТАР СЛУХАЕ ВОБЛАКІ. ● КАПРЫЗНЫЯ ЦЫКЛОНЫ. ● ДЗЕ «РОБІЦЦА» НАДВОР'Е! ● 30 МІЛЬЁНАЎ ЗА ДЗВЕ ГАДЗІНЫ.

НЕХТА падлічыў, што ў сямі выпадках з дзесяці знаёмыя, якія толькі сустрэліся, сваю размову пачынаюць з гаворкі пра надвор'е: «Ах, які сёння цудоўны дзень!» Або: «Надакучыў гэты дождж, а, між тым, па радыё абяцалі сонейка». «Эге ж, вер гэтым сіноптыкам, што паабяцаюць — усё наадварот. Вось аднойчы чую...»

Сіноптыкі, сіноптыкі... Няма, мабыць, такога гумарыста, карыкатурыста, які б абмінуў гэтую тэму. Я падазраю, што ў першабытныя часы з сіноптыкамі (ці як яны тады называліся) абыходзіліся яшчэ горш: не ўгадаў — звярам на абед...

Адным словам, надвор'е ў жыцці чалавека займае не апошняе месца. Асабліва ў жыцці цяперашняга цывілізаванага чалавека, які, здаецца, скарыў усе стыхіі. Скарыў, скарыў, а толькі самалёты не лятаюць у туман, караблям, нават самым вялікім, цяжка давадзіцца ў шторм, а пасееш пад зазімкі — не чакай ураджаю.

Намеснік начальніка Беларускага гідраметцэнтра Дзмітры Іванавіч Бярозкін загінае пальцы, пералічваючы сферы чалавечай дзейнасці, дзе не абысціся без дапамогі метэаролагаў, сіноптыкаў, гідролагаў.

Скажам, каб пабудаваць электрастанцыю, трэба ведаць рэжым ракі, сцёк, нанос, хімічны састаў вады і г. д. Такія ж дадзеныя патрэбны і маставікам, і маракам, што вядуць па рэках параходы...

А авіяцыя? Круглыя суткі бесперапынна гідраметцэнтр паведамляе авіятарам пра надвор'е ў розных кутках рэспублікі.

Метэаролагі гавораць хлебаробам, калі наступіць спрыяльнае надвор'е для сяўбы той ці іншай культуры, або калі трэба чакаць небяспекі.

Пільнае, нядрэмнае вока гідраметэаролагаў сочыць за рэкамі, азёрамі, лясамі, яны аналізуюць, як уплываюць лясы на клімат, як уплывае на клімат меліярацыя і г. д.

Я таксама трошкі скептык і не магу ўстрымацца, каб не спытаць пра верагоднасць «пападання». Дзмітры Іванавіч адказвае, што прагнозы, якія яны даюць, здзяйсняюцца на 85—90 працэнтаў.

— Колькі чалавек у рэспубліцы «робяць» надвор'е?

— Каля паўтары тысячы.

Дзмітры Іванавіч падыходзіць да карты, спярэшчанай трохкутнічкамі, квадрацікамі, чорнымі кропкамі.

— У рэспубліцы 50 метэаралагічных станцый, 3 аэралагічныя, 10 гідралагічных, якім паднача лены 200 сцёкавых пунктаў, што вывучаюць узровень, тэмпературу, хімічны састаў, наносы рэк, ёсць балотная гідраметэастанцыя на Палессі, азёрная станцыя па вывучэнні Нарачы, лясная спецыялізаваная станцыя на Палессі. Акрамя гэтага, у Мінску, Гомелі і Брэсце ёсць тры буйныя запальныя абсерваторыі, у якіх канцэнтруюцца дадзеныя назіранняў.

Метэаралогія — навука ў прамым і пераносным сэнсе — высокая. Прадмет яе даследавання — нябесны акіян, які не менш, а мо і больш складаны, чым акіян зямны, ва ўсякім разе менш вывучаны.

Нябесны акіян... Не ведаю большай асалоды, як летнім пагодлівым днём дзе-небудзь на ўскрайку лесу легчы на духмяную траву і глядзець, глядзець у чыстае неба, па якім плывуць белыя воблакі. Здаецца, ты сам-насам з гэтым вялізным светам, што вісіць над табой. Няма яму ні краю, ні канца. І становіцца неяк ніякавата. А што ты перад усім гэтым? Бездапаможная істота?.. Мо ў гэтую мінуту недзе нараджаецца тайфун, што нясе разбурэнне ўсяму, што трапляе на яго шляху, мо ўжо плыве сюды хваля холаду, якая закрые свінцовымі павесмамі гэтае чыстае неба... І ты, чалавек, не можаш перашкодзіць...

Мабыць гэтае, калі можна так сказаць, паўлірычнае адступленне выкліча ў маіх новых знаёмых, пра якіх сёння расказваю, іранічныя ўсмешкі. Яны ж менавіта са слаўнай кагорты людзей, што адчуваюць сябе не гасцямі — гаспадарамі ў тым паветраным акіяне. Не, пакуль што гэтыя людзі не могуць завярнуць цыклон ці ачысціць ад хмар неба, хаця і да гэтага прыйдзе чалавек. Але і тое, што яны робяць, што яны могуць, дальбог выклікае захапленне перад магутнасцю чалавечага розуму.

Кіраўнік групы метэаралагічнай радыёлакацыі Мінскай абсерваторыі Альфрэд Абрамавіч Разумоўскі з гонарам знаёміў мяне са сваёй гаспадаркай. Вялікі пакой з наглуха зашторанымі вокнамі нечым нагадвае рэнтгенкабінет. Вялізны, на ўвесь пакой, пульт з некалькімі круглымі экранамі. Аператар націскае кнопку і адзін з экранаў пачынае свяціцца. Ажывае стрэлка індыкатара і з кожным паваротам нібы пакідае за сабой новы згустак воблакаў.

У Мінску ў гэты дзень шэрае неба, і я дзіўлюся, дзе гэта лакатар «схапіў» такія сімпатычныя воблакі.

Альфрэд Абрамавіч тлумачыць, што малюнак на экране не адбітак таго, што непасрэдна зараз над нашай галавой. Гэта адбітак неба радыусам у 300 кіламетраў — фактычна большай часткі неба рэспублікі. Такія лакатары стаяць таксама ў Гомельскай і Брэсцкай абсерваторыях (чым далей, тым дакладнасць радыёхваляў меншая, таму і трэба такое дубліраванне, «перакрыццё»).

Я не магу адарвацца ад экрана. Дзіўна, «воблачка» велічынёй у 70—100 кіламетраў мае такі ж выгляд, такую форму, як і маленькае, што пабачыш у небе летнім сонечным ранкам.

Пры дапамозе спецыяльных ліneek, трафарэтаў аператар за некалькі хвілін вызначае вышыню, інтэнсіўнасць, шчыльнасць воблачнасці ў любым пункце радыуса дзеяння лакатара. Такія вылічэнні робяцца кожныя тры гадзіны. Альфрэд Абрамавіч паказвае мне карту Беларусі, спярэшчаную лічбамі і спецыяльнымі значкамі. Называецца карта «Становішча воблачнасці, ачагі навальніц, ападкаў на тэрыторыі Беларусі і прылягаючых раёнах на 9 гадзін раніцы 15 верасня 1970 года.

Каб толькі з гэтага можна было прагназіраваць надвор'е! Патрэбны дзесяткі і дзесяткі іншых паказчыкаў, вывучэнне, супастаўленне якіх можа даць больш-менш ясную карціну.

Чатыры разы ў суткі, у любое надвор'е, ці гэта свята, ці выхадны дзень, кожны раз у адзін і той жа час адсюль запускаюць радыёзонд. Гэта спецыяльны радыёперадатчык, прымацаваны да шара, напоўненага газам. Паднімаецца на вышыню 27—40 кіламетраў. Паднімаючыся, бесперапынна перадае на зямлю тэмпературу, вільготнасць, ціск, кірунак і хуткасць ветру. Усе гэтыя паказчыкі фіксіруюцца на зямлі і тут жа апрацоўваюцца.

Гэта ў вышыні. Дырэктар Мінскай абсерваторыі Сцяпан Лук'янавіч Драгун пазнаёміў мяне з работай аддзела метэаралагічных назіранняў, дзе, менавіта, вывучаюць усе змены на паверхні зямлі. Тэмпература, туман, дождж, раса, сіла і напрамак ветру, адным словам усё, што ўваходзіць у паняцце — надвор'е, фіксіруецца прыборамі, якімі абсталявана спецыяльная пляцоўка на тэрыторыі абсерваторыі, і вынікі кожныя тры гадзіны перадаюцца ў бюро надвор'я. Я ўжо казаў, што на тэрыторыі рэспублікі 50 такіх станцый.

Я акуратна занатаваў у блакноце ўсе дадзеныя і павіншаваў ужо сябе з тым, што так хутка, з ходу, пранік у гэтую кухню, калі раптам у галаву закралася сумненне: сапраўды, усе гэтыя дадзеныя і звесткі даюць толькі карціну сённяшняга надвор'я. Але... Гэта ж тое, што было і без прыбораў вядома. Дождж, дык дождж, вецер, дык вецер... А заўтра, паслязаўтра што будзе? Я выказваю гэтыя сумненні Сцяпану Лук'янавічу, і ён, усміхнуўшыся, тлумачыць, што, вядома ж, заўтрашняе надвор'е «робіцца» не тут. Яго «цягнуць» за некалькі тысяч кіламетраў. Калі паток, маса паветра (а яно ўвесь час у руху) ідзе з захаду, дык бяруць яго характарыстыкі (з усімі зменамі, трансфармацыямі) за тысячу кіламетраў на захад ад Англіі, калі з усходу — за Уралам і г. д. У сваю чаргу недзе ў раёне Свярдлоўска «цягнуць» надвор'е з Беларусі...

Лёгка, вядома, сказаць — «цягнуць» надвор'е. Не баржа. Сотні розных вымярэнняў. А бывае, «цягнуць, цягнуць», скажам, цыклон, а ён і пасмяецца, раптам паверне не туды, або замарудзіць свой бег. Вось тады, прынамсі, і бывае, што прагназіруюць адно, а атрымліваецца другое...

Сцяпан Лук'янавіч вядзе мяне ў цокальны паверх новага будынка абсерваторыі. Тут — мозг гідраметцэнтра. Мозг — гэта дзве электронна-вылічальныя машыны «Мінск-22» і «Мінск-32». Старшы інжынер вылічальнага цэнтра Анатоль Барысавіч Сімаnoўскі тлумачыць, што тысячы і тысячы паказчыкаў, якія паступаюць у гідраметцэнтр з усіх куткоў Беларусі, з гідраметстанцый, размешчаных па ўсёй краіне і за мяжой, закладваюцца ў машыну і праз дзве гадзіны яна выдае гатовую прадукцыю. Якая працаздольнасць ЭВМ? Вось гэтая — «Мінск-22» — за дзве гадзіны робіць да 30 мільёнаў вылічэнняў. ЭВМ выконвае не толькі бягучую работу. Механічная памяць машыны трымае сотні і тысячы розных звестак. Скажам, яна вам выдасць даведку, якое надвор'е было 3 лістапада 1951 года ў 9 гадзін раніцы. Яна ж выводзіць сярэднюю тэмпературу, вільготнасць па днях, месяцах, гадах. І яшчэ дзесяткі і дзесяткі розных паказчыкаў, без якіх не можа існаваць метэаралогія.

Тут, мабыць, наспела падкрэсліць адну акалічнасць — кожны, з кім давялося мне тут гутарыць, з гонарам паведамляў, што гідраметслужба рэспублікі пераходзіць на рэйкі поўнай аўтаматызацыі. Спачатку я не надаў гэтаму вялікай увагі — дзе ў наш час няма аўтаматыкі? — але аказалася, што аўтаматыка ў гідраметэаралогіі справа зусім новая і што Беларускі гідраметцэнтр у гэтым сэнсе унікальны. Такіх больш няма ў краіне, нават у Еўропе.

У двух словах, што дае аўтаматызацыя. Раней паказанні ўсіх прыбораў, якія сочаць за надвор'ем, здымаліся ўручную. Дадзеныя разносіліся па графах спецыяльных журналаў, падбіваліся, аналізаваліся і пасля перадаваліся ў цэнтр, дзе зноў іх падагульнялі, параўноўвалі з іншымі і г. д.

Цяпер на большасці станцый (а хутка будзе так на ўсіх) гэтую работу выконваюць аўтаматы, яны ж усе дадзеныя шыфруюць, пераводзяць на перфакарту і ў выглядзе тэлеграм перадаюць у вылічальны цэнтр, дзе ЭВМ іх апрацоўвае...

Калі пісаліся гэтыя радкі, радыё перадало, што заўтра чакаецца цёплы, сонечны дзень. Значыць, можна плашчы пакінуць дома.

М. ЗАМСКІ.

Валянцін ТАРАС

*Лірычны рэпартаж*

# НА СТРЫЖНІ НЁМАНА


Мал. А. САПЕТКІ.

Я ПРАЧНУЎСЯ таму, што ў сне адчуў на сабе нейчы позірк. Расплюшчыў вочы і на нейкі моман нават спалохаўся — крысо палаткі было адхінута, нехта, прыгнуўшыся, прасунуў у палатку галаву, у цемры было не пазнаць, хто. Прачнуўся і Алег, які спаў побач, прыўзняўся на паходнай раскладушцы, пачаў намацваць рукой бакавую кішэнь палаткі, дзе ляжаў ліхтарык.

— Хто гэта?..

— Гэта я... Валодзя,— ціха азваўся той, што зазірнуў у нашу палатку.—Прабачце, што пабудзіў...

— Здарылася што?

— Не, усё ў парадку. Але... паглядзіце, якая ноч!..

Мы з Алегам басанож, у адных трусах, вылезлі з палаткі, і адразу рукі і спіна пакрыліся «гусінай скурай», халодная раса агнём апякла ногі. Але мы застылі, як зачараваныя.

Над сасновым борам на левым беразе Нёмана стаяў поўны месяц, але святло яго было прыглушаным, нейкім крыху шызым, і нерухомыя высачэзныя сосны былі нібы ў зімовай смузе; раса ляжала на ягадніку, на лапках ялінак, на брызенце палаткі такая ж крыху шызая, з сінявасым адлівам, нібы першы іней; Нёман быў густачорны і ледзь блішчасты, як смала, і над ім плылі лёгкія хмаркі туману, недзе ля берагу таямніча плёхкала рыба. І гэтакае ж таямнічае, як глыбокі нёманскі вір, было неба, і буйныя жнівеньскія зоры ціха трымцелі ў ягонай бездані...

— Прабачце, што пабудзіў,— зноў нягучна сказаў Валодзя.—Але я не мог адзін, разумееце? Сэрца перапоўнілася...

Мы з Алегам вярнуліся ў палатку, накінулі на сябе курткі, сунулі ногі ў чаравікі і вярнуліся да Валодзі—сну не было ні ў адным воку. Такая ноч!..

Утрох падышлі да берагу. Там, як блішчастая вялізная рыбіна, ледзь пагойдвалася на вадзе наша маторка, а на самім беразе ляжалі дзве байдаркі — адна Валодзева, другая ягонага сябра Славы. З маладым ленінградскім вучонымхімікам Уладзімірам Рабатновым, з яго дачушкай Вікай, з ягонымі саслужыўцамі і спадарожнікамі ў байдарачным паходзе Славам Спелавым і Слававай жонкай Зінаідай Аляксееўнай, з іх сынам Алёшам мы пазнаёміліся некалькі дзён назад, калі стаялі лагерам каля невялічкай вёсачкі Латышы.

Цяпер яны спалі ў палатках — Слава, Зінаіда Аляксееўна і Алёша, белая, нібы лянок, сінявокая маленькая Віка. А вакол, з усіх чатырох бакоў, сцярог іх сон Нёман.

Я кажу вакол, таму што ноч гэтая была на вялікім востраве пасярод Нёмана, на паўдарозе паміж Мастамі і Гроднам. Пачыналася ж нашая дарога так:

— Трэба купіць з паўсотні гаплікоў,— сказаў Алег Сурскі, мастацтвазнаўца і мастак, журналіст і дызайнер, «фізік» і «лірык» адначасова.

— Гаплікоў?!

— Во-во. Тых, якімі порткі зашпільваюць.

— Навошта?

— Як навошта? Для лодкі. Ты што, думаеш, так табе тэнт будзе трымацца? Прасвідруем у стаяках дзірачкі і справе канец. Можна, праўда, зрабіць звычайную шнуроўку, але гэта нязручна. Лепш гаплікі. Зашчапіць—мінутная справа.

Ну, што ж, гаплікі дык гаплікі. Алегу відней, ён у нас і капітан, і боцман, і механік, і галоўны інжынер «суднаверфі». «Верф» гэтая ў двары ў Алега, і вось ужо трэці тыдзень запар мы завіхаемся каля свайго «карабля», рыхтуем яго ў далёкую дарогу.

КАРАБЕЛЬ — гэта дзюралевая лодка тыпу «казанка». На яе ўжо афармлен суднавы білет, у якім сказана, што я з'яўляюся яе ўладальнікам. Але гэта не зусім так, бо ўладальнікі лодкі мы ўсе, увесь яе экіпаж...

Лодка ўжо пахадзіла ў свой час — па Бярэзіне і па Нарачы, але ў першых сваіх паходах яна не мела ні тэнта ад дажджу, ні іншых прыладаў. Цяпер мы ўсё гэта прычындалле і робім, пад кіраўніцтвам Алега Сурскага, пілуем нажоўкамі дзюраль, вучымся ўпраўляцца з электрадрэллю, слясарыць, сталярыць, каваць... Алег на ўсе рукі майстар, а нам, мне і паэту Навуму Кісліку, цяжка — мы проста не разумеем палавіны таго, што робім па загадзе Алега. Ён скажа, каб прасвідравалі дзіркі ў нейкай жалезіне — свідруем, а што гэта за жалезіна і навошта яе свідраваць — не ведаем. Але памалу, пакрысе плён нашай працы выяўляецца.

Зроблены са старых раскладушак стаякі для тэнта, пашыты сам тэнт, па краях яго спераду і ззаду прышыты гаплікі, і яны сапраўды добра чапляюцца за дзірачкі ў стаяках, у бакавых адсеках лодкі драўляныя палічкі для рэчаў туалету, для розных банак, бутэлек і скрыначак, і ўсё гэта, каб не вывалілася, зачыняецца выстаўнымі дзверкамі, зроблены адкідныя дзверкі для двух вялікіх адсекаў, у якія мы будзем класці палаткі. У носе лодкі дзве скрынкі — вялікая і маленечкая, таксама высоўныя, прычым вялікая, калі яе высунеш, можа быць за стол. Усе драўляныя часткі абсталявання шчодра прааліфлены і пакрыты бліскучым польскім лакам. Блішчыць, зіхаціць на сонцы і сама лодка — яе пафарбавалі нітрафарбай.

На стэндзе вісіць рухавік нашага карабля — матор «Масква». Ён, праўда, старога выпуску, але яго адрэгулявалі на славу. Заводзіцца з паўабароту, толькі дым курыць. Мы яшчэ не ведаем, што матор гэты — хітрая і каварная істота, што ён такі лагодны і паслухмяны толькі тут, на стэндзе, што ўсе свае выбрыкі ён хавае да пары да часу...

Можна адпраўляцца, але тут раптам захварэў наш капітан. Наступіў на іржавы цвік, нага распухла, прыйшлося рабіць уколы супраць слупняку. І рушылі мы ў дарогу без капітана — Навум Кіслік, яго брат геолаг Valяр'ян і я.

Рашылі ставіць лодку на ваду ў Бярозаўцы, там, дзе працуе славуты шклозавод «Нёман». Хацелі былі стаць на нёманскую ваду раней, у раёне Стоўбцаў, але нам сказалі, што там Нёман плыткі і ў многіх месцах перагароджаны лодачнымі мастамі, а цягаць лодку волакам немагчыма — у ёй разам з грузам кілаграмаў 250. Так што паехалі да Бярозаўкі, дзе і хацелі дачакацца нашага капітана.

Вёз лодку на прычэпе добры чалавек па імені Адам, вадзіцель «газіка», вёз і азіраўся—вельмі ўжо ненадзейны прычэп, іржавы, гума на колах патрэскалася да корду. Азіраліся і мы, і дышаль прычэпа ўгінаўся на нашых вачах. Угінаўся, угінаўся і недзе на двухсотым кіламетры — хрась!

Вылезлі, разгублена падышлі да дышля — пераламаўся напалам, як трэска. Але вось Адам павярнуў галаву направа ад дарогі і лыпнуў вачыма.

— Парадак!

Мы зірнулі ў той бок і ўбачылі шырокую браму, за брамай вялікі двор, у двары нейкія будыніны, з якіх даносіўся вясёлы звон кавальскага молата, шум электразваркі і людскія галасы. А над адной з будынін шыльда: «Дарожна-рамонтныя майстэрні»!..

Бярозаўка запомнілася шклозаводам, а шклозавод — фарбамі. Цяжка за адну кароценькую экскурсію зразумець вытворчы працэс, хоць нам даволі падрабязна расказвала пра яго мастак завода Сільва Раўдвеэ, якая была нашым гідам на заводзе, але ўражанне ад наведвання яго незабыўнае.

Чырвоныя, жоўтыя, ружовыя, зялёныя, аранжавыя шары на кончыках выдзімальных трубак, плаўныя рухі дзяўчат і маладых хлапцоў, якія завіхаюцца з гэтымі трубкамі, плаўныя і разам з тым імклівыя, рознакаляровыя дымкі, рубінавы жар астываючага шкла збаноў, цёплы ізумруд вазы для кветак, залацістыя пялёсткі фужэраў — жывое мастацкае палатно.

Тут, у цэхах, дзівосна спалучаюцца магутныя рэмбрантаўскія фарбы з паўтонамі васільеўскай і левітанаўскай палітры, мімалётна-празрыстая сезанаўская трапятлівасць колеру з сакавітай чырванню архіпаўскага мазка. І ў мазаіцы гэтых фарбаў, колераў, адценняў свецяцца людскія твары, і ўспыхваюць дзявочыя вочы — так і бачыш гэтыя цэхі ўвасобленымі ў жывапісе, так і просіцца ўсё гэта на палатно мастака. І дзіўна, што такога палатна дагэтуль чамусьці няма.

У невялічкай майстэрні мастакоў завода — узоры вырабаў «Нёмана». Імітацыя старадаўняга шкла, венецыянскага, багемскага. Цудоўныя вазы, прыборы для віна, штофы, цяжкія літыя чаркі, шкло з пячаткамі, фігурныя кампазіцыі... Ва ўсім гэтым немалая доля натхнення, густу, умельства і нашага гіда, мастака Сільвы Раўдвеэ, эстонскай жанчыны, якая звязала свой лёс з Бярозаўкай, са шклозаводам «Нёман», з берагам бацькі-Нёмана.

НАЗАЎТРА мы першы раз выводзім на ягоны стрыжань сваю маторку. Выводзім, вяслуем памаленьку, з надзеяй і апаскай глядзім, як Валяр'ян корпаецца ля матора. Вось ён нарэшце тузануў за шнур, і матор завёўся. Завёўся з паўабароту, але... на адным цыліндры. Чаму не працуе другі, нам не ўцяміць да прыезду Алега...

Ён прыйшоў на стаянку нагружаны рукзакамі, як вярблюд, і злосны. Злосны таму, што мы, ад'язджаючы, не ўзялі амаль усе яго рэчы, прычым самыя цяжкія. Але капітан наш хоць і злосны, затое, бачым, здаровы, поўны энергіі і прагне падарожжа. З усёй гэтай сваёй энергіяй ён узяўся за матор, і хутка высветліў, што цыліндр не працуе таму, што ў адной свячы няма іскры.

Памянялі свячу і неўзабаве матор роў на ўсе два цыліндры, і лодка лётала па рацэ, нібы на падводных крылах. А капітан задаволена ўсміхаўся. Бедалага, ён не ведаў, што матор толькі ледзь-ледзь паказаў нам свой нораў...

Але перш, чым матор зноў сапсаваўся, сапсавалася надвор'е — пасля трох цудоўных гарачых дзён прыйшла навальніца. Яна насоўвалася павольна, глуха пагрымлівала недзе ўдалечыні, доўга абыходзіла той бераг ля Бярозаўкі, дзе мы стаялі лагерам, і мы думалі, што гэта, як кажуць метэаролагі, «навальніца мясцовага значэння», што ўвогуле надвор'я яна не зменіць, і спакойна варылі сабе нашу першую нёманскую юшку.

Юшку мы елі дзякуючы таму шанцаванню, якое бывае толькі ў навічкоў: Валяр'ян першы раз у жыцці закінуў спінінг і амаль адразу вывалак шчупачка. Закінуў яшчэ раз, і выцягнуў здаравеннага акуня. А жамяры для навару налавілі нашы новыя сябрукі, бярозаўскія хлопчыкі Лёнік і Саша, якія ўсе гэтыя тры дні, што мы стаялі ля Бярозаўкі, амаль не адыходзілі ад нас і нашай лодкі.

Першы наступ навальніцы захлынуўся хутка — яна пагрымела, лінула, уздыбіла на Нёмане хвалі і пайшла некуды, пакінуўшы пасля сябе марудны дождж. Мы адправілі хлапчукоў дадому, аддаўшы ім свае пласцікавыя скацеркі ўкрыцца ад дажджу, з наказам, каб заўтра прынеслі, і пайшлі спаць. А ўначы разыгралася сапраўдная навальніца.

Я люблю навальніцу і не баюся ні маланкі, ні перуноў, весела і дзёрзка робіцца на душы, калі вакол бліскае, грыміць і хлешча лівень, а тут зрабілася крыху жудаснавата. Я спаў у лодцы, і вецер ноччу пачаў яе гойдаць і выць на розныя галасы. Ён выў нібы ў тысячы комінаў, і я ніяк не мог зразумець, чаму ён так вые, дзе, у якіх шчылінах, пакуль не здагадаўся, што ён вые ў дзірачках, якія мы прасвідравалі на стаяках для тэнта. Стаякі ўнутры пустыя, яны з алюмініевых трубак, і вецер жудасна, танкліва выў, праціскаючыся ў трубкі. Аднак хоць я і зразумеў, у чым справа, бадзёрасці не прыбавілася, і першы раз у жыцці я баяўся навальніцы і ледзь стрымліваў сябе, каб не ўцячы ў палатку да хлопцаў. Маланкі сляпілі нават праз тэнт, вада плёхкала ў борт лодкі, ад удараў перуноў дзюраль корпуса тоненька звінеў, і з глухім няспынным шоргатам ліўся на тэнт дождж.

Гэты шоргат ліўня мяне нарэшце і прыспаў, а раніцой разбудзіў — больш ціхі і манатонны, што адразу было ясна — гэты дождж надоўга. Навальніца рэзка памяняла надвор'е... На цэлы тыдзень...

У лагер прыбег з Бярозаўкі адзін Лёнік, прынёс нашы пласцікавыя скацеркі і гасцінца: пачку цыгарэт «Памір», некалькі яблыкаў і кулёчак цукерак.

— Гэта вам на дарогу ад мяне і ад Сашы...

Калі мы дажджом адплывалі з Бярозаўкі, Лёнік доўга стаяў на беразе, дапальваў наш касцёр, размахваў, як факелам, палаючай галавешкай. Падумалася, што вось застаецца тут яшчэ адна родная душа, цікаўны басаногі хлопчык з разумнымі і шчырымі шэрымі вачанятамі, і што не чужая нам цяпер Бярозаўка, не проста кружочак на карце, а жывы агеньчык лёнікавага факела, сонечны сіні шар на кончыку трубкі шкловыдзімальшчыка, стрыманая прыгожая ўсмешка Сільвы Раўдвеэ...

МАТОР наш да самых Латышоў круціў спраўна, а потым пачалося! І пачалося пасля таго, як мы селі на мель. Дзіўна яшчэ, што мы не селі на яе раней — фарватэр на Нёмане вузкі, блытаны, хадавых знакаў да самых Мастоў няма, бо цяпер у гэтых месцах, да Мастоў, Нёман не суднаходны.



Новыя вешкі ніхто не ставіць, а старыя дзе тырчаць, дзе затанулі, а косаў, закоскаў, розных заманіх, яроў — безліч. Адна такая ці то заманіха, ці то схаваная пад вадой закоска, ці то проста самая звычайная намытая вадой пясчаная мель падсцерагла і нас — вінт залупцаваў па дне, і матор заглух.

Праўда, калі адвеславалі на стрыжань, завёўся, але паводзіць сябе стаў дзіўна: перш чым пераключыць яго на пярэдні ход, трэба было абавязкова праплысці нейкі час заднім, інакш пераключэнне не адбывалася. А потым ён зусім страціў ход, працаваў толькі на халастым, да таго ж зноў на адным цыліндры...

Так-сяк, з грахом папалам, прычалілі да берагу. Зноў імжэў дождж, настрой быў сапсаваны, але ненадоўга — там, на нёманскіх берагах, такая прыгажосць, што любы дрэнны настрой непрыкметна для цябе самога сплывае, як мімалётная хмарка.

Высокі бераг у высачэзных соснах, паляны, поўныя брусніц, каня крычыць недзе над вадой. Вяртаецца да хаты пара буслоў, стомлена махаюць крыламі, шэрая чапля пералятае праз раку, садзіцца каля затокі, самотна стаіць на адной назе, хавае дзюбу пад паху. На зялёным выгане пасвяцца, пазвоньваюць падвязанымі на шыі званочкамі коні, бязгучна перасякае раку даўбёнка, даўгая драўля-

ная лодачка, «чайка», як называюць яе мясцовыя людзі,—нехта перапраўляецца з таго берагу ў Латышы.

У Латышах двароў чатырнаццаць. Чатырнаццаць дабротных хат, амаль на кожнай тэлевізійная антэна,— і ў гэтую далёкую вёсачку, якая ўваходзіць у саўгас «Парэчча», прыйшла электрычнасць, а разам з ёй і тэлебачанне, радыёпрыёмнікі і радыёлы.

Людзі жывуць заможна, у хатах гарадская мэбля, дзяўчаты, хлопцы і дзеці, людзі сярэдняга ўзросту апрануты не горш за гарадскіх, толькі дзяды і бабулі носяць звычнае адзенне — бабулі доўгія спадніцы і хусткі, а дзяды картовыя порткі і скамячаныя брылі. Але тэлевізар дзяды і бабулі глядзяць вечар у вечар, як дзеці...

Тэлевізійныя антэны на хатах, яркія агні ў вокнах, матацыклы—«Явы», «Іжы», «ЧЗ», мапеды ля ганкаў... І разам з гэтымі прыкметамі сучаснай цывілізацыі, вёсачка гэтая захоўвае ў сабе даўнія, мілыя сэрцу традыцыі—прастату і шчырасць людзей, гасціннасць, адкрытасць, наіўную мудрасць.

Я даўно ўжо не бываў у ціхіх вёсках, дзе людзі, ідучы ў поле, не зачыняюць на замок дзверы, так, уваткнуць у прабой якую трэску, і годзе!.. І даўно ўжо не чуў я такой прыгожай народнай мовы. Не літаратурнай, якую можна паслухаць у рэдакцыях нашых часопісаў, а самой што ні ёсць жывой.

Мы паставілі палаткі, і я пайшоў у вёску купіць малака і яек. Зайшоў у двор першай хаты — нікога. Толькі куры і індыкі абселі ганак, ды калматы цюцька вылез з будкі, паглядзеў, нязлосна гаўкнуў на мяне адзін раз і лёг, высалапіўшы ружовы язык.

Зайшоў у сенцы, пастукаў — цішыня. Адчыніў дзверы ў хату. Чысты прыбраны пакой, пасярэдзіне стол, накрыты залацістым плюшавым абрусам, на стале кветкі ў пукатай зялёнай вазе, паліраваныя крэслы ўздоўж сцен, на спінцы аднаго з крэслаў вісіць «балоння». І толькі ходзікі на адной сцяне, справа, над дзвярыма ў другі пакой, старэнькія-старэнькія, ледзь не дарэвалюцыйныя, з блакітным цыферблатам, з белымі рамонкамі на блакіце, парушаюць цішыню.

Пастаяў і пайшоў. Але так было і ў другой хаце, і ў трэцяй — чыста, прыгожа і пуста. Гаспадары, відаць, былі на рабоце. Толькі ў пятай, здаецца, на маё «Ці ёсць хто?» азваліся: «Ёсць, ёсць, заходзьце!»

— Мне б малачка і яек з дзесятак...

— Глянь, дачушка, у кадушку, яйкі павінны быць. Толькі ў чым вы іх панясяцё? У вас, бачу, ніякага посуду. Ці моў у кішэнях?

— А ў мяне во што, спецыяльна для яек,— і я паказаў гаспадыні пластмасавую скрыначку з круглымі ячэйкамі.— Кантэйнер.

Дзядок, што сядзеў на табурэтцы, хмыкнуў:

— Во прыдумалі!

Ён быў крыху сярдзіты, гэты дзядок, і адразу пачаў гаварыць пра тое, што вось яшчэ пасля вайны парадзелі ля Нёмана лясы і таму на Нёмане мелі, што паменшала рыбы, што ніхто не сочыць за ракой, нават вешкі не ставяць, што плаваюць па Нёмане розныя турысты, захапляюцца, а каб сказаць дзе якому начальству, што рэчку трэба даглядаць, дык таго няма, што да парома далёка, а на «чайках» як перапраўляюцца хлапцы, ды яшчэ чарку ўзяўшы, дык глядзі, каб не патапіліся.

Калі я заўважыў, што не бачыў, плывучы ўздоўж берагоў, каб і цяпер секлі над Нёманам лясы, дзядок гэтак жа сярдзіта сказаў:

— А што яны, дурні, секчы тое, на чым сядзяць?

Аднак хоць і сярдзіты быў гэты дзядок, а за дзесятак яек, два літры малака і круг сыру ўзяў з мяне адзін рубель. Не сам узяў, праўда, а гаспадыні сказаў:

— Няхай во рубель дасць дзецям на цукеркі, і кончыкі. Мы не на базары.

ДРУГІ такі сярдзіты дзядок сустрэўся крыху пазней, калі мы, адплыўшы ад Латышоў, зноў вымушаны былі прыстаць да берагу, бо матор не заводзіўся. Раскажу пра гэтага дзядка, забягаючы наперад, таму што нечым ён быў падобны на першага, манерамі і асабліва гаворкай.

Дзядок гэты шукаў па берагах вясло і, убачыўшы нас, уваткнуўшых насы ў матор, загаварыў так, нібы працягваў даўнюю размову:

— Мне гэтае вясло каштавала рублёў дзесяць, халера ім у бок! Дошку во ясеневую здабыў за паўлітэрка дзяржаўнай, а яшчэ гэтаму даў, каб зрабіў. Ясеневае, яно вясло, а не што якое. Ліпнёвае, зараза, ваду бярэ. Так бярэ, што як якая булава робіцца, хоць ты вала ім забі!.. А ясеневае ваду не бярэ. Вядома, ясень! Гэта я, скажу табе, дрэва! Дык пагнаў іх нячысцік праз Нёман перапраўляцца, ноччу! Не вар'яты, га? А я, дурань стары, ясеневае вясло ім аддаў. Згубілі і вясло, і «чайку» ўпусцілі, і самі ледзь не патапіліся. Аднаго дык сеткай выцягнулі, а каб не сетка, дык утапіўся б дальбог! А цяпер ён мне грошы дае. А каб цябе чэрці, нягоднік! Ты мне вясло аддай, ясеневае. Што мне твае грошы? Дзе я дошку ясеневую прыдбаю, га? Пра гэта ты падумаў? З ліпы рабіць, ха! Ліпа ваду бярэ, а ясень — ён сухенькі, лёгенькі. Конаўку ўнь прыбіла да берагу, ды што мне тая конаўка, яе і з ліпы можна зрабіць, а вясло з ліпы — дрэнь. Ліпа, братка, ваду бярэ.

Мы слухалі дзеда з асалодай, забыўшыся пра свае клопаты з маторам, бо гэта была музыка мовы,— не хапае ўмельства перадаць усе яе адценні, інтанацыі, яе дзівосны лад. Яна была гэткай жа натуральнай, як шырокі нёманскі плёс, круты яр над берагам і стрыжы над вадой, яна цякла, як Нёман у сваіх берагах, яна была з'явай гэтай прыроды, гэтага краю...

Яшчэ не раз слухаў я на Нёмане музыку-мову, і дзядоў слухаў, і жанок, і дзяцей, і гэта адно з найлепшых уражанняў ад нашага падарожжа, для мяне ва ўсякім выпадку, і хоць сам я вершы пісаў на рускай і прозу цяпер пішу на рускай, жывая мова наднёманскіх людзей, чыстая беларуская мова, жывіла душу. І думаецца, што калі ўдаецца мне няблага перакласці беларускі верш, дык толькі таму, што мова, з якой я перакладаю, такая ж родная для мяне, як і руская, і праца мая над перакладамі—прызнанне ў любві да мовы беларускай. Радасна ўсведамляць, што яна — жыве!..

МЫ СТАЯЛІ ў Латышах некалькі дзён (як ужо было сказана, сустрэча з дзедам, які шукаў вясло, адбылася пазней), корпаліся з маторам. Праўда, корпаліся ў ім Алег і Валяр'ян, а мы з Навумам толькі перажывалі.

Імжэў і імжэў дождж, і таму карцела хутчэй адплысці. Здавалася, што на маторы мы можам перагнаць непагоду, пакінуць яе за сабой, што недзе наперадзе— блакіт і сонца. Аднак ва ўсім ёсць свой неблагі бок: адплыві мы з Латышоў крыху раней, не адбылося б нашае знаёмства з ленінградцамі.

Вечарэла, дыміў касцёр, нізкія хмары ўсё плылі і плылі над лесам, збіваліся на захадзе ў табун, каб зноў вярнуцца дожджом. І раптам знізу, з ракі, пачуўся звонкі жаночы голас: «Можно причалить к вашей стоянке?»

Мы паўставалі ад кастра, глянулі на раку — да берагу падплывалі дзве байдаркі, лёгкія металічныя вёслы паблісквалі над вадой, стрыглі яе, нібы крылы чаек. У першай байдарцы наперадзе сядзеў мужчына ў ракане з капюшонам, пасярэдзіне кірпаты, канапаты хлопчык, таксама апрануты ў ракан з капюшонам, ззаду — жанчына. На другой байдарцы было двое—зусім малады хлапец і дзяўчынка гадоў васьмі.

Ленінградцы да Латышоў прайшлі вялікі маршрут: прыехаўшы ў Мінск поездам, яны аўтобусам дабраліся да Ракава, там паставілі байдаркі на ваду рэчкі Іслач, па Іслачы праз усю Налібоцкую пушчу прайшлі да Бярэзіны, не да той, што цячэ праз Барысаў, а да другой, малой Бярэзіны, якая ўпадае ў Нёман, і цяпер ішлі па Нёмане ад самых вярхоўяў. Канчатковая мэта іх падарожжаў была тая, што і ў нас — Гродна.

Не паспелі бацькі паставіць палаткі, як маленькая Віка ўжо вудзіла рыбу, а кірпаты Алёша закідваў спінінг. Алёшу не шанцавала, а Віка за якіх паўгадзіны налавіла цэлы бідончык келбаў. Упраўлялася яна з вудачкай, як бывалы рыбак, сур'ёзна паплёўвала на насадку, хітра прыжмурыўшы сіняе вочка, паглядала на паплавок. Гэтак жа хітра і міла прыжмурыўшы вока, яна пазней расказвала нам, як яны плылі па Іслачы і па Бярэзіне, хораша і надзвычай цікава расказвала пра кніжкі, якія прачытала, а кніжкі яна прачытала хоць і дзіцячыя, але па-сапраўднаму разумныя, мудрыя і паэтычныя, напрыклад, чыюсьці казку аб прыгодах капітана Круля, пра тое, як у адным горадзе аб'явілася чучала і захапіла ўладу, усталявала такія парадкі, па якіх дзеці павінны былі здаваць экзамены на маленькіх дарослых, а іх любімыя цацкі ўсе былі механізаваны, і справа даходзіла да агульнай механізацыі і саміх дзяцей, але адзін хлопчык паказаў усяму гораду, што дыктатар, які ўсяго гэтага дамагаўся, не чалавек, а чучала, набітае саломай.

— Все увидели, что это просто чучело,— сказала Віка,—и перестали ему поклоняться, и игрушки снова стали игрушками, а дети детьми, а не механизмами. И жизнь стала совсем-совсем хорошая, ну, нормальная, как этот лес, и птицы, и река...

І з такой любоўю, з такім захапленнем яна паглядзела вакол сваімі сінімі шчаслівымі вачанятамі, што і мы неяк па-новаму, нібы яе здзіўленым позіркам, убачылі і зеленавата-карычневы Нёман, і старую калматую сасну над абрывам, і павольны палёт бусла, увесь гэты нёманскі далягляд.

— Мне очень нравится Белоруссия,— сказала Віка, і аж уздыхнула ад паўнаты пачуцця.

Палюбілася Беларусь і Алёшу, і ўсім дарослым, а для Славы Спелава яна даўно ўжо не чужая — у гады вайны ён — хлопчыкам — знайшоў прытулак у Беларусі, жыў спачатку ў Жалудоцкім раёне, а пазней у Шчучынскім, праз Беларусь прайшоў вызваленчым паходам яго бацька, тут, каля Шчучына, ён сустрэўся з сынам...

Слава аказаўся спецыялістам па рэактыўных рухавіках, і мы спачатку ўзрадаваліся, што ён дапаможа нам даць рады матору, але высветлілася, што ў звычайных рухавіках, асабліва ў лодачных, ён разумее столькі ж, колькі мы. Нічога не разумеў у маторах і бацька Вікі кандыдат навук Уладзімір Рабатноў — яго спецыяльнасць хімія.

Прыйшлося нам самім разбірацца ў маторы, а наладзіць яго было цяпер справай гонару — ленінградцы папрасілі ўзяць іх на буксір. Яны прытаміліся за такую доўгую дарогу, да таго ж у іх канчаўся адпачынак, трэба было хутчэй дабірацца да Гродна.

АЛЕ... паплылі з Латышоў ленінградцы, а мы ўсё корпаліся і корпаліся, цешачы сябе тым, што дагонім. Але дагналі мы іх толькі пасля Мастоў, да якіх так-сяк дапаўзлі на адным цыліндры. У Мастах жа нам трапіўся добры хлапчына, работнік дзіцячай спартыўнай школы Мікола Патаніч, які хутка высветліў, што адзін цыліндр не працуе таму, што прабіла шпульку трансфарматара, паставіў нам новую шпульку, і мы, заначаваўшы ў Мастах, поўным ходам кінуліся даганяць ленінградцаў,— трэба было ўсё ж такі стрымаць сваё абяцанне, узяць байдаркі на буксір.

Мы такі дагналі іх, яшчэ здалёк убачылі, як пабліскваюць вёслы, і яшчэ паддалі газу, каб падысці да байдарак з шыкам. Падышлі, развярнуліся, ленінградцы, узняўшы над галавой вёслы, тройчы пракрычалі «ўра», і ў гэты самы момант матор чхнуў і заглух!.. Заглух намёртва, і нават не ўсхліпваў, калі яго шалёна тузалі за шнур . Нарэшце Алег Сурскі стукнуў яго кулаком, як жывую істоту па патыліцы, і сказаў яму, што ён злыдзень, пачвара, бандыт, лысы чорт, гад печаны, што ён утопіць яго ў Нёмане, каб і следу не засталося!..

І на буксір узялі нас!.. Славава байдарка падышла да правага борта, Валодзева да левага, і дзіўны імправізаваны катамаран, дакладней, трымаран рушыў далей.

Сказаць праўду, мы не шкадавалі, што так адбылося — гэта быў цудоўны павольны дрэйф пасярэдзіне Нёмана, які пасля Мастоў усё дужэў і дужэў, станавіўся шырэйшым, раздольным, ды яшчэ і сонца выглянула, разагнала хмары, і ветрык доўга быў папутны, лагодны.

Так мы падышлі да таго вострава, на якім прайшоў астатак дня і вечар, і яшчэ адзін дзень, шчаслівы на рыбу—лешч, вялізная краснапёрка, тры здаравенныя шчупакі, і адзін з іх — Алёшаў, першы шчупак у яго жыцці! І была юшка, і сціплая чарка, і песня, і добрая шчырая размова пра жыццё, пра літаратуру — хімікі нашы добра ведаюць яе, многа чытаюць. Чыталі яны і тое лепшае, што належыць беларускай літаратуры...

Матор ладзілі яшчэ з вечара, пры святле электрычных ліхтарыкаў, і датумкалі-такі, што ў яго разрэгулявалася запальванне, што няма апераджэння іскры. Зрабілі гэтае клятае апераджэнне па ўсіх правілах, дакладна вызначылі зазор пры дапамозе брытвеннага ляза, завялі — працуе, як гадзіннік. Аднак ён сапраўды быў каварнай і хітрай істотай, гэты матор!.. Калі мы падышлі да яго раніцай, дык ледзь не самлелі—у яго сам сабою ноччу лопнуў бензаадстойнік, разваліўся на дзве палавінкі. Нават вялікі вынаходца Алег, і той разгубіўся. Праўда, толькі на момант. Праз мінуту ён загадаў нам адшукаць і прынесці ўсе слоікі, якія толькі ёсць у аптэчцы, і пачаў адзін за адным прымяраць да таго месца, дзе знаходзіцца бензаадстойнік — ці падыходзіць дыяметр?

Бензаадстойнік зрабілі са слоіка, у якім была стрaптацытавая мазь... Зрабілі для яго новую «трымалку», сяргу з дроту... Завялі матор... Працуе, як міленькі!

З тае хвіліны, калі на яго паставілі самаробны бензаадстойнік, ён скарыўся канчаткова, не дазваляў сабе больш ніякіх выбрыкаў, і з байдаркамі на буксіры мы ўбачылі неўзабаве з борта сваёй лодкі высокі шпіль фарнага касцёла, што стаіць у Гродна ля берагоў Нёмана...

— Ну і што? — сказаў мне адзін мой мінскі знаёмы.—Ну, з'ездзілі, праплылі па Нёмане, памучыліся з маторам, памоклі, памерзлі,— якая з гэтага карысць?

Я не ведаю, якая з гэтага карысць. Не ведаю, якая карысць з высокіх нёманскіх берагоў, з тых старадаўніх соснаў, з гэтых шэрых чапляў, што стаяць у затоках, з гэтых буслоў, што ляцяць дадому на змярканні, і з гэтага шырачэзнага плёсу, з павольнага вечнага руху магутнай вады ў тым месцы, дзе ў Нёман упадае Шчара. Я ведаю толькі, што яшчэ не раз паплыву зноў—ці то па тым жа Нёмане, ці то па Дзвіне, ці то па Сожы, ці то па Дняпры, і буду глядзець, як узыходзіць сонца над борам, як мігцяць агеньчыкі вёсак, як дзікая качка пасе на вадзе сваю дзятву, і буду слухаць, як плёхкае рыба, як крычыць каня, і як хораша гавораць тутэйшыя людзі. Бо яшчэ я люблю жыццё за тое, што можна падарожнічаць і знаёміцца з рознымі харошымі людзьмі, з такімі, як дзядок з Латышоў, як Сільва Раўдвеэ, як Слава і Валодзя, Зінаіда Аляксееўна і кірпаты Алёша, як маленькая Віка, бялявы, што лянок, сінявокі слаўны чалавечак.

Вось і ўся карысць!

Нёман — Мінск, жнівень.

## Яўгеній ЕЎТУШЭНКА Ў МІНСКУ







Па запрашэнні рэдакцыі часопіса «Нёман» у Мінск прыехаў паэт Яўгеній Еўтушэнка. 14 верасня ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся літаратурны вечар паэта. Здымкі нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука зроблены на гэтым вечары.

На блакітным экране

# ЗІМОЮ І Ў ЧАС ЛЕТНІХ АДПАЧЫНКАЎ

На Віцебскай студыі тэлебачання, калі я прыехаў, адсутнічала каля трыццаці чалавек — палавіна творчага складу. «Час летніх адпачынкаў» — пра гэта мне сказалі адразу. У парадку інфармацыі. Не больш.

Першае знаёмства са студыяй адбылося ў мяне амаль чатыры гады назад. Тады ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'явіўся артыкул «З чаго ў Віцебску пачынаецца тэлебачанне». Памятаю, гаворка ішла пра тое, што перашкаджаюць іншы раз студыі дробязі — то паперы няма, то фарбаў. Былі і большыя праблемы — марудна будаваліся новыя памяшканні, не было ў штаце пасад галоўнага рэжысёра і галоўнага рэдактара. Тэлебачанне пачыналася з клопатаў у асноўным гаспадарчых і арганізацыйных.

Жыццё ідзе. Тыя праблемы ўжо вырашаны. Але, натуральна, прыходзяць новыя...

У першы дзень я паглядзеў тэлевізійныя навіны. На прадпрыемствах працягваецца працоўная вахта юбілейнага года, спее на палях ураджай, працуюць студэнцкія будаўнічыя атрады, выпускнікі ВНУ атрымалі дыпломы і накіраванні, паехаў на гастролі самадзейны ансамбль танца, ідуць спартыўныя спаборніцтвы...

Тэлевізійныя навіны «пішуць» яркі летапіс Віцебшчыны. Асноўны прынцып — аператыўнасць. Бываюць спецвыпускі, калі гледачам паказваюць сюжэты аб падзеях, што адбыліся дзве гадзіны назад. Штотыднёвая панарама «Дзень за днём» выходзіць па панядзелках, многія сюжэты здымаюцца ў суботу і нядзелю.

Зрэшты, аператыўнасць характэрная не толькі для рэдакцыі навін. Цікава папрацавала маладзёжная рэдакцыя ў гэта лета для выпускнікоў школ. Пачалі з анкет. Адказвалі дзесяцікласнікі. Пытанне адно — аб будучай прафесіі, адказаў — мноства. Выбралі самыя цікавыя і зрабілі перадачу «Бывай, школьны глобус». У ёй удзельнічалі следчы і рабочы, лётчык і лесавод. А праз паўгода збярэцца ў студыі моладзь, якая адказвала на анкету аб прафесіях. Зноў будзе працяг размовы аб прызванні...

...Усім вядома, што ў Віцебску быў разбураны унікальны помнік старажытнасці — Благавешчанская царква (пра гэта пісалі рэспубліканскія і цэнтральныя газеты). Насупраць тэатра засталіся руіны. Мінуў год-другі, іх не прыбралі, і папаўзлі па горадзе чуткі... У вялікай перадачы, прысвечанай гісторыі помніка рускага дойлідства, прынялі ўдзел мастакі, архітэктары, гаспадарчыя кіраўнікі. Віцебшчына яшчэ раз пачула кваліфікаваны расказ аб значэнні Благавешчанкі ў гісторыі краю, даведалася, што помнік будзе адноўлены, пазнаёмілася з праектам рэканструкцыі.

Шмат зрабілі тэлежурналісты для захавання рэпінскіх месц у Здраўневе, дзе мастак шмат жыў і працаваў.

Рэдакцыю літаратурна-драматычных і музычных перадач на Віцебскай студыі ўзначальвае паэт Д. Сімановіч. Чалавек ён цікавы, творчы. У сцэнарыях—глыбіня думкі, добрая літаратура... Сярод перадач літаратурна-драматычнай рэдакцыі больш ста нумароў літаратурнага альманаха «Дзвіна», кожны з якіх у апошні час прысвячаецца аднаму з літаратараў вобласці, і цыкл «Як жывеш, сельскі клуб». Год у год ідуць перадачы цыклаў «Тут пачыналіся дарогі»: пра землякоў-пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў, кампазітараў (нядаўна, напрыклад, на студыю прыйшло пісьмо ад З. Азгура, у якім вядомы скульптар дзякуе за фільм аб яго творчасці), «Таленты Прыдзвінскага краю» — творчыя партрэты самадзейных драматычных, танцавальных, музычных і харавых калектываў вобласці.

Асаблівы клопат рэдакцыі — прапаганда кнігі. Было ўжо два пасяджэнні новага «Клуба кнігалюбаў», рэгулярна ідуць «Навінкі кніжных паліц».

Некалькі цікавых перадач прайшло напярэдадні Ленінскага юбілею. Цыкл гэты лагічна завяршыўся перадачай «За радкамі пісьма У. І. Леніну».

Лепшы барометр, які вызначае работу і папулярнасць рэдакцыі —пошта. Пісьмаў у літаратурна-драматычную прыходзіць шмат.

Вялікая пошта і ў «Малышкі» і «Гайдараўца» — тэлевізійных часопісаў для дзяцей. Іх робяць два дзіцячыя паэты — Л. Дайнека і М. Бабарыка. У іх перадачах шмат добрай паэзіі, выдумкі і фантазіі. Я пазнаёміўся са сцэнарыем Л. Дайнекі «Хто заменіць ляўшу» — перадача плануецца па Цэнтральным тэлебачанні. Цікавая работа.

Але тэлевізійная перадача — гэта не толькі сцэнарый, гэта і рэжысёрскае бачанне матэрыялу. Тэлевізійная перадача — гэта калектыўная праца. І вось тут, шчыра кажучы, узнікаюць некаторыя апасенні. Справа не толькі ў тым, што рэдактары ставяцца да рэжысёраў не як да сааўтараў і мастакоў, а як да тэхнічных выканаўцаў. Вінаваты і самі рэжысёры, якія прымаюць любыя сцэнарыі. Незацікаўленасць, інертнасць, лянота думкі і, як вынік — няўдалая перадача. Зблізіць, зрабіць рэдактараў і рэжысёраў сааўтарамі і аднадумцамі — гэтым заняты цяпер галоўны рэжысёр Л. Цвіка, галоўны рэдактар І. Коган і, вядома, аператар студыі Ю. Новікаў.

Усё, пра што я цяпер напісаў, не будзе, напэўна, нечаканым для студыі — пра гэта гаварылі і на вытворчых нарадах, і на лятучках.

Жыццё і яго адлюстраванне студыяй... У кожнай рэдакцыі ёсць у гэтых адносінах несумненныя заслугі, з якіх складаецца аўтарытэт студыі.

...Аднойчы нехта прыйшоў у магазін па бутэльку гарэлкі. І не змог купіць, бо яшчэ не было дзесяці гадзін раніцы. Яшчэ ўчора ён такую пакупку зрабіў бы вельмі проста, а сёння пачуў ад прадаўшчыцы:

— Вы, напэўна, не ўключалі ўчора тэлевізар...

Перадача «П'янству — рашучы бой» атрымала шырокі водгук у горадзе.

...Страшэнная фатаграфія — бульдозер ломіць яблыню. Гіне фруктовы сад. Перш чым пайсці ў эфір, некалькі такіх здымкаў пабывалі на сесіі гарсавета. Напэўна, дэпутаты чулі і ведалі, як неабдумана знішчаюцца сады ў раёне новабудоўляў. Цяпер яны ўбачылі дакументы і, вядома, не засталіся абыякавымі. У той жа дзень на студыю прыехаў старшыня гарвыканкома. Гутарку з ім слухалі тысячы жыхароў Віцебска і вобласці. І, вядома ж, былі прыняты захады па ахове садоў. Крытыка дапамагла.

Гэта — перадачы грамадска-палітычнай рэдакцыі. Цыклаў у ёй шмат. Ёсць і «Парады юрыста», і «Выратаванне тапельцаў», і «Турызм і адпачынак». Усё гэта патрэбна і важна. Толькі, як ніякую іншую, назва абавязвае гэтую рэдакцыю ставіць і адказваць і на больш сур'ёзныя пытанні.

Віцябляне ганарацца: студыя стала калектыўным карэспандэнцкім пунктам Цэнтральнага і Беларускага тэлебачання. Кожны выхад на Маскву ці Мінск — гэта свята.

Быў час, калі кінасюжэты, пасланыя ў Маскву, прападалі для студыі — у фільматэцы нічога не заставалася. Цяпер старшы кінааператар Л. Асмалоўскі сам зрабіў капіравальны станок. І сінхронная кінакамера з'явілася на студыі — таксама справа рук Л. Асмалоўскага.

Віцябляне засмучаюцца: няма пакуль перасоўнай тэлевізійнай станцыі, машыны стаяць на вуліцы — няма цёплага гаража, няма відэамагнітафона і фільмасховішча, патрэбен рэжысёр кінагрупы — дзе ўзяць?

Або вось здалі ў эксплуатацыю новую студыю, а падлога ў ёй няроўная— калі камера рухаецца, кадр скача. Няшчыльна зачыняюцца акустычныя дзверы, дрэнна працуе вентыляцыя. Усё гэта пералічана ў акце дзяржаўнай камісіі, тым не менш будаўнікі — трэст № 9— не спяшаюцца ліквідаваць недаробкі. Але ж рана ці позна — хацелася б, вядома, раней, — давядзецца ліквідаваць.

Магу адказаць на пытанне — з чаго ў Віцебску пачынаецца тэлебачанне?

З пошуку, які вядуць тэлежурналісты. Яны робяць «пастаянную справу публіцыстаў», як гаварыў У. І. Ленін, яны стараюцца так пісаць гісторыю, каб «бытапісанне прыносіла пасільную дапамогу ўдзельнікам руху і героям...»

На Віцебскім тэлебачанні ўмеюць гэта рабіць. І зімою, і ў цяжкую для студыі пару летніх адпачынкаў.

Д. РАДЗІНСКІ.

---

За акном дождж, халодны, дробны. Часам хмары распаўзаліся, трохі святлела, здавалася, вось-вось выгляне сонца, але вецер зноў наганяў хмар, зноў сеялася, нібы праз сіта, імжа. Стол настройшчыка Міхася Гайдукевіча якраз насупраць акна. І Міхась не-не ды і зірне на вуліцу. А звыклыя пальцы і спрактыкаваны слых тым часам рабілі сваю справу.

Раптам дзверы адчыніліся:

— Пятровіч, паглядзі гэты гармонік. А то во купіў чалавек і не задаволены, — начальнік цэха прапусціў наперад невысокага хударлявага хлопца з чорным бліскучым гармонікам.

— Што, не хоча граць? — усміхнуўся Гайдукевіч.

— Басы хрыпяць, нібы з прастуды. Ды і галасы не дужа звонкія... Не хочацца везці аж у Нарыльск такі інструмент.

Гайдукевіч прабег пальцамі па клавішах, прыслухаўся, яшчэ пайграў, зірнуў у пашпарт: хто настройваў, дзе набыты.

— Тут, браце, не толькі наша віна. Відаць, кепска магазін зберагаў яго. Планкі адышлі. Трэба было выбіраць...

— Сам ведаю. Але з чаго? Апошні гармонік забраў. Бацькі жывуць у Юрацішках. Аб'ездзіў усе навакольныя магазіны — няма. Паехаў аж у Ліду, а там апошні забраў, які ўсе збракавалі.

— Нічога. Шкадаваць не будзеце. Зараз ён зайграе, заспявае...

Гайдукевіч націснуў пад сталом на педалі, вялізны мех, падобны на кавальскі, уздыхнуў на поўныя грудзі. Настройшчык перабіраў гузікі і слу-



хаў. Потым узяў рукаятку з колцам, пстрыкнуў выключальнікам, нешта загудзела, колца імкліва закруцілася, сыпанулі іскаркі. Настройшчык асцярожна, далікатна падносіў колца да металу і тут жа паднімаў руку ўгору, быццам граў на цымбалах.

— Што гэта гудзе ў вас? — падаў голас асмялелы пакупнік. — Мне падобнай штуковінай зубы пілавалі. Бормашына называецца.

— А гэта і ёсць бормашына. Дужа зручная рэч. Верхнія язычкі даводзіць ёю любата. Мы першыя дадумаліся да гэтага... А ніжнія язычкі апрацоўваем квадратам. Ёсць такое шылца-шабер. Бярэ любую сталь. А язычкі — вось гэтыя сталёвыя пласцінкі. Танюсенькія, як папера. Яны і нараджаюць гук...

Мабыць, Гайдукевічу спадабалася цікаўнасць чалавека да яго работы, а мо, каб загладзіць віну фабрыкі за брак, ён памалу, нетаропка, падрабязна расказваў госцю, што і як робіцца.

— Калі трошкі зняць во тут, ад сярэдзіны язычка да заклёпкі — гук

---

*ГОСЦІ МІНСКА*



На сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі выступала папулярная малдаўская спявачка, дыпламантка міжнароднага конкурсу Марыя Кадрану. У рэпертуары артысткі эстрадныя песні савецкіх і зарубежных кампазітараў, народныя песні Малдавіі, якія выконваліся ў суправаджэнні інструментальнага аркестра.

---

БЕЛАРУСЬ АРХІТЭКТУРНАЯ

# «МІНІ-МОРА»

«Зайздросцім мінчанам добрай зайздрасцю», «Вязём самыя прыемныя ўражанні», «Шкада, што ў нас мала такіх збудаванняў». Гэтыя і падобныя запісы пакінулі турысты, спартсмены, зарубежныя дэлегацыі ў кнізе наведвальнікаў новага Палаца воднага спорту ў Мінску. Добрая трэць кнігі спісана па-польску, па-фінску, па-нямецку, ёсць у ёй старонкі, запоўненыя японскімі іерогліфамі, арабскай вяззю. Большасць людзей, якія зрабілі гэтыя запісы, не плавалі ў басейнах палаца, нават не былі гледачамі якіх-небудзь спаборніцтваў. Яны аглядалі Палац воднага спорту як архітэктурную выдатнасць, як унікальнае спартыўна-аздараўленчае збудаванне, роўнага якому па многіх паказчыках няма ў Еўропе...

Гадоў восем назад на стадыёне інстытута фізічнай культуры з'явіліся два адкрытыя басейны — пяцідзесяціметровы на восем дарожак і маленькі («лягушатнік») для тых, хто не ўмее плаваць, і для дзяцей. Дапаўняла іх скачковая ванна з дзесяціметровай вышкай. У басейнах трэніраваліся спартсмены, але ў асноўным яны выкарыстоўваліся для аматарскага плавання.

Падзея, што і казаць, была для мінчан радасная. Да таго неспартыўны, так сказаць, мінчанін усю зіму чакаў першага майскага грому, пасля якога, паводле прыкметы, можна лезці ў ваду. Цяпер жа плаваць круглы год маглі не толькі спартсмены і «маржы».

«Лягушатнік» абдымаў з трох бакоў просты аднапавярховы будынак з раздзявалкамі і душавымі, з якога купальшчыкі па двух затонах выплывалі ў вялікі басейн. Гады праз два-тры выявілася, што эксплуатацыйныя якасці будынка вельмі невысокія і што з ім трэба нешта рабіць— інакш пара знутры, а мароз звонку вельмі хутка яго разбураць.

Вось тут і нарадзілася ідэя стварэння комплексу басейнаў рознага прызначэння. За такое рашэнне гаварылі многія акалічнасці — блізкасць да гарадскога цэнтра і транспартных магістраляў, цеснае суседства з Батанічным садам, вялікая свабодная тэрыторыя, намечанае ў бліжэйшым будучым будаўніцтва на новым месцы спартыўнай базы інстытута фізічнай культуры. Адным словам, адкрыліся магчымасці для цікавай работы.

У «Белдзяржпраекце» архітэктар В. Ладыгіна і інжынер І. Зыбіцкер распрацавалі праект комплексу Палаца воднага спорту, які стаў паказальным сярод падобных спартыўных збудаванняў. Комплекс складаецца з трох крытых і трох адкрытых басейнаў з агульнай плошчай вады 5500 квадратных метраў. Тут штодзённа могуць займацца спортам і адпачываць 4000 чалавек. Будаўніцтва комплексу яшчэ не завершана. Няма масажнага і плёскальнага басейнаў, пляжных пляцовак, падземнага гардэроба. Аднак асноўныя аб'екты, якія вызначаюць архітэктурную задуму і прызначэнне комплексу, прыняты ад будаўнікоў і працуюць.

Для наведвальнікаў комплекс адкрываецца заднім фасадам будынка крытых басейнаў. Ён вы-

паніжаецца, а калі тут, бліжэй да канца, гук павышаецца. А сама планачка раней рабілася з латуні. Была яна жоўценькая, блішчала, як залатая. Вось таму і спявалі пра залатыя планкі. Зараз робім з алюмінія. Латунь дужа цяжкая...

Праз паўгадзіны гармонік быў гатовы. Паклікалі лепшага музыку цэха Віктара Бажко.

— На вось, перайграй,—падаў яму гармонік Гайдукевіч.

Віктар, высокі, тонкі малады хлопец, матнуў русым чубам, кінуў пальцы зверху ўніз і рэзнуў «Лявоніху». Ды так гучна і звонка, што ногі самі прасіліся ў скокі.

— Во, гэта голас, — задаволена па-

# МАЙСТАР

ціраў рукі пакупнік. — Толькі яшчэ адна закавыка. Каля меха павінны быць металічныя канцікі. Бачыце, на інструкцыі які гармонік, з белымі канцікамі. А тут чамусьці няма...

— Відаць, незавезлі метал. А канвеер не можа стаяць. Вось некалькі пайшло такіх. Тут я немагу памагчы...

— А ўрэшце, ліха з імі, з гэтымі канцікамі. Абы грала добра, — пакупнік развітаўся, закінуў гармонік за плечы і пайшоў.

А Гайдукевіч накіраваўся да начальніка цэха.

— Антон Іванавіч, проста сорам за гэты гармонік. Зроблена па прынцыпе цяп-ляп. Абы з рук. Планкі паадклейваліся. Дзе ж ён не захрыпіць! Мабыць, заганарыліся.

—Разбяромся, Пятровіч. У мяне запісана, хто яго рабіў. Вінаватых пакараем абавязкова,—Антон Іванавіч Юрэчка зірнуў на Гайдукевіча з-пад шырокіх калматых брывей, нечакана ўсміхнуўся:

— Не хвалюйся, браце. Пабераж нервы. Ты ж не вінаваты...

— Але ж выпраўляць даводзіцца мне. Сорамна за такую работу!—Гайдукевіч павярнуўся і пайшоў у сваю каморку — маленькі пакойчык у канцы калідора.

За акном зноў зацярусіла імжа.

«От раскісла неба Хоць бы дождж людскі, глядзіш, грыбы паперлі б»,— падумаў настройшчык, сеў за стол, прыгладзіў пасівелыя валасы. Неўзабаве зноў пачулася «рып-рып», загула бормашына...

Амаль чвэрць веку назад прыехаў Міхась з вёскі ў Маладзечна. Было яму тады пятнаццаць гадоў. На дарогу бацька наказваў:

— Добра было б, сынку, каб ты падвучыўся шыць боты. Кавалак хлеба меў бы заўсёды. Людзі басанож не ходзяць. Работы хопіць...

І Міхась шукаў арцель, дзе рамантуюць абутак, каб напрасіцца туды вучнем. Праходжыя паказалі, як ісці, але Міхась заблытаўся, трапіў не на тую вуліцу, і раптам убачыў маленькую самаробную шыльду. Хімічным алоўкам было напісана, што тут рамантуюць гармонікі.

— Ух ты, гармонікі. Гэта не тое, што боты...

Міхась застыў, як укапаны. Адразу перад вачыма паўстаў Пецька, па мянушцы Шпак, рыжы, ганарысты хлопец. У яго быў стары тульскі гармонік. І насіўся з ім Пецька, як з пісанай торбай. Улетку граў аж да світання танцы, і ўжо калі выганялі наранкі кароў, з музыкай ішоў дадому. А на вяселлях быў самым жаданым госцем. Ох, і зайздросціў жа яму Міхась!..

Доўга хадзіў хлопец каля дзвярэй. Ніяк не адважваўся пераступіць парог.

— Ат, пайду спытаюся. Не з'ядуць жа яны мяне, — Міхась махнуў рукой і зрабіў крок, нібы ступіў у сцюдзёную ваду.

У цемнаватым пакоі сядзела некалькі чалавек. Было моцна накурана, пахла клеем.

— Дык ты хочаш рамантаваць гармонікі? Добра. Мо граць умееш? Не, кажаш? І нават у руках не трымаў?— дапытваўся пажылы вастраносы, даўно няголены мужчына. «Відаць, сярдзіты. Нездарма на вожыка падобны», — падумаў Міхась.

— Ну, трымай! — дзядзька «вожык» падаў гармонік. — Рамень на плячо. Так. Расцягвай, Смялей, смялей. Цісні на гузікі. Што ў цябе рукі трасуцца? Чыіх курэй пакраў, га, прызнавайся?

— Ды што вы, дзядзька... Ніякіх курэй...

— Маўчы, ведаю. Чуеш, як равуць басы? Нібы парсюк рохкае. А павінны спяваць, ды падтакваць галасам. От, браце. Думаеш, проста гэта зрабіць? Не, дудкі. Гармонік — не лапаць... Паслухай, ты ж вясковы хлопец, сякеру трымаў у руках?

— А як жа... Нават зэдлік зрабіў.

— Чуеце, хлопцы? Зэдлік зрабіў. Мо, паспрабуем, возьмем?

І стаў Міхась рамантаваць гармонікі. Праз нейкі час ведаў кожную дэталь інструмента, а некаторыя нават сам рабіў. Ну і, вядома, трохі пілікаў. Пры жаданні мог падабраць на слых любую мелодыю.

Настаў час ісці ў армію. Сябры прасілі не забываць. Пісалі пра навіны. А навіны былі прыемныя — арцель расла, нараджалася фабрыка музычных інструментаў.

Праз тры гады ладны, падцягнуты сержант прыехаў у Маладзечна, зайшоў на фабрыку.

— Ах, як ты дарэчы, Міхась, — сустрэў яго майстар, той самы сярдзіты «вожык».—Паслухай мяне, старога буркатуна, едзь у Тулу. Падвучыся. Будзе з цябе настройшчык — во! — майстар адставіў вялікі палец. — Едзь, не раздумвай. Некалі дзякуй скажаш.

Гайдукевіч паслухаўся...

Рыпнулі дзверы. Увайшла жонка Тамара Мікалаеўна, зняла мокры плашч. Яна таксама працуе на фабрыцы—зборшчыцай.

— Гэта ўжо чацвёртая гадзіна? Калі дзень праляцеў? — схамянуўся Гайдукевіч.

— Прынесла во перакусіць. А плашча табе не ўзяла. Калі выходзіла з дому, дажджу не было, а зараз зноў сыпле...

— Ну, што ж, буду рабіць, пакуль не перастане.

— А калі да раніцы?

— Значыць, пайду дамоў раніцай.

— Табе ўсё хаханькі, — уздыхнула Тамара Мікалаеўна. — Як дзіця ўсё роўна. Ведаеш жа, што нельга... З тваім сэрцам.. Хоць бы ўжо дзеля дзяцей зберагаўся.

— Ну, ідзі, ідзі. Канвеер чакаць не будзе. Я трохі пасяджу і пайду гуляць...

Жонка выйшла. У каморцы зноў рыпаў гармонік, нібы чмель, гудзела бормашына, скрыгатаў рашпіль, чыркаў напілак. Настройшчык «укладваў душу» чарговаму гармоніку.

Аб майстэрстве Гайдукевіча гаворыць такі факт. Неяк прывезлі на фабрыку інструменты з Мінскай філармоніі. Адказны заказ даручылі Міхасю Пятровічу. Ён настроіў, ды так, што сталічныя музыкі дзіву даваліся: іх прычындалы гралі лепш, чым новыя. Усе язычковыя інструменты раскрываюць душу майстру, лепшаму настройшчыку Беларусі.

Усё ішло добра. Але аднойчы, пасля другой змены, Міхась ледзь дайшоў да дому: так балела галава, нешта сціскалася ў грудзях. Давялося звярнуцца да доктара. Адразу далі бюлетэнь, пачалі рабіць аналізы. Праз тыдзень доктар сказаў:

— Вось што, даражэнькі, маторчык таго, забарахліў. Ціск мне ваш не падабаецца. І нервы разгуляліся. Трэба больш рухацца. Хадзіць пехатой, ездзіць на веласіпедзе. Японцы лічаць, што чалавек за суткі павінен рабіць дзесяць тысяч рухаў... А вы прывязаны да стала. Раю змяніць прафесію, — такі быў прысуд доктара.

Лёгка сказаць, змяніць прафесію, калі табе ўжо пад сорак і на плячах сівая галава. А галоўнае, калі твая справа вельмі падабаецца, і без яе цяжка ўявіць жыццё. «Як гэта несправядліва і жорстка, — думаў Гайдукевіч. — Толькі трохі навучышся рабіць, пазнаеш сакрэты і таямніцы справы, глядзіш, матор забарахліў, вочы стамляюцца... І ўсё-такі нічога я мяняць не буду».

Неяк да Гайдукевіча падышоў сакратар парткома фабрыкі Васіль Паўлавіч Малынаў. Разгаварыліся.

— Ёсць такая думка, Міхась Пятровіч. Перавесці цябе з канвеера на заказы. Будзеш настрайваць інструменты асаблівыя, не серыйныя. Якія толькі ты можаш...

— Чаму толькі я? Васіль Паўлавіч, навошта так гаварыць...

— Пачакай, браце. Ведаю, што ты сціплы чалавек. Слухай, далей. Дадзім табе персанальны кабінет, працаваць будзеш без зменшчыка. Калі добры настрой, дык можаш пасядзець і даўжэй, але неператамляцца! Вучняў ты падрыхтаваў шмат. Ёсць каму рабіць...

Так, вучняў у Гайдукевіча сапраўды шмат, бадай, больш за поўсотню. Амаль усе яны працуюць на фабрыцы. Міхась Гаравы і Васіль Малашка дык ужо адметныя настройшчыкі, на пяты наступаюць настаўніку.

І яшчэ адзін вучань падрастае — сын Сярожка. Праўда, яму яшчэ дзесяць гадоў, але на гармоніку грае не горш за бацьку. І таксама хоча быць настройшчыкам...

Міхась Пятровіч пераапрануўся і выйшаў у калідор. З каморак настройшчыкаў даносіўся цэлы рой гукаў. Там «прарэзваўся» голас беларускіх гармонікаў. Там нараджалася іх слава. Міхась Пятровіч пастаяў трохі, паслухаў і, задаволены, маладым бадзёрым крокам пайшоў на вуліцу.

**Л. ЛЯВОНАЎ.**

Фота аўтара.

# КОНКУРС НА ЛЕПШАЕ АПАВЯДАННЕ

*Увесь савецкі народ рыхтуецца да вялікай знамянальнай падзеі — XXIV з'езда роднай Камуністычнай партыі.*

*З мэтай яшчэ большай актывізацыі літаратурных сіл па мастацкім адлюстраванні нашай рэчаіснасці Саюз пісьменнікаў БССР у гонар XXIV з'езда КПСС абвяшчае конкурс на лепшае апавяданне.*

*На конкурс прымаюцца апавяданні, у якіх ярка паказваюцца нашы сучаснікі з іх працоўнымі справамі, новымі ўзаемаадносінамі, высокімі маральнымі якасцямі, багатым духоўным светам, расказваецца пра тое, як савецкія людзі пераадольваюць цяжкасці і супярэчнасці, якія сустракаюцца ў жыцці, змагаюцца за перамогу ідэй камунізма.*

*У конкурсе могуць прыняць удзел як члены Саюза пісьменнікаў, так і пачынаючыя літаратары рэспублікі.*

*Конкурс закрыты. Рукапісы на беларускай мове ў двух экземплярах дасылаць пад дэвізам, прозвішча і адрас аўтара—у асобным канверце.*

*Тэрмін прадстаўлення апавяданняў — да 1 снежня 1970 года.*

*За лепшыя апавяданні ўстанаўліваюцца наступныя прэміі:*

**I прэмія (адна)—300 руб.**
**II прэмія (дзве)—200 руб.**
**III прэмія (дзве)—150 руб.**

*Апавяданні, дасланыя на конкурс, разглядае журы, створанае праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР. Вынікі конкурсу будуць абвешчаны ў канцы снежня г. г.*

**Рукапісы дасылайце па адрасе: г. Мінск-30, вул. Энгельса, 9 — Саюз пісьменнікаў БССР (з прыпіскай «на конкурс»).**

# Ў ЦЭНТРЫ МІНСКА

рашаны проста, падкрэслена функцыянальны. Між іншым, падкрэсленая функцыянальнасць, дакладней — адпаведнасць формы зместу — вызначальная якасць архітэктуры комплексу. Задні фасад, як шырма, аддзяляе басейны ад трэніровачнага стадыёна, у аднапавярховай прыбудове размешчаны службы, раздзявалкі і душы, і адпаведна гэтаму фасад мінімальна зашклёны. Вузкая стужка акон аздоблена вітражамі ў тых памяшканнях, дзе святло неабходнае, — вестыбюль, медыцынскі кабінет, буфет. Іншых архітэктурных упрыгожванняў фасад не мае.

Па кантрасце з гэтай амаль што глухой сцяной сцены залы басейнаў вырашаны як вітражы. Крывалінейнае перакрыццё абапіраецца на калоны, і ўся канструкцыя ўспрымаецца як лёгкая павець. Шкло аб'ядноўвае залу басейнаў з тэрасай і паркам. Паваротныя панелі робяць гэту сувязь непасрэднай. Прастора пабудавана так, што зала, нягледзячы на велізарныя памеры, не здаецца пустой. Яна ўтульна напоўнена святлом, уражвае натуральным злучэннем воднага люстра трох басейнаў з канструкцыяй, з бетонам і шклом. Глядзельныя трыбуны размешчаны супраць вітражнай сцяны, і з іх праглядаецца вялікі адкрыты басейн, дрэвы Батанічнага саду, далёкія будынкі акадэмічнага гарадка. Пейзаж складаны, зразумела, не выпадковы, кампазіцыйна ўсё звязана адно з адным. Два астраўкі дэкаратыўных раслін каларытна ўпрыгожваюць залу і дапамагаюць успрымаць адзінства крытай і адкрытай частак комплексу. Сувязі памяшкання з прыродай, з прыгожа спланаваным акружэннем палаца садзейнічаюць акустычныя якасці залы. Тут не чуваць спецыфічнага для крытых басейнаў рэзкага плёскату і гулу — іх глушыць падвясная столь з павінолу.

З будынка спецыяльны выплыў вядзе ў адкрыты басейн свабодных абрысаў. Гэта, хутчэй, не басейн, а невялікае добраўпарадкаванае азярцо — яго плошча больш як 3 000 квадратных метраў. Пасярэдзіне басейна пастаўлены астравок, які выдзяляе прамую частку для спартыўнага плавання. Басейн неглыбокі, падагрэў вады забяспечвае аднолькавую тэмпературу па ўсёй яго плошчы. Тут могуць плаваць або вучыцца плаванню людзі рознага ўзросту. Паўкруг галечных і пясчаных пляжаў стварае ў летнія месяцы ўмовы для адпачынку. Шкло і шарэнга калон лагічна замыкаюць зялёнае паўкальцо і служаць яму кантрастным фонам.

З канструктыўных меркаванняў адзін пралёт паміж калонамі выкананы як сцяна. Архітэктурнай патрэбы ў гэтым не было, таму і давялося яго маскіраваць. Натуральна, сцяну аддалі мастаку. Манументальнае пано на тэмы падводнай экзотыкі (аўтар В. Масцераў) прыйшлося дарэчы, па настроі гарманіруе з каляровай гамай комплексу і ўзбагачае яго добрай мастацкай работай.

Яшчэ раз хочацца адзначыць адсутнасць у праекце штучных рашэнняў. Дакладная прадуманасць адчуваецца ў суадносінах маштабаў пляжнай пляцоўкі, адкрытага басейна і будынка, у формах, якія выцякаюць з функцыянальнага прызначэння, у планіроўцы пляцоўкі, у настроі інтэр'ераў. Праўда, на мой погляд, упрыгожанне ніжняга фае крыху цяжкаватае, выпадковым здаецца тут мармур на невялікай сцяне. Зусім інакш глядзіцца фае залы басейнаў. Доўгае, прасторнае, дэкараванае дробнай глазураванай пліткай, яно лёгка ўключаецца ў структуру залы, стварае адчуванне святочнасці.

Крытыя басейны адпавядаюць усім патрабаванням спаборніцтваў самага высокага рангу. Яны абсталяваны першакласнай тэхнічнай апаратурай, якая, напрыклад, дазваляе рэгістраваць час фінішу з дакладнасцю да тысячнай долі секунды. Тут трэніруюцца зборныя каманды краіны, праводзяцца міжнародныя спартыўныя сустрэчы.

Усё гэта служыць асновай для далейшага развіцця комплексу. Архітэктурная задума прадугледжвае будаўніцтва высотнай гасцініцы для спартсменаў, веславальнага басейна, залы для размінкі. Пакуль гэтыя аб'екты існуюць толькі на эскізах і гаварыць пра іх рана. Я называю іх, каб дакладней абрысаваць межы архітэктурнага ансамбля і паказаць кола пытанняў, якія давялося і даводзіцца вырашаць архітэктару. Тым больш, што гэтыя рашэнні выліваюцца ў творчую ўдачу.

**К. ТАРАСАЎ.**

Леанід ДРОБАЎ

НАТАТКІ МАСТАЦТВАЗНАЎЦЫ

# У ПОШУКАХ СКАРБАЎ

*Варшава — Кракаў — Уроцлаў — Познань*



К. АЛЬХІМОВІЧ. На этапе.



І. ХРУЦКІ. Партрэт Бубноўскага.



Ф. РУШЧЫЦ. Лясны ручай.

## V.

НІ ДЛЯ КАГО не сакрэт, што ў гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва за апошнія паўстагоддзя, бадай, самы нераспрацаваны ў тэарэтычных і чыста фактапагічных адносінах — перыяд 20-х гадоў. Бо вельмі мала дакументаў гэтага бурнага ў савецкім мастацтве перыяду захавалася на Беларусі — вайна нанесла непапраўныя страты нашым архівам. Таму кожны новы дакумент, які знаходзім, кожны новы факт з гісторыі мастацтва гэтага перыяду, — літаральна на вагу золата. Адкрыйце, напрыклад, кнігу І. Ялатамцавай, супрацоўніцы нашага інстытута, прысвечаную беларускай манументальнай скульптуры. Прачытайце першы раздзел — якраз аб мастацтве Беларусі ў 20-я гады. Як цікава чытаюцца старонкі раздзела, прысвечаныя, напрыклад, дзейнасці на Беларусі архітэктара і скульптара Краснапольскага, або гісторыі віцебскага помніка «Перамога светлага новага», які ўзноўлены ў малюнку па памяці З. Азгурам для кнігі І. Ялатамцавай, і вы адразу ж уявіце маё хваляванне, з якім я ўбачыў у памянёнай фотатэцы Інстытута мастацтва здымкі... арганізаванай у Мінску ў 1920 годзе выстаўкі выяўленчага мастацтва і прадметаў прыкладнога мастацтва!..

Нават па здымках было відаць, што многія экспанаты гэтай выстаўкі былі пашкоджаны: праз Беларусь жа пракатваліся франты!.. Партрэты сакоўнікаў, якія ўпрыгожвалі, відаць, асабнякі багацеяў, былі пакрамсаны. Але і рэпрадукцыі сведчаць, што творы гэтыя ўяўлялі сабой мастацкую каштоўнасць.

Што ж то была за выстаўка? З якой нагоды яна арганізоўвалася ў Мінску? Што за творы былі на ёй? Каму яны належалі да выстаўкі?

На гэтыя пытанні ніхто з супрацоўнікаў Інстытута мастацтва не мог даць адказ.

Значна пазней мне ўдалося высветліць, што гэта, відаць, была выстаўка твораў, нарабаваных пілсудчыкамі ў часе акупацыі Беларусі ў 1920 годзе. Арганізатарам выстаўкі, хутчэй за ўсё, было так званае «Таварыства стражы крэсовай» — буржуазна-нацыяналістычная арганізацыя, якая займалася «ратаваннем ад бальшавікоў» мастацкіх каштоўнасцей і адпраўкай іх у Польшчу.

Які далейшы лёс гэтых твораў? Дзе яны? Гэтага высветліць не ўдалося. Праўда, пазней, праглядаючы ў варшаўскім архіве паперы памянёнага «таварыства», я натрапіў на матэрыялы, звязаныя з арганізацыяй у студзені — лютым 1921 года ў Варшаве выстаўкі, аналагічнай той, што была ў 1920 ў Мінску... Быў нават выдадзены каталог гэтай выстаўкі, якога я, на жаль, не здолеў знайсці. У гэтым каталогу павінна быць падрабязнае апісанне ўсіх экспанатаў.

Я прачытаў брашуру аднаго з арганізатараў гэтай выстаўкі — Ежы Сальскага — «Мастацтва і польская культура на Літве і Русі». У брашуры досыць падрабязна апісаны экспанаты выстаўкі. У тэксце ўпамінаецца, што яны вывезены больш як са ста гарадоў і мястэчак Беларусі (у тым ліку з Мінска, Ліды, Слуцка, Лагойска і іншых мясцін). Безумоўна, многія з гэтых экспанатаў маглі б праліць святло на мастацкае жыццё на Беларусі ў перадкастрычніцкую пару. Ежы Сальскі падрабязна апісвае слуцкія паясы, урэцкае шкло, налібоцкія дываны, карціны з галерэй Радзівілаў, Сапегаў, Ельскіх, Храптовічаў, Агінскіх і іншых беларускіх і польскіх магнатаў. Зразумела, далёка не ўсё адносіцца да польскага мастацтва — ёсць і беларускае. Пра гэта сведчаць нават паасобныя рэпрадукцыі з твораў, змешчаныя ў брашуры Сальскага, сярод якіх аўтапартрэт Дамеля — мінскага мастака першай палавіны мінулага стагоддзя, рэпрадукцыі цудоўнага карэліцкага габелена з калекцыі Радзівілаў, на якім — сцэна з жыцця магнатаў, а таксама аўтапартрэт польскага мастака Юзэфа Пешкі, цікавы па кампазіцыі і па жывапісе.

Што ж, мне не ўдалося дачытаць да канца старонку гісторыі мастацтва, звязаную з гэтай выстаўкай. Магчыма, яе дачытае некалі іншы даследчык — я ж стаўлю, як кажуць, вяху на дарозе, па якой пройдуць другія...

Са шкадаваннем пакідаў я сцены Інстытута мастацтва, бо наперадзе чакала не менш цікавая і адказная праца ў музеі, дзе сабраны скарбы польскага выяўленчага мастацтва, якія (к майму найвялікшаму здзіўленню) амаль не пацярпелі ў часы другой сусветнай вайны. Дзякуючы намаганням патрыётаў-супрацоўнікаў і асабіста дырэктара прафесара Ларэнца.

## VI.

Я НАЗАЎСЕДЫ запомніў будынак Музея Нарадовага (Нацыянальнага). Ён — на цэнтральнай магістралі Варшавы: Алеях Ерузалімскіх, — непадалёк ад будынка Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Будынак музея — у стылі «мадэрн». Пабудаваны яшчэ ў 30-я гады. У плане нагадвае літару «П» і займае вялікі пляц. Праз удала ўпісаныя ў агульную кампазіцыю будынка масіўныя дарычныя калоны цэнтральнага ўваходу праходзіш у сярэдзіну, дзе перад табой разгортваюцца цікавыя старонкі гісторыі мастацтва... На чытанне гэтых старонак яшчэ перад уваходам цябе настройваюць бронзавыя статуі Апалона Бельведэрскага, Венеры Мілоскай, Мікельанджэлавага Давіда...

Тут, у гэтай скарбніцы мастацтва, мяне чакала сустрэча вельмі хвалюючая...

Яшчэ ў часе першага прыезду ў Польшчу мне паведамілі, што ў музеі працуе дачка славутага польскага мастака, выхадца з Беларусі Фердынанда Рушчыца, які нарадзіўся і памёр у Багданаве на Ашмяншчыне. Я меў перапіску з Янінай Рушчыцуўнай, вядомай мастацтвазнаўцай. І сустрэчы з ёю чакаў з асаблівай нецярплівасцю. Сама пані Яніна таксама нарадзілася ў Багданаве. Гадоў да трыццаці яна жыла там, даглядаючы хворага бацьку.

...Твар пані Яніны — занадта ўжо беларускі. Размаўляць з ёй было тым больш прыемна, што яна не забыла беларускую мову.

Яна расказала шмат цікавых падрабязнасцей з жыцця бацькі ў Багданаве. Гэтыя звесткі для мяне асабліва карысныя, бо пра Рушчыца, мастака з сусветнай славай, складзены самыя неверагодныя байкі. Буржуазная прэса пісала, быццам ён вельмі шчыры прыхільнік рэжыму Пілсудскага — на той толькі падставе, што мастак выкладаў жывапіс у Віленскім універсітэце!.. Вядома, мець на сваім баку такую відную фігуру, як Фердынанд Рушчыц, пілсудчыкам было выгадна. На справе ж гэта быў зусім не такі чалавек, якім яго выстаўляла польская буржуазная прэса. Ён шчыра любіў сваю радзіму Беларусь. Сусветную славу прынесла яму не грамадская дзейнасць, а мастацкія палотны, напісаныя пераважна ў Багданаве. Ён праўдзіва адлюстраваў беларускую прыроду, жыццё беларускага народа, які мастак вельмі любіў. І сёння старажылы ў Багданаве добрым словам памінаюць «пана-мастака», які столькі рабіў дзеля паляпшэння матэрыяльнага становішча сялян. Дарэчы, першую пачатковую школу ў Багданаве Рушчыц арганізаваў на ўласныя сродкі, выручаныя ад продажу карцін.

Ці мог я марыць пра лепшага экскурсавода па музеі, чым пані Яніна!.. Гутарачы, мы агледалі экспазіцыю. Тут я сустрэў шмат знаёмых прозвішчаў, сярод якіх — Альхімовіч, Дамель, Аляшкевіч, Ванькові, Фалат і іншыя. Вось яны, іхнія палотны, перад маімі вачыма! Некаторыя з іх я ведаў раней па рэпрадукцыях і зусім не падазраваў, што сустрэну тут, у Варшаве. Але самае нечаканае было, як у дэтэктыўным рамане, наперадзе!..

Па дамоўленасці з дырэкцыяй музея прадстаяла паглядзець запаснікі. Пані Яніна пазнаёміла мяне з «галоўнай хавальніцай» запасаў пані Дрэцкай, якая аказалася вельмі прыемнай жанчынай. Жыццё яе складалася няпроста. У часе варшаўскага паўстання ўся сям'я загінула. Сама пані Дрэцка была паранена, і ад смерці яе ўратавалі савецкія медыкі. Таму яна асабліва прыхільная да савецкіх наведвальнікаў музея.

«Уладанні» пані Дрэцкай — амаль увесь цокальны паверх будынка. Тут — некалькі тысяч твораў жывапісу і скульптуры. Усе — ва ўзорным стане, захоўваюцца пры пастаяннай тэмпературы, своечасова рэстаўрыруюцца. Старанная работа вядзецца па атрыбуцыі невядомых твораў. Пані Дрэцка паказала мне свае навуковыя працы, у якіх вельмі абгрунтавана вызначаны час, месца стварэння і аўтарства многіх твораў жывапісу.

У нас завязаліся самыя сяброўскія адносіны. Я задаваў пытанні пра творы, якія мяне цікавілі, а пані Дрэцка беспамылова знаходзіла іх у запасніках і давала мне самыя дакладныя звесткі.

## VII.

НА 277 старонцы першага тома «Беларускай савецкай энцыклапедыі» рэпрадуцыравана карціна нашага земляка Казіміра Альхімовіча «На этапе!», напісаная ім у 1894 годзе. Арыгінал экспануецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве...

Гэтая рэпрадукцыя нагадвае мне пра сустрэчу з творамі мастака ва «ўладаннях» пані Дрэцкай...

Я раней бачыў работы Альхімовіча толькі на рэпрадукцыях, сярод якіх толькі адна была каляровая і вельмі кепска перадавала каларыт. А тут... Свята фарбаў! Творы — буйным планам! І якія — «Абарона Альштына», «На этапе», «Наём работнікаў»! І не толькі яны.

Ураджэнец вёскі Дзембрава на Гродзеншчыне, Казімір Альхімовіч удзельнічаў у паўстанні 1863 года. Большую частку жыцця правёў у Варшаве. Але ніколі не траціў сувязей з роднай Гродзеншчынай. Большасць ягоных твораў — паводле эцюдаў і замалёвак, зробленых на радзіме.

«На этапе» — карціна пра цяжкі лёс паўстанцаў 1863 года, якія з сем'ямі накіроўваліся ў далёкую Сібір. Па дарозе многія гінулі ад холаду і хвароб. Мабыць, такі ж лёс чакаў і вось гэтую маладую жанчыну з дзіцем на руках, якая з мужам і малым знайшла часовы прытулак у нейкай сялянскай лазні па дарозе ў выгнанне...

Усё гэта мастак перажыў асабіста. Наш зямляк з царскае ласкі адбываў пакаранне ў Сібіры і потым на ўсё жыццё быў сасланы ў Царства Польскае.

Каларыт Альхімовічу падказвала родная прырода. Фарбы і тоны ў яго карцінах празрыста-чыстыя. Адмысловыя спалучэнні блакітнавата-жоўтых, зялёных і шэрых тонаў. Манера пісьма — мяккая, лірычная.

У Альхімовіча былі і іншыя палотны — «Пахаванне Гедыміна», «Смерць у выгнанні», «Жніво», «У поце чала» і шмат іншых. І ва ўсіх — Беларусь, яе складаны гістарычны лёс, спачуванне абяздоленаму чалавеку працы... Вось творы, якія здольныя шмат чаго расказаць пра традыцыі беларускага жывапісу — рэалістычныя, рэвалюцыйныя, народныя!..

## VIII.

СУСТРЭЧА з Дамелем... Тут, у Варшаве, я ўбачыў пераважна партрэты яго пэндзля.

Мастак жыў тады, калі на змену класіцызму ўпэўнена крочыў рамантызм. А ў творах паасобных мастакоў адчуваліся нават ноткі сентыменталізму.

Але партрэты нашага мінчаніна — сапраўды рэалістычныя шэдэўры!..

Якая смеласць у пошуку новых форм адлюстравання рэчаіснасці! А які дэмакратызм!.. Не вагаючыся, ішоў мастак на ломку архаічных акадэмічных канонаў і — бронь божа ў тыя часы! — пісаў нават партрэты простых смертных, людзей «подлого» звання — сялян і рамеснікаў.

Я ўбачыў «Аўтапартрэт» Дамеля.

...Сярэдніх гадоў мужчына з густой капной русых валасоў. Сядзіць напаўабарота да гледача. У руках — нязменны аловак — сябар мастака і ў гады ссылкі ў Сібір, і ў доўгія, аднастайныя дні ў мінскай правінцыяльнай глушы... Але ўпарты паварот галавы, моцна сцятыя вусны — характар цвёрды! Такога не сагнеш, не зломіш...

Фарбы кантрастныя, сакавітыя. Пэндзаль ходзіць упэўнена. Не проста лепіць форму — высякае форму з палатна...

## IX.

ГЛЯДЖУ на славуты твор Ваньковіча «Міцкевіч на скале Аю-Даг» — пачынаюць дзейнічаць памяць і ўяўленне...

Ваньковіч таксама мінчук. Сябра Міцкевіча. Добра быў знаёмы з Пушкіным. Уражвае эмацыянальны напал, рамантычны (так і хочацца сказаць — рэалістычны!) пафас вобраза Міцкевіча, які адлюстраваны ў хвіліны творчага роздуму. Абапершыся на скалу, мо ён слухае рокат Чорнага мора, мо прыгадвае мілую Навагрудчыну, мо трызніць аб першым і, бадай, самым светлым каханні да Марылі Верашчакі...

Ах, як сурова абышоўся лёс з творцам гэтага палатна! Ваньковіч памёр у Парыжы на руках у Адама Міцкевіча. Ад сухотаў.

У перадсмяротным пісьме завяшчаў, каб палотны яго былі перавезены ў родны Мінск.

Працяг. Пачатак у мінулым нумары.



В. СМАКОЎСКІ. Ілюстрацыя да «Віталяраўдэ».

## X.

ЛЯ ВЫТОКАЎ беларускай графікі — Францішак Скарына. Ад Скарыны да нашых дзён цягнецца пэўная традыцыя, этапы развіцця якой даследаваны пакуль што не ў такой паўнаце, якая пажадана. Пра гэта нельга было не думаць у аддзеле графічных збораў Нацыянальнага музея ў Варшаве.

У гэтым аддзеле, які знаходзіцца на першым паверсе, таксама ўзорны парадак. Скарбы тутэйшыя — не пералічыць.

Мяне, зразумела, цікавяць тыя, якія маюць непасрэднае дачыненне да Беларусі.

Сярод такіх скарбаў — вялікая калекцыя графічных твораў, сабраная ў свой час вядомым гісторыкам Ю. Крашэўскім. У апошнія гады жыцця Крашэўскі жыў у Вільні. Любіў гэты край. Перапісваўся з тутэйшымі дзеячамі культуры, навукі, мастацтва. Часопіс Крашэўскага «Атэнэум», бадай, адзіная крыніца, з якой можна многае даведацца аб стане выяўленчага мастацтва на Беларусі ў першай палове мінулага стагоддзя. Прынамсі, адна з найбольш аўтарытэтных крыніц.

Што ж ёсць у гэтай калекцыі?

Мноства малюнкаў В. Смакоўскага — сябра Крашэўскага. Мастак і медык, Смакоўскі доўга жыў у Свянцянах. Практыкаваў у вёсцы Палессе, недалёка ад Пастаў. Яго малюнкі пяром (яны някепска захаваліся) дакладна перадаюць жыццё і побыт беларускіх сялян.

Смакоўскі шчыра спачуваў беднаце. Сам быў выхадцам з беднай сям'і. Сын адзінокай прачкі з Вільні ў дзяцінстве зведаў гора, нястачу.

Амаль у кожным малюнку Смакоўскага — жабракі ды сіроты. То плачуць на магіле бацькі. То, апранутыя ў лахманы, просяць міласціну. Такая была тагачасная рэчаіснасць. Такой і адлюстраваў яе мастак, рэаліст.

Крыху больш аптымістычныя малюнкі Бартэльса. Яго зброяй у мастацтве была сатыра. І карыстаўся ён ёю дасканала. Вельмі трапныя накіды Бартэльса, зробленыя «на адным дыханні», пераносяць нас у паслярэформенную Беларусь. Панскія аканомы, парабкі, лёкаі—як жывыя. Мастак насміхаецца з іх, паказвае іх недахопы з іранічнай усмешкай. Але там, дзе ідзе гаворка пра людзей «высокага паходжання» — панах і шадпанках — пяро Бартэльса няўмольнае. Ён зрывае ўсе і ўсялякія маскі. Нездарма ж творы Бартэльса так высока цаніў Францішак Багушэвіч!.. Дарэчы, Багушэвіч перакладаў на беларускую мову байкі Бартэльса.

Усе малюнкі нашых славутых землякоў я гляджу і запісваю іх назвы ў свой сшытак. Па дамоўленасці з дырэкцыяй фатаграфую іх.

Фатограф, праўда, з мяне не надта добры, але для маёй даследчыцкай працы і такія здымкі могуць згадзіцца. Таму — стараюся і здымаю, здымаю...

Шмат чаго добрага можна было б сказаць і пра аддзел дакументацыі музея. Тут, акрамя асабістых архіваў мастакоў, негатывы і рэпрадукцыі многіх мастацкіх твораў. Гэтая фататэка асабліва карысная для мяне, Тут знайшоў нямала цікавага, пра што раскажу, мабыць, пазней.

Працаваў я ў музеі два тыдні. І зусім забыўся пра ўсялякія «візіты», якія трэба было б зрабіць. Але неўзабаве нагадаў пра сябе дырэктар музея — прафесар Лорэнц. Гэта дзякуючы яго асабістым намаганням удалося ў гады вайны захаваць мастацкія скарбы Нацыянальнага музея. Прафесар Лорэнц — дэпутат польскага сейма. Вядзе вялікую навуковую і арганізацыйную працу. Добра ведае беларускую літаратуру і мастацтва. Гутарыць з ім цікава. Вельмі быў ён задаволены, што ў нас на Беларусі цікавяцца мастакамі, якія лёсам сваім у той ці іншай меры звязаны з Польшчай. Сам прафесар таксама цікавіцца польска-беларускімі мастацкімі сувязямі, напісаў некалькі артыкулаў пра творчасць Дамеля і іншых мастакоў. Вельмі я ўдзячны прафесару Лорэнцу за карысныя парады аб напрамку пошукаў неабходных для мяне звестак пра наша мастацкае мінулае, якое павінна — абавязкова павінна! — служыць нашай сучаснасці.

## XI.

Я ШЧЭ Ў ПЕРШЫ ДЗЕНЬ прыезду ў Варшаву я даведаўся, што тут жыве адзін мой стары знаёмы—яшчэ з часоў вучобы ў Мінскім мастацкім вучылішчы. Прозвішча яго—Коміньч.

Пераехаў Пятрусь у Варшаву гадоў дзесяць назад.

І вось спаткаліся. Цяжка было пазнаць у крыху пасівелым, лысаватым мужчыне таго Коміньча, па якім сохлі нашы дзяўчаты з вучылішча. Мабыць, і мяне пазнаць было цяжкавата..

Так ці інакш — пазналі адзін аднаго, пагаварылі ад душы.

Пятрусь працуе мастаком-жывапісцам. Мае майстэрню. Актыўна выступае на выстаўках. Належыць да групы рэалістаў і прадстаўляе, як ён сам гаворыць, у Польшчы савецкі жывапіс.

Ён запрасіў мяне на адкрыццё мастацкай выстаўкі, наладжанай у адным з вайсковых клубаў. На вернісажы было шмат народу. Акрамя вайскоўцаў, прысутнічалі амаль усе мастакі, працы якіх экспанаваліся ў залах клуба. Пасля ўрачыстасцей і агляду экспазіцыі ўсіх запрасілі за стол. Тостаў было шмат. І я прапанаваў свой тост за дружбу беларускіх і польскіх мастакоў. Пілі віно і закусвалі традыцыйнымі канапкамі (нешта накшталт нашых бутэрбродаў). Пасля адбыўся канцэрт (такая ўжо традыцыя) ансамбля песні Польскай народнай арміі. Прыемна было чуць шмат савецкіх песень. Дарэчы, савецкія песні спяваюць у Польшчы ўсюды — і на сяброўскіх вечарынках, і на афіцыйных урачыстасцях, і па радыё, і дома—сярод сяброў і блізкіх. Сядзіш дзе-небудзь у варшаўскім кафэ, слухаеш родную песню, чуеш, як яе горача прымаюць—быццам і не ад'язджаў нікуды з дому...

На гэтым вернісажы я атрымаў некалькі запрашэнняў наведаць майстэрні мастакоў.

Перш чым расказаць пра гэтыя наведванні, некалькі агульных заўваг пра сучасную атмасферу ў польскім выяўленчым мастацтве.

Яно, сучаснае мастацкае жыццё Польшчы, стракатае і складанае. Сутыкаюцца ўплыў старых рэалістычных традыцый Польшчы і ўплыў мастацтва Захаду. У адной толькі Варшаве — 6000 мастакоў. Яны аб'яднаны вакол Саюза польскіх мастакоў. Тут ёсць і сімвалісты, і імпрэсіяністы, і фармісты, і абстракцыяністы (прынамсі, так яны называюць сябе). Група рэалістаў — некалькі дзесяткаў чалавек. Голас яе патанае ў шматгалосым хоры прыхільнікаў розных фармалістычных плыняў.

Такое становішча скарыстоўваюць замежныя дзялкі ад мастацтва ў сваіх мэтах. Яны скупляюць праз спецыяльныя камісійныя магазіны ўсю прадукцыю абстракцыяністаў і фармістаў. Зразумела, некаторыя няўстойлівыя ў ідэалагічных адносінах мастакі, каб патрафіць густу замежных «маршанаў», не надта клапоцяцца пра свае перакананні і ствараюць «мастацкія» творы па ўзоры заходніх.

Рэалісты групуюцца вакол таварыства «Захента»—вельмі старога аб'яднання польскіх мастакоў (яно існуе ўжо больш за сто гадоў), членамі якога ў свой час былі Ян Матэйка, Максімільян Герымскі, Станіслаў Выспяньскі і іншыя.

У прыгожым двухпавярховым гмаху «Захенты» па традыцыі наладжваюцца мастацкія выстаўкі рэалістаў.

На адным з вернісажаў «Захенты» я прысутнічаў. Усё было, як і ў вайсковым клубе — традыцыйная ўрачыстая атмасфера, дыскусіі ля палотнаў.

Я пацікавіўся, чаму польскія мастакі так рэдка звяртаюцца да тэматычнай карціны. Мне тлумачылі, што тэматычная карціна цяпер не знаходзіць ужытку ў сучасным інтэр'еры. Меўся на ўвазе інтэр'ер грамадскі.

Мне здалося, што іх довады — не вельмі пераканаўчыя. Справа ў тым, што ў грамадскіх інтэр'ерах я бачыў шмат вельмі павярхоўных копій, на месцы якіх быў бы вельмі дарэчы любы рэалістычны пейзаж ці нацюрморт, калі не тэматычная карціна.

Мала тэматычных твораў і ў музеях сучаснага мастацтва. Усё запаланілі сваімі «творамі» абстракцыяністы і іншыя «істы», падобныя да іх.

Тым не менш, мне здалося, што ў сучаснай Польшчы абстракцыянісцкае мастацтва ўжо ўсім парадкам абрыдла. І мастакі ўсё больш і больш выходзяць на дарогу да рэалізму. Так, значных поспехаў дасягнулі польскія графікі. А плакатысты ўвогуле трымаюць пальму першынства на сусветных выстаўках.

Заканчэнне ў наступным нумары.




# НУДЗІСТЫ ЎВАРВАЛІСЯ Ў РЫМ

ХВАЛЯ захаплення нудзізмам, якая пракацілася па тэатральных падмостках Амерыкі і раду краін Заходняй Еўропы, уварвалася, нарэшце, у аплот прававернага каталіцызму — у Рым. Аб'явіўшы аб правядзенні першага непрыстойнага спектакля ў Італіі, яго арганізатары нерваваліся, чакаючы некалькі тыдняў, што паліцыя забароніць яго. Як ні дзіўна, мясцовыя ўлады не аказалі амаль ніякага супраціўлення эратызму, які маскіруецца пад мастацтва. Аб тым, што ў Італіі забаронена з'яўляцца ў грамадскіх месцах у касцюме Адама і Евы, проста забылі.

Урадавыя цэнзары выкраслілі толькі некалькі слоў з тэксту шоу, складзенага Джузепе Патроні Грыфі, і дазволілі глядзець крыўлянні голых патлатых людзей на сцэне нават дзецям маладзей за 14 гадоў.

Суровыя паліцэйскія з дубінкамі ў руках з'явіліся ў тэатры толькі ў смешных кінакадрах мультфільма, спраектаваных на столі і сценах тэатра. Перамога першага непрыстойнага спектакля была поўная: улады не толькі выцерпелі ўварванне нудзістаў, але і былі высмеяны. Сама пастаноўка была задумана як сатыра на мясцовыя норавы і законы...

Тэатралізаванае шоу, якое адбылося 3 верасня ў Рыме, насіла ўсе атрыбуты амерыканскага стылю, хоць і было паказана мясцовымі сіламі. Музыка рок-н-рола, немы лямант інструментаў, канвульсіі танцораў — усё было вытрымана ў класічным заакіянскім духу.

Але ўлічваючы, відаць, што гэта — першае ў Італіі з'яўленне нудзістаў на сцэне, арганізатары прыклалі нямала намаганняў, каб пакуль не шакіраваць публіку: для гэтага былі пушчаны ў ход і кіно, і добра падабраныя галасы, і светлавыя эфекты. Голыя артысты ў Рыме таксама паводзілі сябе больш стрымана, чым іх калегі ў Лондане, дзе непрыстойнасці напаказ сталі ардынарнай з'явай.

Стрыманасць першага нудзісцкага шоу, відаць, не спадабалася італьянскаму карэспандэнту агенцтва АНСА, які паведаміў расчаравана: «Нудзізм то ёсць, ды яго нешта не відаць». Затое карэспандэнт амерыканскага агенцтва ПП не ўтойваў свайго задавальнення, падкрэсліваючы ўсю важнасць таго факту, што голыя людзі з'явіліся, нарэшце, на публіцы і ў Рыме, і разглядаючы гэта як вялікую перамогу амерыканскага ўкладу жыцця ў Італіі.

Рымская газета «Месаджэра» таксама прыйшла ў захапленне. Яна адвяла цэлую паласу пад здымкі і тэкст аб «доўгавалосых». «Нудзісты надзейна ўсталяваліся на сваім п'едэстале як класікі», — урачыста аб'явіла газета, дадаўшы з апломбам: «Яны сталі жанрам гэтак жа, як стаў жанрам заходні стыль у мастацтве».

Н. ПАЗНЯКОЎ.

# «ПОП-ФЕСТЫВАЛЬ» НА УАЙЦЕ

РЭПАРТАЖ аб гэтай падзеі англійскія газеты публікавалі на першых палосах, як сенсацыю. Арганізатарам фестывалю абяцалі шумны поспех у гледачоў і вялікія касавыя зборы. Але прагнозы аказаліся памылковыя: замест поспеху і прыбыткаў ён прынёс толькі расчараванне і страты. Аднак раскажам усё па парадку.

Тры прадпрымальныя браты Фоўлк летась нядрэнна зарабілі на арганізацыі фестывалю «поп-музыкі». Гэта навяло іх на думку паўтарыць фестываль і сёлета. Спачатку братам спадарожнічаў поспех. На востраве Уайт, ля паўднёвага ўзбярэжжа Англіі, яны арандавалі пляцоўку памерам 25 акраў для сцэны і гледачоў, запрасілі вядомых выканаўцаў «поп-музыкі» з краін Старога і Новага свету і заключылі кантракт з Галівудам на здыманне спецыяльнага фільма. Але вось у канцы жніўня на востраў раптам хлынулі цэлыя полчышчы «хіпі» з Еўропы, Аўстраліі, Амерыкі. Чакаючы выступленняў сваіх музычных і вакальных куміраў, яны бавілі час з уласцівай кожнаму выдумкай і своеасаблівасцю. Адны станавіліся ў чаргу да бельгійскага мастака, які бойка маляваў на любых частках цела стракатыя букеты кветак. Другія купаліся і загаралі, не клапоцячыся аб тым, каб прыкрыць сваё цела хоць маленькім кавалачкам тканіны. А 23-гадовы Алан Фанел і 19-гадовая Карол Келі з Эдзінбурга згулялі вяселле ў храме, пабудаваным у XV стагоддзі. Старажытныя сцены храма наўрад ці бачылі калі-небудзь пару ў такіх незвычайных туалетах. Дзесяткі спекулянтаў розных нацыянальнасцей бойка гандлявалі на востраве наркоцікамі. У паліцыю паступілі сотні скаргаў на крадзяжы.

Тысячы хіпі, якія не захацелі заплаціць тры фунты стэрлінгаў за ўваходны білет на загароджаную плотам арэну, зручна размясціліся на схіле суседняга пагорка. Усе намаганні прымусіць іх заплаціць за білеты не далі вынікаў. Не дапамагла і паліцыя, якая налічвала ў сваіх радах больш пяці тысяч канстэбляў і дэтэктываў і некалькі дзесяткаў службовых сабак.

Калі на эстраду выйшлі спевакі, «бунтары» «фарсіравалі» жалезную агарожу і хлынулі на арэну. Гэта прайграная арганізатарамі «бітва» за «пагорак», як яе назвалі газеты, каштавала ім 50 тысяч фунтаў стэрлінгаў.

Вяртанне «паломнікаў» з «музычнай Мекі» на востраве Уайт нагадвала, як адзначалі газеты, «маленькі Дзюнкерк». Тысячы маладых людзей засталіся на востраве з-за адсутнасці грошай на праезд. Пакутуючы ад голаду, яны пачалі рабаваць палаткі і аўтафургоны. На дапамогу прыхільнікам «поп-музыкі» прыйшлі дабрачынныя арганізацыі, якія забяспечылі галодных хіпі рэдкім супам і галетамі. Усюдыісная царква паклапацілася пра душы аблудных — дзень і ноч каля 200 свяшчэннікаў прапанавалі пакутнікам слова суцяшэння і малітвы.

Правал фестывалю прызналі нават тыя англійскія газеты, якія стварылі вакол яго рэкламную шуміху. «Час фестываляў «поп-музыкі» прайшоў» — з жалем канстатавалі яго арганізатары, якія далі зарок ніколі больш не брацца за такую рызыкоўную справу.

Што ж датычыць англійскай грамадскасці, то многія яе прадстаўнікі адкрыта заявілі, што такія фестывалі садзейнічаюць толькі распаўсюджванню наркаманіі і дрэнных густаў сярод моладзі. Член парламента ад вострава Уайт падаў петыцыю ў Вестмінстэр з патрабаваннем спыніць у далейшым правядзенне на востраве «поп-фестываляў».

В. ОСІПАЎ,
карэспандэнт ТАСС.

Лондан.

# НЕЗВЫЧАЙНЫ КАНЦЭРТ

Два маладыя французскія музыканты — скрыпач і віяланчэліст — выступілі з канцэртам, у праграме якога былі творы Бетховена, Альбіёні і Моцарта.

Усё было, як звычайна, з адным толькі выключэннем: канцэрт праходзіў у свінарніку на буйнай сельскагаспадарчай ферме ў дэпартаменце Сена і Уаза. Уважлівымі слухачамі былі парасяты.

А пачалося з таго, што гаспадар фермы недзе пачуў, што класічная музыка нібыта спрыяльна ўплывае на свіней, распальвае апетыт і скарачае час адкорму. Дзеля эксперыменту ён запрасіў двух музыкантаў, якія і згадзіліся даць канцэрт для свіней, не маючы, мусіць, лепшай аўдыторыі. Як паведамляе газета «Фігаро», парасяты з цікавасцю праслухалі Бетховена. Альбіёні абудзіў у іх апетыт, ад мелодый Моцарта іх пацягнула на сон.

Іранічна каменціруючы незвычайны канцэрт, «Фігаро» піша, што перад французскімі музыкантамі, якія канчаюць кансерваторыю, нарэшце адкрываюцца шырокія перспектывы. Маладым кампазітарам прыйдзецца пісаць цяпер творы, якія абуджаюць апетыт у свіней і павышаюць яйканоскасць курэй.

Тужлівая іронія ў газеты «Фігаро».

Р. СЯРЭБРАННІКАЎ,
карэспандэнт ТАСС.

Парыж.

